# Пятро Бітэль

# ПАЭМЫ



МІНСК «МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА» 1984

Частка першая

# НАСТАЎНІК

Qui non habet in aere,
luat in corpore [1].

## УСТУП

Назад на некалькі стагоддзяў
Ізноў вярнуцца я хачу,—
У час, калі работы годзе
Пяру хапала і мячу,
Сякеры, сошцы і лапаце;
Калі мужык у курнай хаце
Ад сцюжы, голаду гібеў,
Калі бурліў народны гнеў
Супроць паноў і іх улады,
А бунты, войны ды напады
Дабро знішчалі і народ
Праз не адзін дзесятак год.

Хачу вярнуцца я ў той час,
Калі кароль, паны, магнаты,
Ксяндзы, манахі, уніяты
Былі валадарамі ў нас.

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

У Вільні ў канцлера Сапегі
Праходзіць дыспут дзелавы
Адносна тактык і стратэгій
У дачыненні да Масквы.

Заслалі ёй аж двух Дзімітраў,
І вось з дваіх ні аднаго
Народ Масквы амбітны, хітры
Прызнаць не здумаў за свайго.

---

[1] *Хто не мае грошай, той плаціць сваёй асобай.* (Лацінская прыказка.)

Дык канцлер кажа: «Ці не годзе
Нам у царэвічаў гуляць?
Няма ім веры ўжо ў народзе,
Дык мо трэ тактыку мяняць?

Прашу выказвацца, панове,
Хто мае з вас праект які.
Ці нам на даўняй ткаць аснове,
Змяніўшы, скажам так, уткі,

Ці нешта новае наладзіць,
Чаго дагэтуль не было?»
«З Масквой нам цяжка будзе зладзіць,
Калі рабіць ёй зноў назло,—

Сказаў Ружынскі, ваявода,—
Бо як не выцерпіць яна,
То будзе зломлен мір і згода,
І можа ўзняцца зноў вайна...»

«Якая ж ваша прапанова?»—
Звярнуўся канцлер да яго.
«Што я? Вось так прыйшло да слова,
Спытайце іншага каго,
Ксяндза, напрыклад, езуіта,
А я жаўнер, не дыпламат...»

«Што ж, ад нікога з нас не ўкрыта,
Што сіл мы й коштаў клалі шмат,
Каб тыя планы ўрэчаісніць,—
Сказаў паважна езуіт.—
Прыйшлося так і гэтак ціснуць,
Часамі подкуп, часам спрыт
І розум пры перагаворах
Нам памагалі кожны раз,
Вядома, й пан бог быў за нас...
Заўжды сухім трымаць трэ порах,
Але апроч таго ў наш час
І нешта іншае ў запасе
На ўсякі выпадак трэ мець...

Вядома нам, што разышлася
У Маскве зноў чутка, што ўцалець
Усё ж царэвічу ўдалося,
Што ён хаваецца ў Літве...
Дык вось пашырыць шматгалоссе
Аб тым, што тутка ён жыве,

Не надзвычайная ўжо справа,
А адпаведны кандыдат
Таксама знойдзецца...»
«Цікава,—
Сказаў епіскап уніят,—
Дзе можна вышукаць такога,
Які б па прызнаках усіх
Пераканаць бы мог любога,
Што ён сапраўдны з іх траіх?»
«Навукай, добрым выхаваннем
Павінен ён пераканаць».
«Скажыце, скуль яго дастанем?»—
Спытаў Сапега.
«Сфармаваць,
Зляпіць такога мы павінны
Цішком, спакойна, спакваля
І да патрэбнае часіны
Хаваць нашчадка для Крамля.
Вось толькі так трэ йсці да мэты,
Каб на маскоўскі ўзвесці трон
Таго, хто будзе нам за гэта
Адданым, верным аж па скон».
«Былі ж нам верныя і тыя,
А вось сустрэў нас рад няўдач,—
Прамовіў Радзівіл,— пустыя,
Здаюцца, ксёнжа, мне, прабач,
Задумы, гэтыя й намеры.
Маскву ўжо цяжка абдурыць,
Цяпер не вельмі проста дзверы
У Крэмль Маскоўскі адчыніць
Пры дапамозе абібока,
Які б і ўсе навукі з'еў.
Там маюць пільнае ўжо вока
І затаілі слушны гнеў
За ўсе ранейшыя падкопы...»

«Тады было памылак шмат,
Цяпер мы знаем недахопы,—
Працягваў далей ксёндз прэлат,—
І зможам справу так павесці,
Што выйдзе так,
як трэба нам.
Не нанясём мы ўшчэрбу чэсці
Дзяржавы нашай.
Папа сам,
Хай бог яму дапамагае,
На гэта нас благаславіў...

Ён просіць, нават вымагае
Рабіць усё, каб наш уплыў
На ўсход няспынна пашыраўся —
Туды, дзе ерасі ўвёў грэк,
Каб наша Русь, а з ёй Масква ўся
Прымкнулі к уніі навек».

«Ну што ж, паны, жаданне Рыма —
Загад, скажу я вам, для нас.
Відаць, праект мы гэты прымем,
Спрабуем шчасця яшчэ раз,—
Сказаў Сапега,— а дэталі
Даручым вам, айцец прэлат».



«А мы ўжо іх распрацавалі,
Ёсць на прыкмеце кандыдат.
Яшчэ вось толькі засталося
Знайсці настаўніка яму,
Які б штодня гадзін па восем
Папрацаваў з ім праз зіму».





«А хто ж, цікава, кандыдат,
Якога роду, звання, ўзросту?»—
Спытаў епіскап уніят.

«Як вам сказаць? Ён хлопец просты,
Бацькоў, радні ў яго няма,
Цяпер яму гадоў з пятнаццаць...»

«Чакайце, гэта ўсё дарма,
У гэтым трэба разабрацца...
Дык не падходзяць жа гады!»—
Усе вакол загаманілі.—
«Дзімітры б быў немалады,
Вы нам тут, ксенжа, штось зманілі!»

«Я не абмовіўся, паны,
Таго Дзімітра роль сыграна,
Да той не вернемся маны —
Цяпер рыхтуем мы Івана,
Унука Мнішака, сынка
Дзімітра першага й Марыны.
Свайго, сказаць так, земляка
Ці ж падтрымаць мы не павінны?»

«Івана, кажаце? Вось як! —
Зноў загудзела памяшканне,—
Калі паставіць справы так,
Ніхто пярэчыць з нас не стане!
Дык хай жыве наш цар Іван!
Ідэя гэта неблагая!»

«Тады, відаць, зацвердзім план,
Ды толькі ўсіх прасцерагаю,—
Сказаў Сапега,— што маўчаць
Пра гэта трэба перад светам,
І хлопца школіць, навучаць,
Вядома, будзем пад сакрэтам».

Яшчэ дабавіў езуіт:
«Настаўнік будзе рускай веры,
Падбаем, каб быў эрудыт,
Каб навучыў хлапца ўсяму,
Што цар павінен знаць... каб дзверы
Ахвотна Крэмль адкрыў яму».

Гісторыя Гальшан губляецца ў вяках.
Быў гэта княства знакаміты цэнтр калісьці,
Знаходзіў слаўны Вітаўт тут гасцінны дах,
Тут ворагі шукалі славы і карысці.

Калі ж князёў гальшанскіх вымер род,
І Ягеллоны княства іх зліквідавалі,
Тады пасля змаганняў, подкупаў, нязгод
Князі Сапегі тут запанавалі.

І вось на скрыжаванні двух старых шляхоў,
На беразе Гальшанкі серабрыстай
Жыццё памалу пачало вяртацца зноў
У рытм прывычны.
Валадарна і фарсіста
Палац распалажыўся пры канцы сяла,
У цэнтры, побач з кляштарам — касцёл багаты,
А воддаль панскага і боскага жытла,
Як гурт авечак шэрых, сціснуліся хаты.

Жыве ў палацы-замку служак грамада,
У кляштары жывуць манахі-францішканы,
А ў тых халупах-будках люд ды гавяда
Бытуюць у бядзе й нястачы пастаяннай.

Хоць са сталіцы недалёка да Гальшан,
Паны сюды цяпер наведваюцца рэдка,
Загляне часам на дзён колькі з Вільні пан,
Ці пані з дзетварою выберацца ўлетку,

Каб скінуць з чэрава залішні фунт вагі
Ды трохі адпачыць ад клопатаў бяздзелля,
Паездзіць між палёў, прайсціся на лугі
Ці за грахі ва ўласным каяцца касцеле.

А князя ўжо той канцлерскі высокі чын
Змушае жыць зімой і летам у сталіцы,
І шмат дзяржаўных абавязкаў і прычын
Скіроўвае яго ў паездкі за граніцу.

І вось сягоння нечакана
Прыехаў князь. З ім быў манах.
А праз гадзіну ўслед за панам
Два панічы ўвайшлі пад дах
Старога замка над Гальшанкай.

З'явіўся к пану кашталян,
За ім слуга прынёс дзве шклянкі,
Віна бутэльку, квасу збан,
Талеркі, трохі перакускі,
Пакуль зрыхтуецца абед.

Сядзеў маўчком манах не рускі,
А князь сказаў:
«Дзяржаць сакрэт,
Скажы, ці ўмееш, пан Браніцкі?»

«Я верны, княжа, ваш слуга,—
Даў той адказ з паклонам нізкім,—
Я рад служыць вам, як мага.
Што трэба, толькі загадайце,
На колькі хопіць сіл маіх,
Зраблю ахвотна...
Выбачайце,
Чым мне ўслужыць у гэты міг?»

«Хвалю гатоўнасць і жаданне
Служыць мне верна і заўжды.
На гэты раз маё заданне
Цяжкім не будзе. Вось сюды
Прыедуць хутка ўслед за намі
Два з места Вільні панічы.
Адзін зусім юнец гадамі,
Другі настаўнік. Улічы:
Для ўсіх, хто толькі не спытае,
Малодшы — князеў, мой сваяк,
Адказ яго ўсім: сірата я.
А пан павінен знаць, аднак,
Глядзі ж не смей прагаварыцца,
Што ён царэвіч, што з Масквы,
Што ён Мнішкуўны сын, царыцы...
Загад такі мой дзелавы:
Выгодаў лішніх ім не трэба,
Пакоі ў замку адвядзі,
Пільнуй, каб мелі хлеб, да хлеба
І за бяспекай іх глядзі.

Малодшы пішацца Ян Луба,
Таго, што з ім прыбудзе ўраз,
Філосафа з казацкім чубам,
Зваць Філіповіч Апанас.
Заданне іх: вучыць, вучыцца,
Ні з кім чужым не сябраваць!

А вам — штомесяц у сталіцу
Ка мне цыдулку прысылаць
Пра іх паводзіны, намеры,
І як вучоба іх ідзе...»

«Вучыцель гэты рускай веры,
Як ён сябе тут павядзе,—
Манах у гутарку ўмяшаўся,—
Нам неабходна будзе знаць».

«Вядома,—
служка заспяшаўся,—
Не будзем гэтага мінаць
У нашых рапартах для Вільні...»

«Ну вось і ўсё,—
прамовіў князь,—
Ідзі ўжо, пан, наглядвай пільна,
Ды лішне ў вочы ім не ўлазь,
Каб не затраціў іх давер'я.
Наладзь начлег нам і абед.
Пабыць даўжэй тут меў намер я,
Аднак, назаўтра ўжо чуць свет
Дасі загад падаць каляску —
Вяртацца ў горад трэба нам».

«Так, так,— казаў той,— калі ласка...»
І нізка кланяўся панам.

## РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

Рвануўшы з дрэў сухое лісце,
Панура вецер засвістаў
І, хмары гонячы кудысьці,
Сыпнуў дажджом на сад і стаў.
І цемра сонца праглынула,
А ўвесь далёкі краявід
Адразу, быццам, апранула
У сумны шэры чваравіт[1].
І кроплі бойка заскакалі
Па сцежках паркавых прысад,
Па лускаватай дробнай хвалі
Ракі, што хлынула назад.

---
[1] *Чваравіт — адзін з відаў сялянскага самадзялковага палатна.*

Нібы чакаючы спакою,
Глядзеў маўкліва доўгі час
На парк стары па-над ракою
Настаўнік Лубы Апанас
І ўспамінаў гады былыя,
Старых бацькоў і родны кут,
Нястачы, радасці малыя,
Вучобу, поўную пакут...

Вось дасягнуў жаданай мэты —
Здабыў вучоную ступень,
І праца ёсць,—
прытулак гэты
Не стрэнеш лёгка кожны дзень,—
А сэрца ўсё чамусьці ные,
Грызе яго ўвесь час туга,
Хоць справы, клопаты зямныя
Нясе прызначаны слуга.
Няма, здавалася б, прычыны
Паддацца суму і журбе,
Ды вось трывожыць лёс айчыны,
Што гіне ў жорсткай барацьбе.

У гэты дзень халодны, слотны
Сябе хацелася вініць
За быт спакойны, бесклапотны,
Што мо не так павінен жыць,
Калі па мову і на веру
Вось больш ужо за трыццаць год
Ідзе нагонка, і не ў меру
Пакут кладзецца на народ.
Адмежаваўшыся ад свету,
Ці можа жыць спакойна ён,
Калі наўкол відаць прыкметы
Эпохі змрочных бурных дзён?

Нуда тут шэрая ў палацы.
Іван зубрыў заданы ўрок,
А педагог хацеў падацца
У парк, ды вось, нібы знарок,
Прыгнала раптам навальніцу.
Прыйшлося, стаўшы пры акне,
На нейкі момант запыніцца
І пачакаць пакуль міне.

Аж нечакана, як заўсёды,
З'явіўся побач кашталян:

«Прашу, паночку, вашай згоды,—
Прамовіў хутка,—
ясны пан
Канчаў высокія навукі,
Дык знае, што рабіць і як...
Зайсці ка мне прашу, бо мукі
Кладуць на ёй смяротны знак...»

«Прабачце, я не разумею,
Якая справа тут у вас,
Шаноўны пане дабрадзею»,—
Сказаў на гэта Апанас.

«Дачка мая, дачушка Зося
Ляжыць, як быццам у агні.
(І што, адкуль яно ўзялося?)
Вось так гарыць ужо тры дні,
А мы не можам дапамогі
Ніякай ёй, бядачцы, даць,—
Прашу пайсці вас да нябогі.
Прашу вас нам паспагадаць.
Навукі ж вам усе вядомы,
Вы ёй маглі б дапамагчы...
Не задарма ж прашу, вядома,
Зайдзі, мой пане, палячы.

Няма тут лекара другога,
Апроч, паночку мілы, вас.
Ў Ашмяны дальняя дарога
Ды ў гэткі сёння слотны час
Туды нялёгка дабірацца.
Слаў брычку ўчора я туды,
Ажно той лекар у гарачцы
І сам ляжыць. Дык ад бяды
Шукаю ў вас ратунку, пане...»

«Не лекар я, ды ўсё ж зірну,
Ў якім дачушка ваша стане»,—
Сказаў Панас гаваруну.

Яны сышлі па калідоры
Ў палаца левае крыло,
Дзе жыў Браніцкі.
Ў спальні хворай
Паўзмрочна, горача было,
І толькі свечка ля распяцця
Крыху рассейвала той змрок.

Пры ложку згорбленая маці
Сядзела, ўсклаўшы слёзны зрок
На твар, што ўвесь палаў ад жару,
На рук васковых неспакой...

Ступіў настаўнік крокаў з пару,
Абвёў вачыма ўвесь пакой
І падышоў да ложка хворай.
Яна ў бяспамяцтве была,
Зусім аслабленая зморай.

Прыпёрся бацька ля стала,
А маці, ўстаўшы, пазірала
З мальбою ў вочы юнака:
«На вас надзея ўся»,— сказала,
А з воч лілася слёз рака...

Рука паненкі церабіла
Нярвова коўдру на грудзях.
Ён змацаў пульс. Так сэрца біла,
Што аж яго насцігнуў жах,
Што вось-вось можа разарвацца...

«Спакойна,— сцішыў сам сябе,—
Тут нельга, братка, хвалявацца,
Аддайся цалкам барацьбе,
Калі яна табе пад сілу.



А ці пад сілу? Адступіць?
Без бою здаць дзяўчо ў магілу?
О не! Таго не можа быць!
Маё ўсё ўменне і старанне
Павінен я тут прылажыць!»





Бацькоў пацешыў:
«Панна ўстане,
Дачушка ваша будзе жыць,
Але вам прыйдзецца загады
Мае спаўняць праз нейкі час».

«Ой што вы, што вы! Будзем рады!» —
Бацькі запэўнілі ў адказ.

«Тады адкрыйце аканіцы,
Ўзніміце шторы на акне,
Акно рассуньце і з крыніцы
Збанок вады дастаўце мне».

І па загаду кашталяна
Было ўсё выканана ўраз
Дакладна, ціха і старанна,
Так, як падказваў Апанас.

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

У Вільні ў канцлера Сапегі
Нарада важная ідзе.
«Вітаю вас, сябры-калегі,
У нашай цеснай грамадзе,—
Прамовіў канцлер урачыста,—
Вось мы сабраліся зноў тут,
Каб кожны з нас мог асабіста
Разумны вынесці прысуд
Даўно пачатай намі справе.
Сягоння трэба нам рашыць
(Бо скора буду я ў Варшаве),
Як справу Лубы завяршыць.
Вядома нам усім, панове,
Што на маскоўскі царскі трон
Па нашай згоднай пастанове
Намечан хлопец той быў. Ён
Жыве ў адным з маіх памесцяў
Ужо без мала два гады.
Вось гэту справу трэба ўрэшце,
Каб не нажыць якой бяды,
Давесці сёння нам да ладу...»

«Чаму — бяды? — тут запыталі,—
Мо вы раскрылі, княжа, здраду?
Ці перашкоды ў чым паўсталі?»

«О не, паны, не ў здрадзе справа,
А ў тым яна, што царскі трон
Чакаў час нейкі Ўладзіслава.
Ужо ў Маскве мо быў бы ён,
Каб атрымаў на гэта згоду
У свой час бацькі-караля,
Ды той, не даўшы сыну ходу,
Сам здумаў панам стаць Крамля.
Таму, панове, можа стацца,
Што мы ідзём супроць двара,
Дык вось у гэтым разабрацца,
Па-мойму, самая пара.
Ды ёсць і іншыя прычыны,
Каб зараз нам абмеркаваць,
Ці справу мы спыніць павінны,
Ці той намер ажыццяўляць».

«А я пра гэта ўжо й забыўся,—
Сказаў маршалак Радзівіл,—
Мяне б пан канцлер не здзівіў,
Калі б з няўдачай прымірыўся.
Бо я меў гэткае ўяўленне,
Што справа скончана спаўна,
Ды канстатую на здзіўленне,
Што зноў пра тое ж гамана.
А можа стацца, што Варшава
Прыпіша здраду нам усім
І будзе мець на гэта права.
Нам апраўдацца няма чым,
Бо як дакажаш,
што не зналі
Мы пра намеры караля,
Калі з Масквою ваявалі,
Як мір падпісвалі... й пасля.
А з хлопцам трэба развязацца,
Няхай не муляе вачэй.
Яму ўжо колькі?
Год пад дваццаць?
Ну з гэткім справіцца лягчэй:
Узяць яго прыдворным можна
Ці прыпісаць у полк які,—
Цяпер наш час такі трывожны.
Я так мяркую...»
«Што стралкі,
Прабачце, вельмі нам патрэбны,—
Сказаў на гэта езуіт,—
Вы праўду кажаце. Хвалебны,

Я так сказаў бы, князь, ваш спрыт
Рашаць адным замахам справы,
Аднак, дазвольце мне сказаць,
Прыпомніць, пане мой ласкавы,
Што права звязваць, развязаць
Ідзе з апостальскай сталіцы...»



«А дзе, прабачце мне, граніца,
Дзе, скажам, той відомы знак,
Які палітыку ад веры
Ці то ад веры быт людзей
Сапараваў бы?
На паперы,
А не ў жыцці, князь дабрадзей.
Мы Лубу з нунцыявай згодай
На трон маскоўскі бераглі,
Ён каралю не перашкода.
А што ў той час рабіць, калі
Ні каралю, ні Ўладзіславу
Не ўдасца царскі трон заняць?
Якую знойдзем мы падставу
Свае правы там спаганяць?
А гэты хлопец — туз казырны,
Яго прад'явім мы тады,
Як не паможа дыскурс мірны,
Ні міжнародныя суды.
А ягамосць, наш круль ласкавы
Пра Лубу ведае здаўна,—
Без згоды Рыма і Варшавы
Не йдзе ў нас справа ні адна.
Чаму усё ж пытанне гэта
Сягоння зноў узнялі вы,
Пан канцлер?»
«Што ж, скажу — кабета...
Адной прыйшло да галавы,
Што наш, названы тутка, Луба,
Ні даць ні ўзяць, а сын яе,
Што хлопец быў адняты груба,
Дык супакою не дае —
Крычыць на вуліцах народу,
Што ён не царскі сын Іван
І не шляхоцкага нат роду,
А просты хлопец, сын сялян...»

«Навошта брэша баба злая?
Што Луба Ян — шляхоцкі сын,
Дакладна ўвесь наш ордэн знае,
Мы маем доказ не адзін.
А сцішыць бабу тую можна,—
Працягваў далей езуіт,
Перажагнаўшыся набожна,—
Людское сэрца не граніт:

Як за чырвонцы не прыкусіць
Яна расхлябаны язык,
Дык змоўкнуць той яе прымусіць,
Хто гэта ў нас рабіць прывык».

«Масква ўжо мае Міхаіла,—
Сказаў епіскап уніят,—
Яго сагнаць патрэбна сіла,
Дык не акупіць выйгрыш страт.
Супроць Жыгіманта — баяры,
Як нам вядома, і папы,
А гэта, так сказаць, філяры
Дзяржавы іхняй і слупы.
Яны баяцца рымскай веры,
Якую ўнёс бы ім кароль,
Таму прад ім зачыняць дзверы,
Ці іх прасі, ці іх няволь.
А нам цяпер няма выграння
Ізноў ісці на іх вайной.
Крулеўскай міласці старанні
Дарэмны ўсе, на погляд мой,
Адносна нат і Ўладзіслава.
Раней прынялі б мо яго,
Пакуль ішла войск нашых слава,
А сёння, маючы свайго
Цара, па чутках, не дурнога,
Масква не згодзіцца прыняць
Ні аднаго з іх, ні другога...

Ну, а пра Лубу што сказаць?
Па-мойму, хай яшчэ пабудзе
У кандыдатах на цара,
А там яго мы справу ўзбудзім,
Як прыйдзе зручная пара».

«І я лічу, што зараз шкода
Запланаванае ламаць,—
Сказаў Ружынскі, ваявода,—
Бо, скажам так, адкуль нам знаць,
Што будзе заўтра, за дзён колькі,
За месяц, год, за два ці тры.
Трымалі Лубу часу столькі,
Мо й дачакаемся пары,
Калі ён зможа нам прыдацца
Ці ў мірны час, ці ў час вайны.
І нам няма чаго баяцца —
Я гэтак думаю, паны».

«А вось з вучобай, хто мне скажа,
Што, як у будучым рабіць? —
Спытаў Сапега.— Вось што вяжа!
Далей працягваць ці спыніць?
Дзе, на якой трымаць ступені
Мы будзем далей юнака?
Увесці ў свет? Трымаць у цені?
Жаніць? Зрабіць з яго стралка?..»

І доўга ў ноч ішлі дэбаты,
Куды хлапца накіраваць.
Нарэшце быў праект прыняты:
Вучобы больш не прадаўжаць,
У лік Сапегі слуг прыдворных
Часова Лубу залічыць,
Трымаць яго ў адзежках чорных,
А хто і скуль ён, хай маўчыць.
Яго ж настаўніку Панасу,
Паводле ўмовы, чынш аддаць,
І хай ідзе. Праступкаў масу
За ім прыйшлося ўсім прызнаць:
Цярпець ён уніі не можа,
Бо з верай звязаны старой,
Народ бунтуе і, быць можа,
Наладзіў Лубу на свой строй.
Браніцкі ўжо даўно даносіць,
Што Філіповіч — шарлатан,
І францішканцы нават просяць
Забраць схізматыка з Гальшан.
Калі Браніцкаму даць веры,
Дачку яго абвараджыў
І, як ніводзін з кавалераў,
Яе давер'е заслужыў...

«Ну што ж, туды яму й дарога,
Няхай сыходзіць нам з вачэй!» —
Сказаў і бровы зморшчыў строга
Галоўны княства казначэй.

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Спаўзаў з палёў апошні снег,
Рака спакою больш не знала,
Аковы зімнія ламала
І, разгуляўшыся, наспех
Лугі і поймы запаўняла.

Развеяў вецер згусткі хмар,
І сонца ясна асвяціла
Палёў разбуджаных абшар,
І дальні лес, і парк дрымотны.
Вясны гарэзлівая сіла
Зайграла ў песнях жаўрука,
У крыках птушак пералётных,
У зыках мушкі і жука,
У першай кветцы на сугрэве
І ў тых, разгойданых на дрэве,
Што прагнуць хутка разгарнуцца,
Мільёнах радасных пупышак.

«А сёння Зосі апрануцца
І выйсці трэба дзе ў зацішак,—
Сказаў Браніцкаму Панас.—
Хай пасля немачы цяжкое
У гэты вось цудоўны час
Яна расстанецца з пакоем,
Няхай пагрэецца на сонцы,
Адчуе водар веснавы —
Пах лісця прэлага й травы.
Напэўна, здаўся ёй бясконцым
Той час яе немагаты».



I вось з палаца ў парк сівы
З падмогай служак выйшла Зося.
Віталі дрэвы і кусты
Яе вясеннім шматгалоссем,
А лёгкі ветрык лашчыў твар
I выклікаў румянец кволы.



Зімы мінулае кашмар
І рой пачуццяў невясёлых —
Адчай, бяспамяцтва, надзея
І свет пусты і анямелы —
Усё памалу адступіла,
Пайшло ў няпамяць прад падзеяй,
Што вось яна, хоць і нясмела,
Нагамі ўласнымі ступіла
На сцежкі паркавай пясок,
Дзе кожны ўздых і кожны крок
Цудоўнай дзеяй пацвярджалі
Прыліў у цела новых сіл.
О як жа здаўся свет ёй міл!

І гэты парк, і тыя далі,
Хмурынкі ў небе, сінь вады,
Люстэркі луж, што праглядалі
З-за дрэваў стройнай чарады —
Усё навокал хвалявала,
Пяшчотна лашчыла душу.
Здаецца б, вось расцалавала
Пад гэтых дрэў магутны шум
Усіх людзей і ўсё на свеце
Туліла б зараз да грудзей!
А сэрца мела на прыкмеце
Яго... найлепшага з людзей,
Які адняў яе з рук смерці,
Які змагаўся доўгі час,
Каб не дазволіць ёй памерці,
Ён — мілы, любы Апанас.

Ён быў ёй лекарам і нянькай,
Дарадцам, сябрам і слугой,
Калі з затоенай тугой
Даваў ёй зелле, ставіў банькі...

Калі міналі дні і ночы,
Снягамі сыпала зіма,
А смерці цень не адступаўся,
Тады пакой яе дзявочы,
Яе лячэбніца й турма,
З яго з'яўленнем ажыўляўся.
Бывала, доўгія гадзіны
Пачварных жудасных начэй
Ён, не адводзячы вачэй,
Праседжваў моўчкі ля гардзіны
Яе высокага акна.

А як суцішана яна,
Павекі змружыўшы, драмала,
Ён падсядаў бліжэй, бывала,
І ў твар яе глядзеў бяззводна.
І быў тады ён гэткім родным,
Такім бясконца дарагім,
Што ўжо, здавалася, з другім,
З ніякім больш нідзе, ніколі
Не будзе гэтак добра ёй.
І жар спадаў, сціхалі болі...

Любой гадзінай і парой
На кліч з'яўляўся ён, бывала,
І не паскардзіўся ні разу,
Што сну, спакою яму мала,
І што яна сябе (перш, зразу)
Не вельмі ветліва вяла...
Дык вось сцяжынкаю ішла
І дні былыя ўспаміпала.

А ў гэтым часе на балконе
Стаяў і думаў Апанас
Пра дзень далёкі ўжо сягоння,
Калі сустрэў ён першы раз
Вось гэту кволую дзяўчыну.

Знайшоўшы нейкую прычыну,
Яна зайшла ў той калідор,
Дзе з Лубам ён кватараваўся.
З пакоя выйшаўшы, ва ўпор
Ён з ёю твар у твар спаткаўся.
Яна, як ружа, ўспалымнела,
Аднак, упэўнена і смела
Сказала:
«Пане педагог,
Я — Зося, дочка кашталяна,
Я знаю вас, бо пастаянна
Праз вокны ў парку бачу вас.
Мо пан бы мне пазычыць мог,
Хоць на зусім кароткі час,
Ну хоць якую-небудзь кніжку.
Нуда ў нас тут, а часу лішку
Хацела б я заняць чытаннем...»

«Ахвотна дам,
ды вось пытанне:
Ці тое з кніг, што я тут маю,

Цікавасць вашу задаволіць,
Бо навуковыя ўсе...»

«Знаю,

Ды я магу сябе зняволіць
І прачытаць і зразумець
Не толькі казкі і балады.



А як не дам часамі рады,
Тады прашу на ўвазе мець,
Што к вам з пытаннямі звярнуся».

І вось тады ён завінуўся —
Прынёс ёй кніжку, растлумачыў,





Якія скарбы ў ёй схаваны.
Аднак дзяўчыны больш не ўбачыў,—
Прыйшоў Браніцкі ўсхваляваны,
Прынёс з падзякай тую кнігу,
Прасіў прабачыць за фатыгу,
Якую панна прычыніла,
І просьбу ветліва і міла
Выкладваў пану педагогу,
Што не жадаў бы,
каб нябогу
Навукі кніжныя муцілі.

«Жанчыне хопіць тых пазнанняў,
Што ксёндз ды маці прышчапілі,
Бо ад навук ды ад чытання
Ва ўгоду тым замежным густам,
Прабачце мне, адна распуста.
Дык вось прашу вас, мой паночку,
Ніяк не ўздзейнічаць на дочку,
Ні кніжнай мудрасцю,
ні словам»,—
Закончыў ён сваю прамову.

І ёй, відаць, забаранілі
З вучоным мужам сустракацца.
Але праз месяц ці дзён дваццаць
У замку ўсе загаманілі,
Што Зося цяжка захварэла.
Лячылі, ведама, няўмела
Яе манахі і шаптухі,
Аднак цяжкой бацькоўскай скрухі
Яны ніяк не разагналі,
Бо з кожным днём марнела Зося.

І вось тады ім і прыйшлося
Прыйсці з бядой к яму, Панасу,
Прасіць ягонай дапамогі.
Мінула з дзён тых многа часу,
Нямала страху і трывогі
Перажылі бацькі і слугі,
Пакуль устала зноў на ногі
Дзяўчо,
якое ўсе любілі...

Праз нейкі час з усёй акругі,
Прайшоўшы вёрсты, нават мілі,
Сляпыя, хворыя, калекі
З'яўляцца сталі к педагогу
Па слова добрае і лекі,
Пры тым што дня іх прыбывала.
І вось калі народу многа
Ля брамы замкавай стаяла
І гучным стукам у вароты
Пусціць да лекара прасіла,
Брапіцкі выйшаў да галоты
І аб'явіў,
што змусіць сілай
Падацца прэч усіх ад брамы,
Калі не пойдуць неадкладна.

Панас у момант гэты самы
Хацеў за іх прамовіць слова,
Ды кашталян сказаў зларадна:
«Ці часам пан не адмыслова
Сюды склікаеш гэту марнасць?
Аднак, такая папулярнасць
Па-мойму, можа вам зашкодзіць.
Таму, прашу вас, калі ласка,
Сваіх трымацца абавязкаў
І тутка мне не валаводзіць».

Пачаў памалу разбрыдацца
Натоўп дарогай і паўз стаў...

Але з народам сустракацца
Панас усё ж не перастаў.

Наведваць сам стаў люд убогі
У змрочных хатах-буданах,
Дзе ён ад рознае знямогі
Тых, хто прасіў яго, лячыў
І, як пустэльнік ці манах,
Спрадвечным праўдам іх вучыў.

А пачуццё, што ў ім нясмела
Узнікла ў дні хваробы Зосі,
За кожным днём мацнела, спела
І канчаткова развілося
У найшчырэйшае каханне.

Дзяўчыны смелае прызнанне,
Што ён даўно ёй люб і міл,
Яго надзвычай акрыліла
І новы свет яму адкрыла,
Але ён ведаў — іхніх сіл
І ўсёй настойлівасці волі
Бадай не хопіць для таго,
Каб ім злучыцца ў адной долі.

«Бацькі не згодзяцца ніколі,—
Сказаў ён разу аднаго,—
Каб ты маёю жонкай стала,
Дык што ў нас будзе з нашым шчасцем?
Відаць, цябе мне трэба ўкрасці.
Мяне б такое не стрымала,
Але ці вынесеш ты гэта?
Вось з чым павінен я лічыцца...»

«А мо ўзмацнею я за лета?
Не трэба будзе больш лячыцца,
Тады з табою падамося,
Куды ты здумаеш ісці,
Калі б часамі не ўдалося
Да ладу з таткам мне прыйсці.
Бо мама, ведаю, не будзе
Пярэчыць мне і згоду дасць.
Яна мне кажа: лепш бязлюддзе,
Абмову выцерпець, напасць,
У хаце жыць гнілой, пахілай,
У кляштар лепш сябе схаваць,
Чым быць аддапай замуж сілай
І век з нялюбым векаваць.

Здаецца мне, праз час каторы
Мы зможам тату ўгаварыць,
Хоць знаю я яго «гуморы»,
Ды будзем верыць і любіць».

І ён дзяўчыне не пярэчыў,
Хоць знаў, што мноства перашкод
Яму рыхтуе гэты год,
Што трэба сіл нечалавечых,
Каб здолець ім перамагчы
Адсталасць, коснасць, забабоны,
Шляхоцкі гонар... і ключы
Знайсці к Браніцкага «суконнай»
Неўраўнаважанай душы.

Ды і не толькі ён паўстане,
А ўсе сумлення таргашы —
Ксяндзы, манахі, уніяты
Не пашкадуюць сіл, старання,
Каб не збыліся тыя сваты.
Для іх — мужык ён і схізматык,
Без роду-племені галыш
І да таго йшчэ на дадатак
Бунтар народа. Ну дык ці ж
Магчыма ждаць ад іх спагады?

Ён гэта добра разумеў
І, не знайшоўшы іншай рады,
Душыў у сэрцы боль і гнеў.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

Сплывала ў прочкі з неба хмара,
За ёй пахмуркі — нацянькі.
Між вольх, кустоў уздоўж ракі
Лягла, як лёгкі вэлюм, пара.

Будзіў жаўрук званочкам поле.
Духмяны водар веснавы
Ад свежаўкошанай травы
Ішоў далёка ў наваколле.

Было так ціха і прыгожа
Сярод лугоў і збажыны,
Як толькі ў нас парой вясны
У гэткі ранні час быць можа.

Цішком, устаўшы на світанні,
Праз парк, праз тайны пералаз,
Як і бывала ўжо не раз
Настаўнік рушыў на спатканне
З людзьмі, якія папрасілі
Праз басаногіх пасланцоў,
Каб ён да іх хутчэй прыйшоў,
Бо хтосьці ў вёсцы абяссілеў.
Хоць знаў, што дзейснай дапамогі
Не зможа ён без лекаў даць,
Ды мог парадзіць, спагадаць,
Рассеяць родзічаў трывогі.
Таму на кліч не адазвацца,
Калі сярмяжнік у бядзе,

Лічыў злачынствам, дык ідзе
На край сяла к убогай хатцы.

Зайшоў у змрочную камору:
«Дзень добры вам, гаспадары.
Няйначай, бацька ваш стары,
Як і раней, зноў цяжка хворы».

«Ды не. Другая ёсць прычына
Звярнуцца к вам у гэты раз.
Вось тут спынілася у нас
Старая хворая жанчына
І вельмі хоча вас пабачыць.
Ледзь-ледзь прыдыбала сюды
(І трэба ж нам такой бяды),
Злягла ў гарачцы і маячыць».

«Адкуль яна, чаму не дома
Ёй давялося захварэць?»

«Прыйшла, як стала ўжо цямнець,
А хто яна, нам невядома.
Адразу нам сказала ўчора,
Што трэба ёй пабачыць вас,
І ўжо пыталася не раз,
Ці вы наведаецесь скора».

За печчу хворая стагнала.
Ён сеў на зэдлік побач з ёй.

«Прабачце мне за неспакой,
Ды вельмі ж часу ў мяне мала,—
Пачуў ён ціхі голас хворай.—
Хачу я ўпэўніцца йшчэ раз,
Хто ў замку... вучыцца пры вас
Пад пільнай вартай і запорай».

«Завецца той юнак Ян Луба,
Ён князя-канцлера сваяк.
Чаму цікавіцеся так
Вы ім?»
«Мыляецеся груба
Ці мо, па княжаму загаду,
Вы мне не смееце сказаць,
Хто ён такі, адкуль, як зваць?
Але, дазвольце, я прысяду,
Бо вельмі дух мне запірае...»

Памог ёй сесці Апанас,
Паднёс глынуць у кубку квас,
Тады прадоўжыла старая:

«Хто ён, адкуль, як зваць, я знаю,
Бо я паўсвету абышла,
Пакуль яго вось тут знайшла,
Ды толькі позна, бо ўміраю.

Ён не царэвіч, сын Дзімітра,
Як вам магнаты наплялі,
А сын палескае зямлі,
Ад роднай маці ўзяты хітра.
Яго схапілі езуіты
(Малога ж лёгка ўгаварыць,
Схаваць ад свету і скарыць).
Дык вось... не пан ён знакаміты,
А мой сынок...
Сюды плялася я здалёк,
Мне след манахі паказалі...



Манахі нашы, не ўніяты...
А вось чужынцы, лаціняне
Давалі водкуп мне багаты,
Каб я пакінула старанні
Знайсці яго... і пагражалі...
Пасля казалі мне, што звер
Яго забіў і што цяпер
Надарма пошукі і жалі.
Я ім не верыла, шукала...
Не для сябе, а для яго.
І вось скажу дзеля чаго:
Яшчэ на свеце не бывала,
Каб лгун шчаслівым заставаўся...
А вось манахі ды паны
Яго гадуюць для маны...—
Каб ён маніў і не хістаўся,
Каб ён забыўся пра сумленне,
Прадаў нячысціку душу...

Няспынна бога я прашу —
Яму вымольваю збаўленне...
Пашто яму чужая слава?
Ну, каб зманіў ён, скажам, раз,
Ну, скажам, лгаў там нейкі час,
Дык то зусім другая справа —
Народ наш грэшыць, бо гаруе...
Але маніць праз цэлы век!
Таго яму ні чалавек,
Ні бог ніколі не даруе...

А хай ён толькі паслізнецца,
Няхай адкрыецца мана,—
Пачнецца бунт, разня, вайна...
Куды яму тады падзецца?
Як перанесці страх і сорам,
Калі пачнуць яго прэч гнаць
І здзек чыніць, і праклінаць
Асобна кожны і ўсе зборам?..
Было ж ужо ў Маскве такое...
Дык дапусціць я не магу,
Каб з сына мне ілжы слугу
Ляпілі вы сваёй рукою...

Таму, пакуль яшчэ я ў сіле
(Вы, кажуць, чэсны чалавек),
Хачу прасіць вас, каб на здзек
Івана вы не пасусцілі...

Калі б магла яго я ўбачыць,
Сказала б мо яму сама
Пра гэта ўсё... але, дарма,
Не ў сілах лёс мы перайначыць...
Ды ці ў старой жабрачцы хворай
Прызнаў бы маці ён сваю?..
Вось я прад госпадам стаю,
Бо чую: мне штораз то горай,
І вас прашу, мой пане мілы,
Няхай даведаецца ён,
Што шмат гадоў ажно па скон,
Наколькі мне хапала сілы,
Яго я, плачучы, шукала...

А зараз вось праз вас прашу:
Няхай не губіць ён душу,
Няхай ідзе куды папала,
Абы далей ад ашуканства...
Цяпер ён дужы, малады,
Дык працу знойдзе заўсягды
Без езуітаў і без панства...»

Лягла і нейкую часіну
Маўчала, ўглядзеўшыся ў столь,
Пасля спытала, змогшы боль:
«Ну ці раскажаце вы сыну
Пра ўсё, што я казала тутка?»

«Абавязкова раскажу!
Пайду к яму і прыкажу
Сюды да вас з'явіцца хутка!
А гаспадыні дам загады,
Каб згатавала вам адвар
З травы, якая зніме жар
І сцішыць сэрца перапады.

Вам трэ спачыць, не хвалявацца,
Тых зёлак выпіць і паспаць,
Іван не змусіць вас чакаць —
Захоча чым хутчэй спаткацца».
Падаўся ў замак хуткім крокам,
А думка мучыла адна:
Дык, значыць, гэта ўсё мана!
Ілжы служу, хоць ненарокам.
Рыхтую, значыць, самазванца
За тымі ўслед, што не змаглі
Ўтрымацца калісь у Крамлі.

Дык вось якога выхаванца
Падсунуў мне ты, князь-дабродзей!
Ну што ж, служыў я, покуль мог,
Але ўжо далей, бачыць бог,
На гэтай службе быць мне годзе.

А як Іван? Няўжо не знае,
Хто ён такі, скуль родам ён?
Ці проста ён хамелеон
І роль сваю свядома грае?
Ды зараз высветліцца справа.
Ён дасць мне ясны свой адказ.
Недамаўленне паміж нас
Не можа мець падстаў і права!



Але чаму ў нас насцеж дзверы
І непарадак навакол?
У шафе пуста, ссунут стол,
Лісткі валяюцца паперы,
І з ложка ўся пасцель забрана...
Чаму ж тут гэткі балаган?
А дзе ж падзеўся сам Іван?
Зірнуў і ўбачыў кашталяна,
Які ў дзвярах цішком з'явіўся.

«Вось покуль пан шпацыраваў,
Тут адбылося колькі спраў,—
Прамовіў ён, а твар скрывіўся
Усмешкай хітраю і ўмільнай.—
Ад князя мне прыйшоў наказ,
Каб безадкладна, хутка ўраз
З прысланай вартай неадхільна
Адправіць княжыча ў сталіцу,
Вось ён і выехаў...»
«Калі?»
«Гадзіны тры ўжо мо прайшлі.



А тут яшчэ, каб не забыцца,
Пакет вам князеў перадалі...»

Раскрыў, зірнуў. Ну так,— разлік.
Заробак выйшаў не вялік,
Ды так ці так, не жыць тут далей.

«А з чым з'яўлюся я ў той хаце,
Дзе на запечным тапчане
Ў трызненні, можа, ці ў паўсне
Чакае сына свайго маці?—
Заклапаціўся не на жарты
Навінай гэтай Апанас.—
І трэба ж сёння вось якраз,
Каб гэтак лёс паблытаў карты!»
І ля стала на бераг крэсла,
Адчуўшы раптам стому, сеў.

Прыпомніў, што яшчэ не еў,
Калі абед яму прынесла
Дзяўчына з кухні, як заўсёды.
Яна зірнула навакол,
Талеркі ставячы на стол,
І прашаптала:
«Я нагоды
Раней пабачыць вас не мела
І не магла вам перадаць
Таго, што вам цікава знаць...»

«Ну дык кажы, расказвай смела,
Няма апроч нас тут нікога».

«Пан Ян адбыў ужо ад нас...»

«Я гэта знаю».
«Ў той жа час
Адсюль паехала нябога,
Паненка наша, панна Зося...»

«Як так, паехала?! Куды?»

«Не знаю, пане. Нелады,
Ці толькі гэтак нам здалося,
Цяпер былі ў яе з бацькамі.
Пагрозы пана, пані плач
Мы чулі ўчора. Пан, прабач,
Вас абзываў ён байстрюкамі,
Даваў і іншыя мянушкі...

Ды вы ж не выдайце мяне,
А то бізун не абміне
Плячэй гаротнай панскай служкі.
Дык Зосю з паняй пан адправіў,
Відаць, у нейкі дальні шлях.
Яна так плакала, аж страх!
І ксёндз іх крыжам благаславіў.
Яны з двара, а ў браму замка —
Чатыры конных гайдукі.
Каня ў сядле за павадкі
Вялі з сабой, пасля ў напрамку
Ашмян з Іванам паскакалі.

Ад панны Зосі — лісцік вам;
Сказала я, што перадам.
Мы ўсе ад рання вас шукалі...»
І, распусціўшы трохі станік,
Дастала ліст і падала.

Ён адарваўся ад стала
І ля акна пачаў чытанне:
«Мой дарагі, найлепшы, любы!
З табой нас хочуць разлучыць.
Злуецца татка і крычыць,
Кляне цябе, жадае згубы.
А мама? Мама толькі плача.
Мяне адгэтуль павязуць,
Ды ты мне вер і верным будзь,
Дык буду я тваёй, юнача!
Табе я вестку неадкладна
Адтуль падам, дзе буду я.
Цяпер бывай, душа мая,
Прабач, што так пішу няскладна,
Ды ўсё так выйшла нечакана.
З табой сустрэцца не магу,
Шлю гэты лісцік праз слугу...»

«Дык вось і ўсё. Ці ў кашталяна
Развагі, сэрца ёсць няма многа? —
Спытаў з прылівам горкіх слёз.—
Куды ён хворую павёз?
Чым адгукнецца ёй дарога?
Няўжо не хоча ён лічыцца,
Што мо смяротны прыгавор
Дачцэ выносіць? Ёй надзор
Патрэбен пільны, і лячыцца
Яшчэ ёй прыйдзецца не мала:

Не хопіць мо яшчэ і год,
Бо невядома, ці сухот
Яна, бядачка, не дастала!»

«Пайсці, сказаць мо кашталяну,
Што ён, бязмозглы, натварыў,—
Быў першы водгук і парыў.—
Ды не. Злаваць? Вярэдзіць рану?
Яго ж нішто праняць не зможа!
Не скажа ён мне, дзе яна.
Ды мне яе, хоць з пекла дна
Любоў мая дабыць паможа!»

З душою поўнай крыўды, злосці
Рашыў ізноў пайсці ў сяло,
Бо неабходна ўсё ж было
Сказаць жанчыне хворай штосьці.



Але прыблізна ў паўдарогі
Двух пасланцоў спаткаў малых.
«А бабкі тої няма ў жывых»,—
Прамовіў хлопчык басаногі.

Благія справы, Апанас,
Цябе раптоўна акружылі.
Быў ясны дзень, вясенні час,
І вось напасці чорнай крыллі
Уміг блакіт завалаклі,
Згасілі сонца залатое,
І не заўважыў ты, калі
Бяздомным стаў і сіратою.
Прытулку ў замку ўжо няма —
І вучань знік твой, і заняткі...
Ды ў роспач кідацца дарма —
Такія ўсюды ў нас парадкі.



Цяпер, няйначай, да сяброў
У Вільню трэба падавацца
І там шукаць сабе ізноў
Жылля, занятку — іншай працы.
Мядзяк з абліччам караля
Кухарцы даў, каб неадхільна
На адрас новага жылля
Пра Зосю звестку слала ў Вільню.

Занёс свой клунак у абоз,
Што ў бок сталіцы поўз дарогай,
І вось шукаць жыцця другога
Павёў яго няўмольны лёс.

Частка другая

# БАРАЦЬБІТ

Што тут чынілася у даўнія гады,
Што думалі, чаго бажалі мы тады,
За што змагаліся, як баранілі веру,—
Хай зведаюць усё патомкі праз паперу!

*М. Багдановіч*

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

Жыццё пражыць — не луг прайсці.
Мы знаем гэту прыгаворку,
Ды вось напрамак як знайсці
І правадніцу лёсу —
зорку,
Якая б выбраць памагла
Сярод бясконцых бездарожжаў
Уціску, слёз, хлусні і зла
Свой шлях праўдзівы і прыгожы?
І ў свет бязлітасны, чужы
Якімі плынямі ўлівацца?
Ў якія ўпрэгчыся гужы,
Каб з іх пасля не адступацца?
І як змірыць радзімы лёс
З уласным лёсам і каханнем,
Якое ў шчырым сэрцы нёс?..

Такі бясконцы рад пытанняў
І розных іншых думак рой
Праймаў у Вільні Апанаса,
Калі пад Замкавай гарой
У ценю ліп сядзеў ён часам,
Або на плынь Вяллі-ракі
Скіроўваў зрок свой невідушчы,
Ці як палямі нацянькі
Ішоў шукаць адказу ў пушчы.

Мінала летняя пара,
Няўзнак падкрадвалася восень.
Аж раз, дзе жыў, сярод двара
Пачуў расказ...
Няўжо пра Зосю?!

...«Яна здаровая, жыве
У хроснай дзесь пад Магілёвам
Пры князя брацісе-ўдаве,
І ёй там добра, адным словам...»
Яшчэ казаў гандляр-яўрэй
(Ён чуў ад родзічаў у Лідзе),
Што мо праз месяц ці скарэй
Браніцкіх дочка замуж выйдзе,
Што знатны пан яе жаніх,
Ды не тутэйшы, а з палякаў,
Што шлюб у Вільні будзе іх,
А потым выедуць у Кракаў...

Яшчэ працягваўся расказ,
Ды ўжо далей яго не слухаў
Збялелы раптам Апанас,
Нібы аглушаны абухам.

«А я ж пісьма яе чакаў! —
Ледзь крык балючы не прарваўся,—
Надзеяй жыў, гарэў, шукаў
І вось нарэшце дачакаўся!..
Другі знайшоўся там! А я,
Дурны, выглядваў добрых вестак
І дасядзеў, пакуль мая
Не стала іншага нявестай!

Аднак не веру, каб яна
Была ахвотна тую згоду
Ім даць, памецілі здаўна
Скарыць яе, калі не з ходу,
Дык просьбай, хітрасцю, маной
І з дапамогай спавядніцы...
А дзе ж ёй кволай і адной
Хапіла б сіл абараніцца!

Яны ўкароцяць ёй жыццё,
У гэтым пэўны я бясспрэчна.
Забіўшы ў сэрцы пачуццё
Нахабна так, бесчалавечна,
Зламаюць лёс, што быць бы мог
Шчаслівым, светлым і прыгожым,
А так... той замуж, як астрог,
Як птушцы клетка, стацца можа.

А я? Што я зрабіць магу?
Пратэставаць? Забіць трывогу?



Мне ў вочы скажуць, што я лгу,
Чарню нявінную нябогу.
Бяссільны я, бо адзінок,
Ніхто мяне не падтрымае,
І мой любы намер ці крок
Практычнай вартасці не мае...»





## РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

Цёмная келля сырая —
Нары, услончык ды стол,
Свечка ў куце дагарае,
Ціша і глуш навакол.
Голаў падпёршы рукамі,
Думае думку манах,—
Цісне былое, як камень,
Моцна засеўшы ў грудзях.

Думаў, замруць успаміны,
Ды ўсё хвалююць, пякуць...
О, як бяссоння хвіліны
Сумна, марудна цякуць!

Часаў нядаўніх здарэнні
З памяці збыць няма сіл:
Дзень быў туманны, асенні,
Дробненькі дожджык трусіў...
З думкай сваёй невясёлай
Замкавай плошчай ішоў,
Бачыць: натоўп ля касцёла,
Некалькі брычак, вазкоў...
Тут расчыніліся дзверы,
Люд расступіўся ў бакі.
Стаў ён у натаўпе шэрым:
Хто ж там выходзіць такі?
Ў белі, з вянком маладая,
Побач з ёй пан пажылы —
Бацькам хутчэй выглядае,
Лысы і ростам малы.

Стойце!.. Ці добра я бачу?!
Гэта ж ніхто, як яна!
Вейкі напухшыя з плачу,
Тварык, нібы з палатна!
Стомлена сінія вочы
Ў натаўп звярнула на міг,
Твар загарэўся дзявочы,
Вочы сустрэліся іх.
Нешта прамовіць хацела,
Але, відаць, не змагла —
Звяла раптоўна ўсё цела,
Вочы закрыла імгла...
Скошанай кветкай упала...
. . . . . . . . . . .

Што там? О дзе ж ты там, дзе ж?!
Дайце зірнуць!.. Але чвалам
З месца панёсся картэж...

Трэці ўжо месяц мінае.
Ён, праваслаўны манах,
Вось без канца ўспамінае
Твар яе, вочы ў слязах,
Постаць прыбітую горам,
Бездапаможны ўзмах рук...
І ля яе... Як не сорам?! —
Гэты нахабны вяпрук!

Твар затуліўшы рукамі,
Думае думку манах,
Думку, што ціснe, як камень,
Моцна засеўшы ў грудзях...

Пачуўся лёгкі стук у дзверы:
«Не спіцца, браце Апанас?
Не сплю і я: для нашай веры
Настаў цяжкі бязмерна час.
Пайшлі на нас у наступленне
Кароль,
лацiннікі,
паны...
Ва ўсёй Літве «стаўпатварэнне»,
Разгул, свавольства сатаны,—
Пачаў ігумен ад парога
Выказваць клопаты свае,—
Няма сапраўднай веры ў бога,
Дык вось ён нам крыжы дае...

К табе я ў келлю гэткім раннем
Прыйшоў, ты цяміш, нездарма.
Рашылі ўчора мы сабраннем,
Ды й багародзіца сама
Зрабіць нам гэта падказала,
Цябе, брат, рукапалажыць
(Такіх, як ты, ў нас вельмі мала),
І будзеш богу ты служыць
Свяшчэннаіераманахам.
А потым вызначыць сам бог,
Дзе, пад якім табе быць дахам,
Які ўздымаць табе цальнёг.
Што ты на гэта, браце мілы?
Ці згодзен сан святы прыняць?»

«Манах я, ойча, і ўсе сілы
Прысягу даў царкве аддаць,
Служыць ёй верна, паслухмяна.
Жаданне ваша — мне загад».

«Тады рыхтуйся, заўтра рана
Мы здзейснім той святы абрад».



Ходзяць хмары дажджавыя,
Ападае з дрэваў ліст.
Вецер бойкі то завые,
То падыме сумны свіст.

Па калдобінах дарогі
Цераз лужыны і гразь
Ледзь пляцецца конь убогі,
Крэкчуць колы, стогне снасць.
А насупраць той падводы,
Каб каню палёгку даць,
Крочаць моўчкі пешаходы —
Два мужчыны. Грэбля, гаць
Іх вядзе ўжо час каторы
Між алешын, хмызнякоў
Праз гнілых балот прасторы,
Неабжытыя з вякоў.

«Пачынае ўжо змяркацца,
Трэба нам да цемнаты
Да паселішча дабрацца.
Замарыўся, бачу, ты,—



Паляшук сівабароды
Ў час хады загаварыў.—
Вось тут хутар Пераходы,
А вунь там, дзе той абрыў,
Пачынаецца мястэчка.
Ёсць там крамы і карчма...
Но, Гняды! Ўжо недалечка.
І двух вёрст, лічы, няма».

На каня махнуўшы пугай,
Ён працягваў маналог:
«Стала жыць нам вельмі туга,
Цяжка жыць, не дай ты бог.
Прыдзіраюцца да веры,
Мову хамскаю завуць
І без літасці і меры,
Быццам ліпку, нас дзяруць.
І ніскуль няма падмогі,
Не пажалішся нідзе...
Чэзне, мрэ наш люд убогі
Ў недастачах і бядзе.

Я не ведаю, ці ўсюды
Так, як тут, жыве народ.
Нас дык вельмі жмуць прыблуды,
Наязджомы розны зброд
(Папы рымскага найміты)
Хітры, прагны і пусты.
Уніяты, езуіты,
Сёстры божыя, браты
Пра збаўленне наша дбаюць,
Абяцаюць неба, рай
І, як чэрві, абжыраюць
Бедны наш палескі край...

Што вы скажаце на гэта,
Падарожны чалавек?
Бачу, ёсць у вас асвета,
А не то, што ў нас, няўмек.
Дык вы мне б мо раз'яснілі,
Скуль прыйшоў закон такі,
Каб яны нас так цяснілі,
Каб цярпелі мужыкі?
І чаму старая вера
Сёння лічыцца благой?
І дзе ёсць такая мера,
Каб зраўняць яе з другой?»

«Адказаць на ўсе пытанні
Не так проста, дружа мой,—
Адазваўся запытаны.—
Неабходна жорсткі бой
Аб'явіць бясчынствам гэтым,
Што аблыталі народ,
Зданы розным прайдзісветам
На пакуты, здзек і гнёт.

Справы ў нас стаяць, брат, блага,
Ясна гэта сёння нам,
Не за намі перавага —
Воля дадзена панам.
Але нельга паддавацца
Ні пагрозам, ні хлусні,
Веры, мовы адцурацца
Нельга нам ніяк! Ані!»

«Ну а што, калі не зможам
Доўга націску стрымаць?»

«З волі божай пераможам
Лацiністаў і іх раць.
Вер мне, брат, я — рыцар божы!»

«Вы чарнец? А як вас зваць?»

«Я з тутэйшага народу,
Зноў вяртаюся да вас.
З Філіповічаў я роду,
А завуся Апанас».

## РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

У Пінску, ў доме езуітаў,
Нарада важная ідзе
Аб тым, што кляштар дызунітаў,
Які ў Дубойскай слабадзе,
Кляйміць стаў папскіх слуг заўзята.
З'явіўся знекуль там дзялок,
Які ўжо многа уніятаў
Назад у схізму завалок.
Здабыў давер'е вельмі хутка
І абдурыў люд цёмны ўраз —
Дайшоў да кожнага закутка
Чарнец-схізматык Апанас.

«Прыйшоў нам з Вільні тайны строгі,—
Казаў старэйшы з іх,— загад,
Прыняць фанатыка з дарогі,
Не дапусціць далейшых страт.
Дык што вы скажаце на гэта,
Святыя ў Езусе браты?»

П е р ш ы  М а н а х

Што ж, ясна вызначана мэта,
І метад вінен быць круты:
Паслаць людзей вядомых трэба
З загадам цвёрдым,
каб яны
Яго адправілі на неба
Без лішніх слоў і гаманы,
Тады адновіцца парадак,
Настане ціша і спакой.

Д р у г і  М а н а х

А я лічу, прабач, з парадай
Змірыцца нельга нам такой.
Вядома ўсім нам без прыкрасы,
Што ў схізмы ён — аўтарытэт,
І не такія сёння часы,
Каб так вось з ходу на той свет
Адправіў нехта чалавека,
І ўсе канцы табе ў ваду.
У гэтай справе небяспека
На ордэн наш наслаць бяду.
Тут трэба дзейнічаць умела,
Удар нанесці трэба так,
Каб чэрнь падумаць не пасмела,
Што наш нанёс яго кулак.

Т р э ц і  М а н а х

А ты канкрэтна, брат Амброжы,
Усім нам выясні свой план.

Д р у г і  М а н а х

Улезці ў лагер трэ варожы,
Пайсці на хітрасць і спадман,
Пазнаць, чым дыхае, што любіць
Чарнец славуты Ананас...
Падсунуць бабу, хай галубіць
Ці хай над чаркай глуміць час,
А потым так павесці справу,
Каб кожны ўбачыў і пазнаў,

Хто ім духоўную нёс страву,
Хто ў нашай справе замінаў.

Чацвёрты Манах
Хоць план Амброжага не новы,
Але прыдацца можа тут,
Таму што я ўжо чуў размовы,
Што быццам гэты шалапут
З адною дзеўкай вельмі ладзіў,
Ды, кажуць, кінула яна,
Паводле іншых, сам ён здрадзіў.
Дзе праўда тут, а дзе мана,
Цяпер для нас не важна гэта,
А важна, што адной з прынад
Напэўна можа стаць кабета,
Ёсць шанс тут трапіць акурат.

Пяты Манах
Падсунуць трэба маладуху,
Каб адпаведная была
Па прыгажосці і па духу,
Ну... і каб нас не падвяла.

Другі Манах
Жанчыну выбраць нам не цяжка,
Але найлепш бы падышла
Былая іхняя манашка,
Што ва ўніяты перайшла.

Прыёр
Знайдзі такую, брат Амброжы,
Душэўна з ёй пагавары,
Скажы ёй, што інтэрас божы
Яе там спыніць да пары,
Пакуль схізматыка ў спакусу
Яна адкрыта не ўвядзе.

Пяты Манах
А што зрыхтуем злому русу?
Падловім як? калі? і дзе?

Прыёр
А гэта справа ўжо другая,
Пазней мы вырашым яе.
Цяпер хай бог дапамагае,
Пачатак добры хай дае.
Праз тыдні два збяромся зноў тут,

Назначым месца, зручны час,
Навучым, што рабіць, сяброўку
І правядзём інсцэніроўку,
Як нам здаралася не раз.

Трэці Манах
А што рабіць, калі не ўдасца
Таго дзялка перахітрыць?
Ён, кажуць, хай яго там трасца,
Мастак не толькі гаварыць,
А й свой мужыцкі розум мае
І добра знае мудрасць кніг...

Першы Манах
Ну, гэта нас не паўстрымае,
Змяталі мы і не такіх,
У нас улада ёсць і сіла...

Шосты Манах
І ад усіх дзвярэй ключы.

Прыёр
Як не, дык князя Радзівіла
Папросім нам дапамагчы.
І так ці так, я маю слова,
Што кляштар той аддасць ён нам,
Ды трэба нам абавязкова,
Каб вораг зломлены быў там.
Дамо яму так паслізнуцца,
Каб проста трапіў у турму,



Тады хутчэй к нам прыхінуцца
Усе, што верылі яму.

Трэці Манах

А як «Артыкулы спакою» —
Дэкрэт апошні караля
Абыдзем мы?

Першы Манах

А што ж такое?
Уся на Піншчыне зямля
Належыць князю Радзівілу.
І валадар тут толькі ён.



Прыёр
Як згоду дасць, прыменім сілу
І схізму выкурым стуль вон...

Шосты Манах
Вось будзе права і закон!

Усе
Амэн!

## РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

Як пацярпеўшыя крушэнне,
Калі да выспы даплывуць,
Свае абмацваюць кішэні
І бедным скарбам лік вядуць,
Так ледзь жывымі з навальніцы,
Дубойскі здаўшы манастыр,
Прыйшлі ў Купяцічы прыжыцца
Манахі-старцы й правадыр.
І тут апошніх дзён здарэнням
Яны цяпер улік вялі —
Усім напасцям, сутыкненням,
Хлусні, нянавісці,
калі
Ва ўгоду пінскім езуітам,
Імя бога і Хрыста,
Загадам грозным і сярдзітым
Князь гнаў іх з даўняга паста.

І ні судовыя паперы,
І ні дэкрэты караля,
Пратэст людзей спрадвечнай веры,
Што, нібы пчолы ля вулля,
Ля цэрквы роднае гудзелі,
Абараніць іх не змаглі.

У ноч з суботы на нядзелю,
У час, як людзі спаць ляглі,
Пачуўся грозны стук у дзверы,
А следам — лаянкі і крык.
Глядзяць манахі: аж жаўнеры
З узбліскам шабляў, лесам пік
Усе будынкі акружылі
І, покуль хто што змог паняць,
Замкі, пячаці налажылі.

Загад быў дан: рыззё сабраць
І праз хвілін не больш, як дваццаць,
Усім, як ёсць, з манастыра
У свет шырокі падавацца,
Бо як міне тая пара
І знойдуць тут каго жывога
У схоўцы нейкай там, нары,
Гаворкі будзе з ім не многа —
Не ўбачыць ранішняй зары...

Панас сядзеў маўклівы, хмурны
З цяжкой ад думак галавой.
Настрой нярадасны, хаўтурны,
Чужы душы яго жывой,
Не пакідаў яго сягоння.
Ён зноў і зноў перажываў
Напад, уцёкі і пагоню,
Як праз балота і праз стаў
Ды хмызнякамі прабіраўся...
Відаць, даўно ўжо князь-магнат
Уплыву папскіх слуг паддаўся
І не інакш, як даў загад
У той начной неразбярысе
Яго прыціснуць дзе няўзнак,
Дык вось жаўнеры і ўзяліся
Загад той выпаўніць. Аднак,
Не выйшла гэтак, як хацелі
Найміты Езусавых слуг,
Бо ён, падняўшыся з пасцелі,
Да Піны рушыў цераз луг.
Калі ж заўважылі дазоры,
Што ён збіраецца ўцячы,
Дык праз платы, равы, разоры
За ім пагналіся ўначы...

Раней жанчына падказала,
Што на Дубойскі манастыр
Такая ладзіцца навала,
Ды ён не верыў: клір на клір,
Няхай сабе вызнанняў розных,
Не пойдзе збройнаю вайной!
(Няверʼе тое ў момант грозны
Прызнаць быў змушаны віной.)

Апроч таго са слоў кабеты
Пазнаў і ўцяміў вельмі шмат
Пра хцівасць, замыслы, сакрэты,

З якімі здрадзіўся легат,
Калі даваў ёй настаўленні
І на грахі благаславіў.
Яна ў набожным засляпленні
Пайшла на здраду, ды раскрыў
Яе тут ён у хуткім часе,
Дык расказала ўсё сама
І спешна ўпрочкі падалася:
«Туды, дзе уніі няма!»

«Дык вось якія небяспекі
Мяне маглі не абысці,—
Сказаў Панас сабе,— на здзекі,
Глядзі, свой люд не папусці,
Бо ясна *што*, мараль якую
Чужынец, унія нясе...
Яшчэ пра вас я паталкую,
Раскрыю бруды вашы ўсе!»

## РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

«Дарогі, дальнія дарогі!
О, колькі ж вас, шляхоў-дарог,
Таптаных лапцем, капытамі,
Ступнямі чорных босых ног,



Чаўном збарозненых, плытамі
Праклаў праз край наш люд убогі!

Дарогі, дальнія дарогі!
О, колькі ж вас пазнаць я змог,
Праз месты едучы і сёлы,
Праз пушчы, нетры і цальнёг,
Праз край абдзёрты, невясёлы,
Праз нівы кволыя й аблогі!





Няўдачы, роспачы, трывогі
Вялі мяне і ўноч, і днём,
Аднак свяцільнік моцнай веры,
Які ў душы гарэў агнём,
Казаў, што споўняцца намеры,
Што не дарэмны шлях мой гэты
Сюды, ў Маскву, дзеля «ялмужны» [1],
Што я сваёй даб'юся мэты —
Змагу манарху расказаць,
Пра што ў Варшаве марыць знаць
І як жыве наш люд лапцюжны.

І вось, мінуўшы ўсе кардоны,
Праз сто ці больш мо перашкод
Прыбыў нарэшце, ды заслоны
Мне ставяць зноў і ў свой чарод
Не прапускаюць да цара.

Відаць, без помачы пяра
Я ў Крэмль ніяк не дабяруся,
А знаць цару даўно б пара
Пра справы ў нас на Беларусі...—
Так разважаў чарнец Панас.—
Пішы ў пасольскі, брат, прыказ.
Калі праўдзіва і прыгожа
Сваё апішаш падарожжа,
То прыме цар тады, быць можа».

. . . . . . . . . . . . .

У дом заезны на Ардынку
Прыбыў крамлёўскі пасланец:
«Ці тут пасол жыве?»
«Хвілінку,
Які пасол?»
«Пасол-чарнец,
Што ў вас, сказалі, затрымаўся».

«Чарнец тут ёсць, але ці ён
Пасол, патрэбны вам, не знаю.
Жыве ўжо тут ён многа дзён,
Спярша пісаннямі займаўся,
А вось цяпер бяду з ім маю:
Даўно не плаціць за пастой,
Не мае грошай харчавацца...»

---

[1] *Ялмужна (польск.) — міласціна, матэрыяльная дапамога.*

«З табою гутаркай пустой
Няма калі мне тут займацца,
Ідзі, скажы: прыйшла пара
Яму з'явіцца да цара,
Скажы, што я чакаю тутка,
Вядзі яго, ды толькі хутка!»

І вось Панас ужо ў Крамлі.
Пад рукі служкі правялі
Яго ўздоўж залы да цара.
На небе гасла ўжо зара,
І набліжаўся час вячэры,
Дык не адразу ў змроку шэрым
Усё разгледзеў Апанас.
Сядзеў у крэсле Міхаіл,
А ў стужцы з шыбы дробны пыл
Дрыжаў, клубіўся і якраз
Хаваў, як вэлюм, царскі твар
І тых, што побач з ім былі.

«Хадзі бліжэй,— прамовіў цар
(Панаса тут жа падвялі),—
Скажы дакладна, скуль і хто ты,
Пашто і з чым прыходзіш ты?
З уласнай волі і ахвоты
Прыбыў сюды ці мо лісты
Чые прывёз па даручэнню?»

Паклон адбіўшы самы нізкі,
Сказаў Панас: «Мае запіскі,
Вялікасць ваша, цар наш слаўны,
Наш памазанец праваслаўны,
Да вас, мяркую я, дайшлі.
Я там пісаў, з якой зямлі
Прыбыў сюды, з якою мэтай.
Я вельмі ждаў сустрэчы гэтай,
Каб вам дапоўніць свой расказ.
Я — служка божы Апанас,
Па прыказанні маці божай
Пусціўся ў гэта падарожжа
Цяжкое, поўнае трывог,
І добра знаю: каб не бог
І не яго святая воля,
Масквы б не ўбачыць мне ніколі.
А ён прывёў мяне сюды,
Каб я вас, можа, ад бяды
Ці небяспек перасцярог.

Сказаць пра ўсё, што мне вядома,
Ніяк дагэтуль я не мог...»

«Ну што ж, расказвай, павядом нас».

«Ёсць справы важныя, якіх
Дастоен толькі царскі слых».

Цар знак падаў, і праз хвіліну,
Апроч двух знатных ваявод,
Усе, хто быў, пакой пакінуў.

«Не знаю я, ці той прыгнёт,
Які мы церпім, вам вядомы,—
Пачаў расказваць Апанас,—
Чужынцы пышацца у нас,
Як не адважыліся б дома.
Злачынствы ўсе ім сходзяць з рук,
Зусім не лічацца з законам.
Ад іх мы бачым столькі мук
І столькі здзекаў, што ўжо стогнам
І плачам поўніцца наш край...



Але галоўнае не гэта,
А вось, вялікасць ваша, знай,
Што ў нашым краі пад сакрэтам,
Рыхтуюць зноўку самазванца
На ваш маскоўскі слаўны трон». 



«Якога, дзе зноў ашуканца
Паны літоўскія знайшлі?
Дзімітры трэці ці хто ён?
А рушаць з ім да нас калі?»

«Не, гэтым разам не Дзімітры,
Але ўжо сын яго Іван.
Вядомы мне намер і план
Даўно задуманы і хітры,
Бо хлопца я адукаваў
І свята быў пераканаш,
Што бог ад смерці захаваў
Унука Мнішака, Івана.
Што ў зман паны мяне звялі,
Прызнацца ў тым не вельмі люба.
Той хлопец просты, ад зямлі,
А зваць яго Ян Фаўстын Луба...»

Устаў цар, пляснуў у далоні.
Ахова ў залу ўбегла ўраз.
«Размовы скончаны сягоння,
Айцец духоўны Апанас —
Пасол, прыбыўшы з-над Вяллі,
Дык, як належыць, у Крамлі
Кватэру ўраз яму адвесці,
Сачыць, каб меў што піць і есці!»

Пасля звярнуўся к Апанасу:
«Адкласці трэба нам бяседу
Да заўтра, на пасля абеду,
Бо сёння ўжо не маем часу».

І цар манаха ўпадабаў.
Яны ўжо ўдвух пасля ў Крамлі
Штодзённа гутаркі вялі
На тэмы розных важных спраў.
Чарнец цара заваражыў
Сваім шырокім кругаглядам.
А як Панас пазней здружыў
З асоб прыдворных знатных радам,
То ўсе прызналі, што ігумен
Таленавіт, вучон, разумен.
І цар сказаў яму аднойчы:
«Застанься ў нас, шаноўны ойча,
Тут будзеш мець і хлеб, і дах
І хутка будзеш у чынах,
Бо муж ты мудры і вучоны».

І Апанас сказаў з паклонам:
«О, праваслаўны гасудару!
Насіў я ў сэрцы гэту мару,
Каб з вамі жыць і працаваць,
Аднак жа гора гараваць
Павінен я з сваім народам,
Які бязмерны церпіць гнёт,
Прычым цяжэйшы з кожным годам.
За дабрату,
за шмат турбот,
За вашу шчодрую падмогу
Я ваш маленнік на ўвесь век,
Аднак пара ўжо мне ў дарогу,
Я ж паднявольны чалавек.
Мой кляштар, пэўне, б'е трывогу,
Што я паехаў і прапаў».

І цар яго больш не трымаў,
Загад стральцам даў клапаціцца
Аб ім да самае граніцы.

## РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

Даўней у Берасці суседзі
Жылі ў сяброўстве, міры, згодзе.
Калі ўзнікала спрэчка недзе,
Яе разбор вялі на сходзе,
А потым мусіў вінаваты
З суседам скрыўджаным змірыцца.
Закону бедны ці багаты
Ніяк не мог не падчыніцца.

Калі ж паны і езуіты
Народ у унію пагналі,
Калі касцёл іх прагавіты
Ішоў ў наступе ўсё далей,—
Замест сціслейшага яднання
Рэч Паспалітае народаў,
Пайшоў разлад, грызня, змаганне.
І з кожным днём расла нязгода
У сем'ях, цэхах, сёлах, местах
Паміж суседзямі,
братамі.
І не было ў краіне месца,
Дзе б не збіраўся люд гуртамі,
Не наракаў, не хваляваўся.

Кляймілі «грэкі» уніятаў,
А хто ўжо ў унію падаўся,
Той праваслаўным дух выматваў.
І ўжо не права, а бязладдзе,
Нахабства скрозь запанавала.
Хто ж меў заступнікаў ва ўладзе,
Таго й Варшава прызнавала.

У Брэсце цэркваў больш дзесятка,
І вось, глядзіш, яны аддадзены
Ўсе уніятам,
без астатка.
Шумеў народ усхваляваны,
Бо праваслаўных больш было там,
Чым тых, што унію прызналі.
Не раз рамеснікі, галота
Супраціўляцца прабавалі,
Але жаўнеры ваяводы
Змяталі іх, як вецер лісце.
І больш было з тых бунтаў шкоды,
Чым відавочнае карысці.

Яшчэ так-сяк ліпела брацтва,
Ды членаў стала менш паловы,
Дык не было каму змагацца
За лёсы веры, школы, мовы.
І ўжо здавалася парою,
Што ў новай польска-папскай плыні
І звычай з вераю старою,
І мова родная загіне.
Але тады з'явіўся ў месце
Чарнец Панас, ігумен жвавы
І стаў адважна, стойка весці
Царквы пакрыўджанае справы.

Знайшоў старыя дакументы —
Наданні цэрквам ад магнатаў,
Аднак пратэсты, аргументы
Ні езуітаў, ні ўніятаў
Не пранялі, не ўсхвалявалі.
Ксяндзы не думалі расстацца
З тым, чым нядаўна заўладалі,
І абвінялі нават брацтва
У злосснай дзейнасці варожай
Супроць рэлігіі і ўлады.
Тады ён сцяміў, што не зможа
На месцы даць нахабству рады,

Што не інакш, як у Варшаву
На сейм паехаць давядзецца
І каралю зладжыць заяву,
Калі дапусцяць з ім сустрэцца.

«Звярнуцца трэба ў імя бога
Да справядлівасці манаршай.
Не можа быць,— казаў,— такога,
Каб не прызнаў ён крыўды нашай».

## РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

Калі на сесіі сяймовай
Яму дазволілі ўзяць слова,
Ён так казаў без хвалявання:
«О, найяснейшы каралю і пане!
Прывітанне,
Паклон зямны і добрых пажаданняў многа
Прымі праз Апанаса, служку бога,
Ад сваіх падданых
Бядой прыгнечаных, загнаных,
Пакрыўджаных, бяспраўных,
Ад люду грэцкай веры — праваслаўных.

Зірні спагадна, пане наш ласкавы,
На нашы справы
І з той
Бязмежнай дабратой,
Якой ты нам, бывала,
Даў доказаў не мала,
Прызнаўшы прывілеяў рад,
Дай свой загад,
Каб ні паны, ні езуіты, ні ўніяты,
Ні слугі іх,
                    ні іх салдаты
Праследваць нас далей не смелі.

Даўней у Берасці мы мелі
Дзесятак цэркваў і аж тры
Манастыры,
А вось цяпер з таго былога
Не засталося ў нас нічога —
Усё забралі супастаты,
Бацькоўскай веры здраднікі — ўніяты.
А кіравалі імі і кіруюць езуіты —
Нахабны ордэн, хцівы і сярдзіты.

Не прызнае нас ні адна з дзяржаўных установ.
Як на звяроў,
Глядзяць цяпер на тых, хто ўсходняй веры.
Для нас зачынены ўсе дзверы,
Мы сталі людам сорту горшага, другога,
Хоць славім бога,
Як славілі яго ўсе продкі нашы.
Вось мы ў сваім паддашшы
Не пэўныя ані маёмасці, ані жыцця.
Вядзе ўсё гэта ў нас да разліцця
Крыві народнай.
Няма цяпер мясціны ў нас ніводнай,
Дзе б панавала, як калісьці, згода.
Глядзі, наш найяснейшы пан, каб гнеў народа
Не выплеснуў праз берагі!..
Вось клопат недастойнага твайго слугі:
Табою данага для брацтва прывілею
Зацвердзіць ані як я не здалею —
Каронныя пан канцлер
І падканцлер
Прыкласці адмаўляюцца пячаць.
«Ідзі у унію, тады пацвердзім!» — мне крычаць.
О не! Я тым, кім ёсць, звякую!
А ў справе валакіты той мяркую,
Што ў нас датуль не будзе ладу,
Пакуль любога каралеўскага загаду
Усе не будуць дэталёва выпаўняць.
Усе ў каралеўскай радзе — радзь,
Аднак рашэнне, як закон,
Належыць каралю. Што скажа ён —
Для ўсіх загад.
І канцлер, гетман ці магнат
Таму павінен падпарадкавацца,
А не глядзець, напрыклад, на ўніяцтва
Або на тое, што дыктуюць езуіты...

О, пане найяснейшы, прагані ты
Чужынцаў гэтых з Рэчы Паспалітай
І унію навекі загубі!

Пакуль не позна, так зрабі
З усёю хеўрай нам варожай.
Не ад сябе прашу, а па загаду маці божай
Купяціцкай, якая мне
Не раз з'яўлялася наяве і ўва сне,
І да цябе звярнуцца загадала.
Прытым мне так сказала:

«Калі кароль не супакоіць грэцкай веры
І тая унія, нахабная без меры,
Ва ўсёй краіне
Не загіне,
То гневу божага, суда яго настане горкі час».



Вось гэты багародзіцы ў крыжы абраз
Прашу прыняць як папярэджання яе святога знак.
Даруй мне, найяснейшы пане,
Калі мо што сказаў не так.
Жыві сто год і каралюй нам, пане наш,
І просьбы нашы ўсе ласкава ўваж!»

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ

У сейме гнеў і абурэнне:
«З чыйго загаду, паручэння
Пасмеў якісьці там манах
Прыйсці сюды, пад сейма дах
З такой нахабнаю прамовай?
Чаму яго не запынілі?
Хто дапусціў яго да слова?..»

На перапынку гаманілі
Паслы-папісты, уніяты,
З каронных земляў дэпутаты,
І згодна ўсе яны вінілі
Паслоў-ліцвінаў грэцкай веры,
Што тут манеўр іх прадузяты,
Каб здзейсніць даўнія намеры —
Літву з Каронай разлучыць...

«Кароль няхай сабе маўчыць,
А мы, паслы, не маем права
Не адказаць на той паклёп,
Які ўзвёў тут схізматык-поп
На наш закон!» — крычалі справа.

«Аддаць пад суд сепаратыстаў!» —
Выкрыкваў нехта з-між папістаў.
А злева хтосьці ўставіў басам:
«А ці не варта было б, часам,
Паслухаць мірна і разважыць
Усё, што нам тут самі скажуць
Паслы — усходнія ўладыкі?»

Тады і ўзяў, устаўшы, слова
Стары епіскап з Магілёва:
«Я прызнаю: афронт [1] вялікі
Нанёс ігумен Апанас
І каралю, і ўсёй дзяржаве,

[1] *Афронт (франц.) — зняважа.*

Аднак жа, што датычыць нас,
То абвіняць вы нас не ў праве.
Не мы яго на сейм зазвалі,
Прамовы з намі ён не ўзгодніў,
І выступаць ад цэрквы ўсходняй
Яму мы права не давалі...»

«Караць яго ў вас ёсць жа права?»

«А гэта іншая ўжо справа,
Мы пакараць яго павінны
За парушэнне дысцыпліны —
Ён абышоў епіскапат
І на сябе ўзяў вельмі шмат,
Таму цяпер яго чакае
Пакута строгая, цяжкая».

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕСЯТЫ

Апанас

Здаўна вядзецца пагаворка:
«Не заракайся торбы і турмы».
І гэту праўду, як ні горка,
З табой павінны сцвердзіць мы.
Што скажаш, браце мой Лявоне,
На гэты выбрык землякоў,
Якога вынікам сягоння
З'явіўся наш варшаўскі схоў?
Ну, я здаўна ўжо ў ненавісці
І ў чужакоў, і ў тых сваіх,
Якія ўласнае карысці
Не забываюць ні на міг,
А вось чаму цябе ў цямніцу
Запёр са мною архірэй?

Лявон *(дыякан)*

А ён, я думаю, баіцца,
Што я ад гэтых вось дзвярэй
Пачаў бы ўраз шукаць адмычкі,
Пакуль былі б вы пад ключом,
Што я, хоць званнем невялічкі,
Ды не сядзеў бы ціхачом.
Тут многа нашых грэцкай веры,
На сейм прыбыўшых, дык яны
Маглі б прыйсці сюды пад дзверы
І нарабіць тут гаманы,

А не, дык нават і патрэсці
Яго як след за бараду...
Абы было каму павесці,
Парушыць тую грамаду.

А п а н а с
А варта ўзняць было б паўстанне
Пад самым бокам караля.
Няхай бы ўбачыў хваляванне,
Што ўжо даўно не спакваля,
Але гвалтоўна рвецца вонкі.
Рашэнні б мо прыняў хутчэй.



Калі б пратэсту голас звонкі
Не даў самкнуць яму вачэй.
Хутчэй мо б выгнаў чужаніцаў
І наш загнаны бедны люд
Ад здзекаў збавіў і пакут.

Прайшло дзён колькі. Нечакана
Зайшлі ў час позні з ліхтаром
У лёх той трое. Хоць старанна
Закрылі твары каптуром,
Але пазналі вязні зразу,
Што першы — пінскі уладыка,
Другі — прэлат, духоўнік Вазаў [1],
А трэці, ростам невялікі,
Пузаты трокскі ваявода.
Падняўся з нар сваіх манах,
Устаў Лявон. А пры дзвярах
Стаялі тыя ля ўвахода.

А р х і р э й *(пінскі епіскап)*
Ну як, мяцежны Афанасій,
Ці ты прызнаў сваю віну?
Ці ўсё йшчэ лезці на сцяну
Ў цябе ахвота засталася?

А п а н а с
Ігумен я, не акрабат,
Таму прашу на гэткі лад
Са мною гутаркі не весці...
Прасіў бы вас я тут прысесці,
Ды для кампаніі такой
Не прыспасоблен мой пакой.

---

[1] *Ваза — прозвішча караля Уладзіслава IV, які быў па нацыянальнасці шведам.*



Прэлат
Прыйшлі сюды мы ў імя божа,
Таму не варта б вам, быць можа,
Так з ходу гневацца на нас.

Архірэй
Мы хочам, ойча Апанас,
Абмеркаваць, пагаварыць,
Як нам далей у згодзе жыць.

Апанас
Турэмшчык з вязнем — не сябры.

Архірэй
Яно мо так... да той пары,
Пакуль канфлікт між імі ёсць.

Прэлат
Учора вязень, заўтра — госць,
Так можа лёс перамяніцца.
Святліцай можа стаць цямніца,
Сухар змяніцца на пірог,
Калі праявіць волю бог.

Архірэй
Да вас прыйшлі мы з прапановай:
Калі не будзеце вы новай
Вайны з уладамі ўзнімаць
І лад дзяржаўны шанаваць
Дасце сваю сягоння згоду,
То вас адпусцім на свабоду.

Апанас
Дык што мы, значыць, бунтары?
З якой, скажыце мне, пары
Завецца бунтам просьба ў нас?
Вось вы і знаеце якраз,
Што не шукаю я багацця
І не прашу сабе чужога,
Але назад хачу забраць я,
Што ў нас аднята ў імя бога.
Хачу зазначыць яшчэ раз:
Не для сябе прашу — для нас,
Для ўсіх ліцвінаў грэцкай веры,
Цяпер пакрыўджаных без меры,
Вярнуць былое, аднавіць
І далей бога не гнявіць
Паблажкай уніі праклятай...

А р х і р э й
Вось ты больш уніі не кратай,
Жыві цішком, маліся богу,
Не лезь на слізкую дарогу,
Якая ў бездані вядзе...

А п а н а с
Не спачуваць людской бядзе
Я з абавязку не магу
І больш таго — не маю права.

П р э л а т
Пра ўсіх клапоціцца дзяржава,
І нат найменшага слугу
Яе апека не міне...

А п а н а с
Маўчыце лепш пра гэта мне.
Вядома ўсім, што прынцып гэты
Аджыў у нас, бо прайдзісветы
Уладу маюць і на тых,
Хто бачыць хцівасць, прагнасць іх,
Хто іх нахабства пакрывае,
Кладуць зламысніка кляймо.

П р э л а т
Ну недахопы ёсць дзе мо,
Ды пра законнасць суд наш дбае.

А п а н а с
Што ж, дбае суд, айцец прэлат,
Ды вельмі часта неўпапад,
І не крыўдзіцеляў карае...

А р х і р э й
Мы ўжо ад тэмы адышлі.
Я паўтарыць хачу: калі
Дасі нам зараз абяцанне
Пакінуць з уніяй змаганне
І што ўжо больш не будзеш брацца
За справы вашага там брацтва,
То мы адпусцім на свабоду
Абодвух вас вось зараз, з ходу.

В а я в о д а
Дамо ахову і падводу,
Каб вас, дыякана й багаж
У манастыр адвезла ваш.

Аплацім кошты падарожжа...
Жаданні ёсць у вас, быць можа?

Прэлат
А я дадам: айцец ігумен,
Будзь дальнабачліў і разумен,
І для святога міру, згоды
Не адкідай цяпер нагоды
Прыстаць да уніі святой...

Апанас
Займацца гутаркай пустой
Не варта нам, бо мы не дзеці,
А я не кіну, як Мялецій [1],
Ні веры роднай, ні братоў.
Скажу вам проста: я гатоў
Любыя здзекі перанесці,
Да смерці гніць за гэтай кратай,
Жыццё аддаць сваё, нарэшце,
Але той уніі праклятай
І не прызнаю й не прыму!

Прэлат
Тады скажы ж нам хоць чаму?

Апанас
Ну што ж, скажу. Прашу прабачыць
За словы шчырыя мае.
Хто ўмее думаць, слухаць, бачыць,
Той разумее й прызнае,
Што гора унія прынесла
Народу беднаму майму,
Што ій вёску ўзбурыла, і места,
Людзьмі запоўніла турму,
Людзьмі, якіх віны ўсяго,
Што не зракаліся свайго
Старога звычаю і веры...

А намаганні ж і намеры
Слуг верных папы і палякаў
Вядомы ўсім і зразумелы:
З паноў зрабіць перш ваўкалакаў,
Каб кожны з іх, як ачумелы,

---

[1] *Мялецій Сматрыцкі (1572—1630), епіскап полацкі, спярша актыўны барацьбіт супроць уніі, пазней стаў уніятам і асудзіў, як ерэтычныя, свае ранейшыя творы.*

Аддаўся справе ляшскіх змоў...
Магнат, што ў папства перайшоў,
Мяшчан і шляхту спакушае,
А селяніна прымушае
Ад мовы, веры адракацца,
Перад чужынцамі ўніжацца
І за адным зрабіцца махам
І рым-католікам, і ляхам,
Забыцца, кім ён быў калісьці...

П р э л а т
Гаворыш гнеўна, ў ненавісці,
Манаху б так не выпадала.
А я скажу табе:
 замала
Глядзець на справы аднабока.
Не ўмееш бачыць ты далёка —
Не дурні унію стваралі,
І хрысціянскае маралі
Яна ніяк не нарушае.
Касцёл наш толькі запрашае
Царкву усходнюю з'яднацца,
І аб прымусе няма мовы...

А п а н а с
Што ўсе пустыя гэта словы,
Той можа ў нас пераканацца,
Хто пабывае ў Вільні, Оршы,
У Брэсце й іншых местах, сёлах.
Цяпер уціск у нас там горшы,
Чым Русь цярпела пры манголах.
Зірніце мірнымі вачыма
На нашы справы і падзеі,
І ясным стане, дзе прычына,
Што так лютуюць ліхадзеі —
Паны, падпанкі і прыблуды
Манахі вашы рознай масці.

П р э л а т
Каб добрай волі вам прыкласці,
Дык стала б мірна, ціха ўсюды.

А п а н а с
Цярпення ў нас і добрай волі
Не бракавала аніколі.
Ліцвін з палякам аб'яднаны,
Як вольны з вольным, роўны з роўным,

Ды прынцып той не захаваны
У самым важным і галоўным:
У акт братэрства, аднадушша
Унеслі ляхі крывадушша
І ім кіруюцца няспынна...

Вось вы ўявіце на хвіліну,
Што *мы* да вас спярша ў палацы
Пачалі хітра прабірацца
І, адурманіўшы багатых,
Папоў шматтысячны атрад
Пачаў наводзіць рускі лад
І ў гарадах, і ў вашых хатах.
Каб вашы школы зачынялі,
Касцёлы ў цэрквы замянялі,
Знішчалі рукапісы, друкі,
З культуры,
мовы
і навукі
Рабілі здзекі, жарты, кпіны,—
Як вы глядзелі б на такое?
А мы вось гэта ўсё павінны
Прымаць з паблажкай, з супакоем?!

П р э л а т
Культуру мы ў ваш край прыносім,
Святло праўдзівай веры ў бога...
А што вы нам маглі б прынесці?

А п а н а с
У нас адказаў вам знайшлося б
На гэту тэму вельмі многа,
Ды трэба кончыць спрэчку ўрэшце,
Яна не дасць нам анічога.

А р х і р э й
Ну што ж, ігумен Апанас,
Не наракай тады на нас,
Бо вось ты вораг сам сабе.

П р э л а т
У гэтай вашай барацьбе
Недастатковыя матывы
Ды і няма ў ёй перспектывы.

А п а н а с
Затое ёсць святая мэта.

А р х і р э й
А што, дыякан, ты на гэта?
Ці хочаш выйсці на свабоду?

Д ы я к а н  Л я в о н
Не, я ігумена не кіну,
Дзяліць з ім буду й асалоду,
І смутку горкую хвіліну.

В а я в о д а
Ну тут вам соладка не будзе...

П р э л а т
Ну ўсё. Пайшлі адсюль. Забудзем,
Што тут парог пераступалі.
Хай чэзнуць так, як пажадалі!

І выйшлі ўсе. Заскрыгатала
Засоўка ржавая ў дзвярах,
І ноч яшчэ чарнейшай стала.
Застаўся сальнай свечкі пах
І цемрай плыў праз час якісьці.

А п а н а с
Ну вось ні ім, ні нам карысці
Бяседа тая не дала,
Мне толькі ўцяміць памагла,
Што нас з табой яны баяцца.
Чакайце,
                божыя мужы,
Я з вамі буду й тут змагацца!
Вось толькі, як мне, падкажы,
Дастаць пісьмовыя прылады?
Я так ім кніжкай дапяку,
Што і жыццю не будуць рады!

Д ы я к а н
Даць грош які вартаўніку,
Дык ён здабудзе нам, аж міла,
Паперу, пёры і чарніла.

А п а н а с
Вось гэта добра. Заўтра раннем
Заняцца б я хацеў пісаннем.

## РАЗДЗЕЛ АДЗІНАЦЦАТЫ

М і т р а п а л і т
Закончана сесія сейма,
Пара б падавацца дамоў,
Ды вось тут сабраныя ўсе мы
Павінны заняцца ізноў
Учынкам таго ж Апанаса.

У л а д ы к а  Л у ц к і *(Апанас Пузына)*
Па-мойму, манах ён талковы,
Вялікай душы чалавек...

У л а д ы к а  М а г і л ё ў с к і
Мяцежнік, бунтар безгаловы,
Наш сан апаганіў навек!



Уладыка Луцкі
Чаго ж натварыў ён такога,
Што так яго ганьбіце вы?

Уладыка Пінскі
Ой, што вы! Пабойцеся бога!
Няўжо вы дагэтуль не чулі,
Што ўчора, на злом галавы,
Насіўся амаль без кашулі
Па вуліцах людных сталіцы
І вунію крыкам кляйміў?

Уладыка Луцкі
А вы не маглі памыліцца?
Не ён гэта, можа, там быў?
Бо ён жа сядзіць у цямніцы...



М і т р а п а л і т
Няма тут памылкі, ўладыка,
Ён выpваўся ўчора з-пад варты
І бегаў з юродзівым крыкам,
У гразь укачаўшы адзенне.
Мяцежнік ён злосны і ўпарты,
І хопіць цярпець за яго
Папрокаў і тых абвіненняў,
Што ў адрас кіруюцца наш.

У л а д ы к а П і н с к і
А нам з ім важдацца чаго?
Пазбыцца раз-два — і шабаш!

У л а д ы к а Л у ц к і
Як гэта пазбыцца? Вы што?
Ягонай крыві зажадалі?

У л а д ы к а П і н с к і
О не, не так страшна. Нішто
З яго мы учынім, а далей
Няхай, як захоча, дзівачыць,
Адказнасць на нас не спадзе.

У л а д ы к а Л у ц к і
Што значыць — «нішто»?

М і т р а п а л і т
Гэта значыць,
На нашым вось гэтым судзе
Мы сан з яго знімем і званне,
Для гэтага ж вось згуртаванне.

У л а д ы к а Л у ц к і
Я — супраць такога прысуду,
Я згоды на гэта не дам!

М і т р а п а л і т
Трымацца я большасці буду.

У л а д ы к а Л у ц к і
Ці ж будзе не сорамна нам,
Як гэты наш бедны падсудны —
Ахвяра чужацкаї злабы,—
Якая гняце нас паўсюдна,
Прысуд гэткі крыўдны, грубы,
Скажу я вам, крыўдны і строгі,

Замест спачування, падмогі
Адчуе на кволых плячах?
І так ён у тым падзямеллі,
Напэўна, змарнеў і зачах.
Не ўсе мы яго зразумелі...
Змагаецца ж ён за ўсіх нас.

Уладыка Полацкі
Не гэткі цяпер у нас час,
Каб так напралом і адкрыта
Кляйміць езуітаў, паноў
І унію лаяць сярдзіта.
А ён «наламаў столькі дроў»,
Што хопіць цяпер на гады
Для нас, праваслаўных, бяды.

Уладыка Луцкі
Ну што ж, дык далей адступайце,
Пакуль спакваля нас усіх
Не ўцягнуць у унію... Знайце ж,
Што ўсе тыя ўступкі й на міг,
На момант адзін не стрымаюць
Папістскіх другіх вымаганняў.
Сягоння адно атрымаюць,
А заўтра ізноў без ваганняў
Палезуць, каб даць ім другое.
Ім сёння абрыд Апанас,
А заўтра той мерай благою
Любога адмераюць з нас...

Суд гэты сабраць загадалі
Вам канцлер ці папскі легат?..

Мітрапаліт
Прызна́юся, што вы ўгадалі,
Дык змушаны я, хоць не рад,
Зноў гэтаю справай заняцца.
Таксама і радзіў бы вам
Уладам не супраціўляцца.

Уладыка Луцкі
Не, я сваёй згоды не дам
На гэткі бязбожны прысуд!

Мітрапаліт
Яшчэ хто з сабраных нас тут
Прысуду таго не падпіша?

Як бачым, такіх больш няма —
У залі агульная ціша.
Не варта спрачацца дарма,
Бо шкода слоў лішніх і часу.
А вось прыгавор Апанасу:
Пазбавіць і сана, і звання,
Закуць і звычайным манахам
Паслаць прадаўжаць пакаранне
У Кіеў, дзе ў Лаўры пад гмахам
Глыбокія ёсць падзямеллі
І вельмі надзейныя келлі...
Ці згодныя ўсе з прыгаворам?

Уладыка Луцкі

Вялікі
Вам грэх, уладыкі,
І вечная ганьба, і сорам!..

## РАЗДЗЕЛ ДВАНАЦЦАТЫ

У цеснай камеры астрожнай
Пануры змрок што раз гусцеў
І ўсё мацней з хвілінай кожнай
Праймала вільгаць да касцей
Абодвух вязняў, што сядзелі
Маўкліва воддаль ад сцяны.



Міналі будні і нядзелі,
А ўсё таміліся яны,
Гнілі жывымі ў тым падвале
І пра апошні свой прысуд
Зусім не ведалі, не знaлі
Тых, што чакалі іх, пакут.

Аж вось забразгалі аковы,
Іржою скрыпнулі замкі:
Уздзець ігумену аковы
Прыйшлі чатыры гайдукі
І з ходу цэлай грамадою
Нахабна ўсселі на яго,
Зваліўшы з нар збанок з вадою.



Здушылі вязня да таго,
Што ён не мог паварушыцца
І нават голасу падаць
З-пад рот заткнуўшай рукавіцы.

І праз хвілін якіх мо пяць
Яго закулі ў кайданы,
Аброжку ўсклалі і да ног
Ланцуг скрапілі, каб спіны
Ён цалкам выпрастаць не мог.
Пасля з праклёнам, штурхачамі
За дзверы выпхнут быў Лявон.
І вось, забразгаўшы ключамі,
Апошні з катаў выйшаў вон.

А ў келлі, скурчаны дугою,
Ляжаць застаўся Апанас,
І ні рукою, ні нагою
Не мог ён рушыць доўгі час.
Калі ж хацеў збанок намацаць,
То так запелі ланцугі,
Што сэрца стала разрывацца
Ад болю, крыўды і тугі.

Затым гадзіны, дні і ночы
Пайшлі ў трызненнях ці паўсне.
Рукой закладваў, жмурыў вочы,
А перад імі на сцяне
Ўставалі нейкія фігуры,
Крывыя морды і звяры.
Яны, здавалася, за мурам
Чакалі доўга той пары,
Каб як у камеру прабрацца,
Дык лезлі чорнай грамадой —
Чатыры, пяць, сем, дзевяць, дваццаць...
Плылі кудысьці чарадой
І расплываліся ў прасторы.
На месца іх натоўп другі
Настырна лез, пакуль каморы
Не запаўняў па берагі...

А часам бачыў штось другое —
Палац гальшанскі, парк стары
І ў ім стварэнне дарагое...
Крамля Маскоўскага муры,
Сялян гаротных, поле, хаты,
Царкву, свой бедны манастыр...

А то хтось ліпкі і пузаты
Цягнуў яго ў бяздонны вір...

Таму зусім не задзівіўся,
Як нехта ў чорным ля дзвярэй
Насупраць нар яго з'явіўся.
Заплюшчыў вочы, каб скарэй
Ад здані новай адчапіцца,
Але пачуў, як быццам, плач.
Не можа штось такое сніцца!
Тады сказаў сабе: «Пабач
І зразумей, што там за ліха».

Сеў. Загрымелі кайданы,
А здань шаптала з плачам ціха:
«О божа мой! Ой што ж яны
З табой, гарутнік мой, зрабілі!
О каты! Слугі сатаны!
Дык тут жа горш, чым у магіле!»
І плечы ўздрыгвалі ад плачу.
Пасля сказала праз хвіліну:
«Не пазнаеш мяне, як бачу,
Не ждаў, што ў гэту дамавіну
Змагу к табе прабрацца я?
Тут змрок. Глядзі, вуаль адкіну...»

«Не можа быць! Душа мая!
Анёл ты мой! Мне гэта сніцца!..—
І цёр далонямі павекі.—
А я ж паспеў ужо змірыцца
З тым, што ты страчана навекі...
О, як ты трапіла сюды,
У гэты дол сыры, смярдзючы?
Бяжы адсюль! Хай цень бяды
Табе ўспамінам не дакучыць.
Забудзь, што бачыла ты тут!
О, Зося, Зося!
Пані Зося!
Калі ў нас шчасце не збылося,
Не прыбаўляй, прашу, пакут
Сваёй слязой і спачуваннем!»

«Так зразу бегчы? Дай перш глянем
На нашы справы ясным вокам
І, можа, знойдзем ад марокаў,
Ад гора-бед ратаванне,
Хоць часу ў нас цяпер не многа.

(Стаіць там дзесьці за парогам
Адзін з падкупленае варты,
Адданы страхам і трывогам,
І ўраз паблытаць можа карты)».

«Скажы, чаму ты не пісала,
Як нас з табою разлучылі?»

«Пісала я не раз, гукала,
Ды так за мной усе сачылі,
Што ні адзін білецік мой
Не даляцеў да адрасата.
Цяпер я ведаю багата,
А ў той час хворай і адной
Уталкавалі, што хацелі.
І толькі, помніш... пры касцеле
Я ўсё адразу зразумела,
Ды ўжо было... запозна...»

. . . . . . . . . . . . .

На ўскрай услончыка прысела
Ды зноў уздрыгваць стала з плачу.
Пасля сказала ціха, слёзна:
«Хай лепш цярпела б я нястачу,
Сама на хлеб свой зарабляла,
Каб толькі той, каго кахала,
Дзяліў са мной мой хлеб і лёс...»

А потым, сцёршы кроплі слёз,
Сказала: «Ён не быў благі,
Ды не магла я прытварацца.
Бо ў сэрцы быў заўжды другі,
З якім душа мая расстацца
І не хацела й не магла...
Праз год знайшлася ў мяне дочка.
О як яе я берагла!
Ды толькі роўна паўгадочка
Было той радасці...
А потым — ён... на паляванні...
Дамоў прывезлі ледзь жывога,
Памёр ад ран...
Прабач. Замучыла дарога.
Была я зноў на пахаванні,
Вяртаюся з Гальшан.
Памерла мама...
І тут пачула, што таксама
І ты няшчасны, як і я...

Чакай, не гавары нічога,
Вядома мне гісторыя твая,
І як жывеш ты тут, я бачу.
Прашу, паслухай, што твая нябога
Задумала табе прапанаваць.
Я не жыла ніколі ўбога
І так магу цяпер сказаць:
Па мужу я багатай вельмі стала,
І дабіваюцца цяпер маёй рукі
Два знатныя вяльможы-старыкі
І розных маладых нямала,
А я хачу, каб доля зноў злучыла нас;
А што на гэта скажа Апанас?»

Зусім забыўшы пра турму,
Пра гразь, і цемру, і смурод,
Душой гарнулася к яму.
А ён маўчаў і ў свой чарод
Глядзеў на стан зусім дзявочы,
На бледны твар, на зоркі-вочы,
Нібы хацеў той вобраз мілы
Забраць у сэрца на ўвесь век,
На ўсё жыццё аж да магілы...
Не заўважаў, што з-пад павек
Сляза расіла твар калматы.
Пасля прамовіў:
«О кабета!
Ты бачыш путы, бруд і латы?
А я — у клетцы, быццам звер...»

«Мяне зусім не страшыць гэта!
Між намі розніца цяпер,
А заўтра ўжо яе не будзе».

«Не будзе, кажаш? Застанецца,
І справа тут не толькі ў брудзе,
Гнілой адзежцы, кайданах —
Ад праўды некуды падзецца —
Не забывай, што я — манах,
Прытым яшчэ ў свяшчэнным сане!»

«Нядаўна ўсходнія ўладыкі
Ў цябе аднялі сан і званне...»

«Прысуд прадажнай гэтай клікі,
Найперш за ўсё, не канчатковы,
А па-другое, няма мовы,

Каб я адрокся ад прысягі
Захоўваць вечны цэлібат.
Прашу паняць: табе знявагі
Я гэтым чынам не раблю.
О як я быў бы вельмі рад
Сказаць табе: любіў, люблю,
Больш не разлучымся з табою!..
Ну не глядзі з такой мальбою!
Ты на свабодзе, я ў няволі,
З якой не вырвуся ніколі,
З якое выхаду няма...



Я добра знаю: ты сама,
Калі не зразу, дык калісьці
Ка мне ўсю страціла б павагу,
Каб я для ўласнае карысці
Пасмеў даць з поля бою цягу.
Бо зразумей, прашу, мяне,
Што я і тут вось — на вайне.
І покуль толькі духу стане,
Не кіну гэтага змагання
За праўду, веру, за айчыну...»

«Ну як жа я цябе пакіну
У гэтым цёмным, брудным доле?!
Як мне сцярпець, што ўжо ніколі
Не злучыць нас адна дарога?
Падумаць — сэрца халадзее!
Пакінь жа мне хоць цень надзеі!
Няўжо патрэбныя для бога
Няшчасці нашы і пакуты?



Ды дзе той бог? Чаму ты скуты?
За што ты трапіў у турму?
За службу верную яму?!..»
Тут словы згінулі ў рыданні.

«Ні плач, ні сум, ні хваляванні
Не змогуць нам дапамагчы»,—
Прамовіў ціха Апанас.
. . . . . . . . . . . . .

Аж вось забразгалі ключы,
Прыкрыў турэмшчык злёгку дзверы:
«Прабачце, пані, але вас
Хаваць тут больш ніяк не можам —
Ідуць ад плошчы к нам жаўнеры,
Як вас убачаць, не дай божа,
Дык нам бяды не абабрацца..»

«Вось зноў настаў час развітацца.
Не плач, даруй мне і... забудзь,—
Прамовіў вязень.— Мужнай будзь
І быць шчаслівай пастарайся...»

«А ты, прашу, не забывайся,
Што я чакаю і заву
І што я ў Кракаве жыву —
Вялікі ўласны дом ля рынку...
Іду, іду... Яшчэ хвілінку:
Бялізну, ежы вышлю з ходу...
Падам заяву каралю
І ўсё магчымае зраблю,
Каб хутка ўбачыў ты свабоду.
Бывай, мой любы! Да сустрэчы!»
Яна пайшла, угнуўшы плечы,
І знікла ўслед за ёй святло.

І паўгадзіны не прайшло,
Як зноў зацыргалі замкі.
Прыйшлі чатыры гайдукі
І ланцугі з ног, з шыі знялі:
«Бяры лахман, каптур, сандалі,
Ды не марудзь, паўзі хутчэй!»

«Куды?»
«У Кіеў, прэч з вачэй
Паны адвезці загадалі».

Ад тых варшаўскіх спраў-падзей
Мінуў прыблізна цэлы год.
Вясна зноў песціла людзей
Цяплом прыветным. Снег і лёд
Ужо сплылі, і на палях
Зазелянела збажына.
Ля манастырскага акна
Вярба стаяла ўся ў «катках»,
А побач з ганкам тапалі
Пупышкі клейкія ўзнялі
Да сонца яснага ў блакіт.
І нораў бойкі свой і спрыт
Дэманстравалі вераб'і,
Заняўшы дрэвы, плот і дах.
На літар роўныя страі
Адклаў пяро сваё манах
І ў задуменні праз акно
Глядзеў на божы свет — на двор,
На неба сінь, на дальні бор
І ў думках зноў прыпамінаў
Нядаўні шлях жыццёвы свой,
Здарэнняў рад і безліч спраў...

Усталі ў памяці жывой
Сустрэча дзіўная ў цямніцы,
Праз Прыпяць, Днепр у Кіеў шлях
Пад голым небам на плытах
У сцюжу, спёку, навальніцы...
Падвал-турма ў другой сталіцы.
А потым суд і апраўданне,
Затым у Берасце вяртанне
На працу ў мілы сэрцу кут,
Хоць знаў, што зноў сустрэне тут
(Змагацца ж бо не перастане)
Праследы, здзекі і напасці...

«Вось справа важная, якой
Няможна сёння ўжо адкласці:
Бясчынствы жакаў-хуліганаў
Штодня муцілі супакой,
А ўрэшце выхадкай паганай,
З намовы Езусавых слуг,
Яны свавольствы завяршылі:
Манахаў «рускіх», старцаў двух
Кіямі ледзьве не забілі.

Такога нельга даравацъ,
Ды вось улады гарадскія,
Замест віноўных пакарацъ,
Суцішыць бурных гадаванцаў,
Прынялі скаргу за паклёп,



А нас за злосных ашуканцаў.
Пад'ехаць варта мо было б
У горад Кракаў да Сапегі
І праўду вылажыць яму
Пра лацінісцкія набегі,





Пра нашы крыўды, нашы справы
І запытаць яго, чаму
Няма на гэты гнюс управы?
Належыць горад жа яму,
І пан, як кажуць, ён ласкавы.
Які ж назойлівы той Кракаў!
Аб гэтым слове шмат разоў
Тужыў, маліўся, нават плакаў,
Хацеў забыць яго, ды зноў
Яно на памяць усплывала
І болем сэрца сашчамляла.

Відаць, цяпер, па волі божай,
Пасля блуканняў і нягод
Настаў усё ж такі чарод
Сабрацца ў гэта падарожжа
Не для таго, каб перайначыць
Даўно ўжо вызначаны лёс,
Але пазнаць і зблізку ўбачыць
Куды ён думкі ўпарта нёс».

І вось, наймаючы падводы
Ад вёскі ў вёску, ў дальні шлях
Пакалытаў чорнабароды
У чорнай вопратцы манах.
І думкі чорныя, цяжкія
Ішлі з ім побач крок у крок
[illegible]ых братоў сваіх, якія,
[illegible]ай настане толькі змрок,
Баяцца выйсці за вароты,
Пра лёс царквы, манастыра...
І абмяркоўваў раз мо соты,
Як упрасіць гаспадара,
Каб ён згадзіўся пад апеку
Узяць іх бедны манастыр
Ці даў загад, каб крыўд і здзеку
Не прычыняў ім папскі клір.

Вясна тым часам пераможна
Ішла ва ўсёй сваёй красе,
Пазеляніла кусцік кожны,
Купала сонейка ў расе
І квеццем сыпала наўкола...
Ішлі сяляне на палі,
На луг выходзіла жывёла,
А з паднябесся жураўлі
Сваё вяртанне абвяшчалі.

Глядзеў з дарогі Апанас
На незнаёмыя ўжо далі,
І ў сэрцы сум памалу гас,
Ды зноў вярталася надзея,
Што ў Кракаў едзе недарма,
І што такой благой падзеі,
Каб не вяла к дабру, няма.

А вось і мэта падарожжа.
Вялікі замак на гары,
Дамы, касцёлы, склады збожжа,
Рака, магутныя муры
І варта ў браме. Люду многа
Туды шыбуе і сюды...
На жаль, знаёмага нікога
Няма між гэтай грамады.
Знайшоў карчму, ў пакой парожні
Унёс свой сціплы хатулёк,
Памыўся, пыл абтрос дарожны
І зразу рушыў у той бок,
Дзе, як сказалі, у палацы
Жыў князь Сапега Мікалай.
І ледзь стаў толькі прабірацца
Сярод людзей праз рынка ўскрай,
Як зразумеў, што ў бок касцёла
Ішоў хаўтурны караван.

Народ таўпіўся навакола,
А запытаны нейкі пан
Сказаў, што гэта пахаванне
Багатай знатнае ўдавы.
«Прыезджы, бачу, вы, васпане,
Таму не ведаеце вы,
Што гэта слаўная кабета
Людзям рабіла шмат дабра.
Любілі ўсе яе за гэта,
А асабліва дзетвара,
Бо ёй была яна, як маці.
Ёй любы просты быў народ,
Хоць, як ёсць чуткі, што са знаці
Яна выводзіла свой род».

«Прашу прабачыць, калі ласка,
Як зваць яе, скажыце вы».

«Па мужу Зоф'я Грот-Збараска,
А родам, кажуць, што з Літвы».

Не чуў ён прозвішча такога,
Але імя ўжо не забыць...
«Няўжо яна... мая нябога?..
Не можа быць! Не можа быць!..»
І з сэрцам поўным хвалявання
Падаўся следам за труной,
Рашыўшы высветліць пытанне,
Што ўнесла раптам неспакой...

І вось закончаны маленні,
З касцёла выплыла труна...
Зірнуў і, ўпаўшы на калені,
Пачаў шаптаць: «Яна! Яна!..»
Пасля апомніўся нарэшце
І, хоць муцілі слёзы зрок,
Услед за тым жалобным шэсцем
Памалу ногі павалок...

Пайшлі з пагоста кракавяне,
А над магілаю ў вянках
Маліўся ноч усю да рання
Пахілы грэчаскі манах.

## РАЗДЗЕЛ ЧАТЫРНАЦЦАТЫ

Нядоўга ў князя запыніўся
З сваёю просьбай Апанас.
«Там поп з папом не памірыўся,
Дык я мірыць павінен вас? —
Сказаў Сапега Апанасу.—
Ідзіце ў унію, тады
Не трэба будзе траціць часу
Для скарг і дальняе язды».

Чаго другога ад магната
Чакаць было пасля таго,
Як стаў папістам, рэнегатам,
Народу выракся свайго?
І Апанас пайшоў памалу
У свой пакойчык у карчму,
Але няспынна дакучала,
Душу вярэдзіла яму
Бяда ўчарашняя ў трывогі,
З якімі вырушыў сюды...
Якія ждуць цяпер дарогі?
І завядуць яны куды?

Прыйшоў знясілены дазвання,
Прылёг на цвёрдым тапчане
І рэшту дня і ноч да рання
Правёў у думках і паўсне.

Назаўтра з новаю надзеяй,
Хоць з моцным болем галавы,
Другога князя-дабрадзея
Пачаў шукаць — пасла з Масквы.
Хадзіла чутка, што нядаўна
З'явіўся ў Кракаве князь Львоў
З якойсьці місіяй дзяржаўнай,
Дык вось цяпер к яму ішоў.
Калі і ён не дапаможа,
Дык больш ісці няма куды.
А ён парушыць справу можа
У польскім сейме заўсягды
Як абаронца рускай веры
І дамагацца можа ён,
Каб быў не толькі на паперы
Уладай выданы закон.

У князя Львова быў прыняты
Прыветным словам Апанас:
«Будзь, ойча, слаўны і багаты!
Выдатна складваецца ў нас,—
Прамовіў князь,— бо вас убачыць
Надзвычай трэба мне было,
І вы прыйшлі, а гэта значыць,
Што нам абодвум «повезло»!

Ды як жа трапілі вы ў Кракаў?
І як тут чуецеся вы
Сярод папістаў і палякаў?
Цар шле вітанне вам з Масквы!..»

Ахвотна, шчыра на пытанні
Яму адказваў Апанас,
Падзяку даў за прывітанні
І так закончыў свой расказ:

«На вас цяпер уся надзея.
Пратэст ваш цвёрды, дзелавы
Суцішыць можа ліхадзеяў
На землях стоптанай Літвы,
Дзе гэтак ім цяпер прывольна
Між нас і нашага дабра...»

А князь сказаў:
«Не самавольна,
Але ад імені цара
Пастаўлен будзе ультыматум:
Калі не скончыцца ўраз здзек
Над нашай рускай веры братам,
То мы граніцамі тых рэк,
Што ў нас цяпер, лічыць не будзем.
І хай адкажуць нам паны
І падуладныя ім людзі,
Ці хочуць міру ці вайны!

Апроч таго другая справа
У нас да ўлады польскай ёсць.
Магчыма, ведаць вам цікава,
З якіх прычын я ў Польшчы госць?
Дык вось паны зноў з самазванцам,
Які калісьці нейкі час
Быў, ойча, вашым выхаванцам,
Ізноў наведаць хочуць нас,
Пра што ў Маскву дабегла чутка.
Дык каб паблытаць той намер,
Прыбыў я ў Кракаў ды без скутку
Чакаю кожны дзень цяпер
Адказу канцлера з Варшавы,
Ці будзе выдадзены нам
Для справядлівае расправы
Той іх бязродны лгун і хам.
Трабуюць мне замовіць зубы,
Што мы ўзнімаем шум дарма,
Бо самазванца Яна Лубы
Даўно ў жывых ужо няма,
Ды хлусяць, пэўне, езуіты.
Ну а якая думка ў вас
Адносна гэтай валакіты?
Скажыце, ойча Апанас».

«Жывы Ян Луба і здаровы,
Нядаўна мне прыслаў ён ліст,
Але спрачацца я гатовы,
Што ён зусім не аферыст.
Што ён не княжыч знакаміты,
Ён знае ўжо, як і паны,
І знаюць тыя ж езуіты,
Але для іхняе маны
Падходзіў ён якраз узростам,
Дык вось ужо каторы год,

Хоць гэта стала не так проста,
Дурманяць выдумкай народ.

Каб ён паходзіў з Мнішкаў роду,
То так не кінулі б яго,
А ўжо даўно знайшлі б нагоду
Прызнаць, аклікнуць за свайго.
А вось цяпер ён мне тут піша
З даверам поўным і тайком,
Што вельмі вабіць яго ціша,
Што хоча стаць духаўніком».

«Я ўдзячны вам за тлумачэнні,
Якія мне далі тут вы,
Але найбольшае значэнне
Для нас у тым, што ён жывы.
Цяпер патрэбую я строга,
Каб ён быў выдадзены нам.
Абдурваць больш і, як сляпога,
За нос вадзіць сябе не дам!»

## РАЗДЗЕЛ ПЯТНАЦЦАТЫ

Бярэсце зранку ў замяшанні —
Крычаць, хвалююцца мяшчане,
На плошчы гоман, люду маса
Шуміць:
«Забралі Апанаса!»
«Куды забралі? Хто забраў?
Хто ім такое права даў?»
«Забралі!
Ў путы закавалі!»
«Не можа быць ніяк такога!
Яго, ігумена святога
За што каваць у кайданы?»

«Дык гэта ж слугі сатаны!
Ён быў заўжды ім соллю ў воку!»
«Не зробім з плошчы нават кроку,
Пакуль не выпусцяць яго!..»

С т р а ж н і к
Гэй ты, гарланіш тут чаго?
Таксама хочаш у Варшаву?
Сабраў крыклівую араву
І ўводзіш хамскія парадкі!

Р а м е с н і к
А ты тут хто? Бач, з морды гладкі,
Напэўна хлёбаеш з карыта
Ў святых хітрушаў-езуітаў!

С т р а ж н і к
Вось пабрашы яшчэ нямнога,
Дык павандруеш той дарогай,
Якой ваш поп павандраваў!

Р а м е с н і к
Ідзі, пакуль не абарваў
Па фізьяноміі свінячай!

С т р а ж н і к
Чакай, спяеш крыху іначай,
Калі ты ў нашы трапіш рукі.

Р а м е с н і к
Чаму ж, мы знаем вашы штукі,
Але надыдзе горкі час
І для цябе, і для ўсіх вас!..

. . . . . . . . . . . . . .

Натоўп гудзеў і разрастаўся,
І гоман-крык не сунімаўся,
І ўжо даходзіла да бойкі,
Ды нейкі панскі служка бойкі,
На плот узлезшы, стаў крычаць:
«Браты, рамеснікі, мяшчане!
Дазволь, шаноўнае сабранне,
Пра што я знаю, не маўчаць!
Пакіньце вашы крыкі, зваду,
Хачу я выясніць вам справу:
Па каралеўскаму загаду
Забраны йгумен у Варшаву,
І ні бурмістр, ні ваявода
Не знаюць арышту прычыны,
Таму, сябры, турботаў шкода...»

«Цягніце з плоту малайчыну!
Ён хлусіць нам, і больш нічога!»

«Сябры, пабойцеся вы бога,
Я не схлусіў вам ані-ні!
Вунь пан Масальскі на кані,
Ён сам пацвердзіць мае словы...»

Зірнулі ўсе. Атрад вайсковы
Ўязджаў на плошчу ў поўнай зброі,
А на чале — сам ваявода.
Каня спыніўшы між народа,
Прамовіў ён сіпатым басам:
«Народ, паслухай! Апанаса
Ўзялі ў Варшаву на дзён колькі.
Пра штосьці выпытаюць толькі
І прывязуць ізноў дахаты.

Спыніце шум дарэмна ўзняты
І разыходзьцеся памалу.
А гэтых зборышч запявалаў
Ганіце прэч і ім не верце —
Яны задумалі штось сперці
У вашых крамах ці варштатах,
Пакуль вы нейкіх вінаватых
Вышукваць будзеце ў бязладдзі.
Паверце мне, мы справу ўладзім:
Ігумен скрыўджаны не будзе...
Але пры тым скажу вам, людзі,
Што хто між вас з намеру злога
Народ да бунту заклікае,
Таго караць мы будзем строга,
І той, хто здрайцам патакае,
Хай потым літасці не просіць.
Я ўсё сказаў. Тырчаць тут досыць,
Усе расходзьцеся па хатах!»

На дыбкі ўзняў свайго бахмата,
Крутнуў яго і з мінай строгай
Паплыў праторанай дарогай,
А следам конная асыста
Пайшла па плошчы ганарыста.

І людзі сталі разбрыдацца...
А праз хвілін якіх мо дваццаць
Сядзеў за чарай ваявода
І забаўляў гасцей: «А шкода,
Што гайдукам я не дазволіў
Пamacаць хамства бізунамі,
Бо ўжо праверана не намі,
Што ласкі хам цаніць не ўмее,
Ён толькі жорсткасць разумее.
Пайшлі сягоння моўчкі з рынку,
А там, пасля мо перапынку,
Свайго прыпомніўшы Панаса,

Пачнуць нанова выкрунтасы.
А каб памацалі мы спіны
Бунтарнай гэтае скаціны,
Тады б яна сядзела ціха».

«Бясспрэчна,— цягнучы з кяліха,
Яму падтакваў пан староста,—
Спраўляцца тут не вельмі проста,
Бо як-ніяк, а берасцяне
Не то што ў вёсцы дзесь сяляне —
Народ свабодны, не халопы,
Мяшчан закон аберагае...»

«Законы маюць недахопы,
А наш інтэрас вымагае
Трымаць люд чорны ў дысцыпліне,
Інакш йерархія загіне,
Загіне наш стары парадак,
А, як вядома, з непаладак
Дзяржавы можа стацца ўпадак...»
. . . . . . . . . . . . .

Тым часам крытая каляса
Ў Варшаву везла Апанаса,
А побач збройныя жаўнеры
Скакалі конна і пыл шэры
Трымалі слупам за сабою.



Было загадана канвою
Даставіць вязня тэрмінова
І па дарозе з ім — ні слова.
Дык вось ён ехаў моўчкі скуты,
Цярпеў дарожныя пакуты,





Шукаў праз доўгія гадзіны
У думках арышту прычыны
І ныў ад голаду і смагі...

На трэці дзень паблізу Прагі [1]
Быў зроблен большы адпачынак.
Кармілі коней і са скрынак
Дасталі хлеб, віно і мяса.
Сухар з вадой для Апанаса
(Маўляў, на! ведай нашу ласку)
Маўчком прасунулі ў каляску.

І вось ізноў той склеп знаёмы —
Камора здзекаў і пакут:
Палок, збуцвелы жмут саломы
І вільгаць тая ж, той жа бруд.
Пазнаў услончык, збан шчарбаты,
Лахман абшарпаны, благі,
Ў акне пад столлю тыя ж краты...

Цяпер ад сценкі да нагі
Майстры-спрытнюгі гайдукі
Ланцуг грубы прымацавалі
І зачынілі ў тым падвале,
Хто знае, можа — на вякі,
А вось завошта — невядома.

Паўзлі ў паўзмроку дні-вякі,
А ён сядзеў, нібы парома
Чакаў на беразе ракі.
Ды не спяшаўся перавозчык,
Крычы яму ці не крычы...
За краты сеў,
дык ты — нябожчык,
Хоць і даюць табе харчы.

## РАЗДЗЕЛ ШАСНАЦЦАТЫ

Канцлер Осалінскі

Скажыце, найяснейшы пане,
Як нам уладзіць справу Лубы?
Ці выдаць, ці чыніць старанні,
Каб захаваць яго ад згубы?
Пасол маскоўскі налягае,

---

1 *Прага — правабярэжная частка Варшавы.*

Аддаць яго без цяганіны...
Прытым тут справа ёсць другая,
Якую мы рашыць павінны:
Як веры ўсходняй абаронца
Стаўляе цар нам ультыматум
Нахабны, каверзны бясконца:
Закрыць дарогу уніятам
І пранікненню рымскай веры
На нашы ўсходнія абшары...

Кароль Уладзіслаў IV
Мы знаем іхнія намеры,
Але няхай пакінуць мары,
Што мы мяшацца ім дазволім
У нашы ўнутраныя справы.

Канцлер
Аднак у доказ добрай волі
Адносна іхняе дзяржавы,
Нам выдаць Лубу давядзецца,
Інакш канфлікту не мінуць.

Кароль
Калі няма куды падзецца,
Хай нам гарантыю дадуць,
Што ён не будзе там забіты,
Каб з невялікім ехаў страхам.

Канцлер
Вось мне ўжо радзяць езуіты
Узяць заложнікам манаха,
Што здрадзіў нашу таямніцу.
Запром яго тут у цямніцу
За Яна Лубу як залог.

Кароль
Разумна вельмі.
Львоў бы мог
Любыя даць нам абяцанні,
Якіх не думаў бы спаўняць,
А так жыццём рызыкаваць
Таго манаха мо не стане.
Праект ваш добрым прызнаю,
Манаха ўзяць дазвол даю,
Відаць,
таго ж анахарэта,
Што тут шумеў мінулым летам.

К а н ц л е р
Той самы гэта, ясны пане,
Той абаронца грэцкай веры,
Што адбываў тут пакаранне.

К а р о л ь
Тады прыміце хутка меры,
Каб ён не ўцёк, а князю Львову
Скажыце, хай падпіша ўмову
Ну і... хай едзе паздарову...
. . . . . . . . . . .

Міналі дні і месяцы няволі,
І не было ніякіх перамен
У той цяжкой ігуменавай долі.
І з-за сырых таўшчэзных сцен
Не далятаў ніякі голас з места,
А ён дарма чакаў спагадных вестак...

Аж вось зайшлі ў цямніцу два юрысты
І доўгі акт напышліва, ўрачыста
Пры свечцы прачыталі Апанасу,
Злачынстваў розных выдуманых масай
Нахабна абцяжарыўшы яго —
Што, быццам выдаў ён Маскве таго,
Вядомага ўсім пана Яна Лубу
І гэтым зрыхтаваў яму загубу;
Што ў нейкую даўнейшую пару
Прадаўся ён маскоўскаму цару,
Дык следствам устаноўлена,
што ён
Рэч Паспалітай вораг, што шпіён;
Што цар маскоўскі даў яму заданне
Праводзіць супраць уніі змаганне;
І што за хабары, падачкі, ўзяткі
Ён бунты выклікаў і беспарадкі,
Якімі прычыніў дзяржаве шмат
І клопатаў, і матэрыяльных страт;
І што духоўным каталіцкай веры
Ён шкодзіў, дакучаў, дзе мог, без меры;
І што не раз святога папу ў Рыме
Чарніў і лаяў словамі благімі...
І многа іншае бязглуздзіцы, маны
У гэты акт уставілі яны...

І вось тады ім у адказ
Сказаў спакойна Апанас:

«Акт гэты поўны ненавісці
І да мяне й да нашай веры.
Якой чакаеце карысці
Ад гэтай вашае паперы?
Далей вам трэ мяне гнаіць
Ці, можа, хочаце забіць?
Што ж, ваша сіла, ваша воля,
Ды толькі знайце, што ніколі
Не здраджу я ні веры роднай,
Ні нашай справе ўсенароднай!»

Міналі месяцы, і год
Закончыў свой кругазварот,
На свеце многа перамен
Малых і значных адбылося,
Але ў ігуменавым лёсе
Не наступіў найменшы крэн —
У цемры, вільгаці і брудзе
Сядзеў прыкуты да сцяны.
Відаць, забыліся і суддзі,
І ўжо не помнілі паны,
Што дзесьці ў іхнім падзямеллі
Сядзіць нявінны чалавек,
Ці проста літасці не мелі
І так з яго чынілі здзек...

Тым часам ён пісаў заўзята
То каралю, а то ў сенат,
Знаёмым дамам і магнатам,
Ды толку ў тым было не шмат —
Ніхто не даў яму адказу,
Маўляў, сядзі, пакуль жывы,
Чакай загаду ці указу.

Ян Луба вырваўся з Масквы,
Хоць не палёгку і не зразу.
Яму там доля паспрыяла:
Памёр якраз цар Міхаіл,
А ў Аляксея быў нахіл
Да ўсіх адносіцца лагодна,
Ды й з першых дзён не выпадала
Аказваць помсту ўсенародна,
Дык дзён шануючы павагу,
Ад самазванца ўзяў прысягу,
Што на маскоўскі царскі трон
Не прэтэндуе болей ён,
І адпусціў яго дахаты.

Вярнуўся Луба, ды ўніяты
Зрабілі захад, каб узяты
Ў залог ігумен Апанас,
Сядзеў, марнеў, памалу гас.
А папскі вырашыў легат:
«Пазбыцца трэба бунтара!»



Быў дап турэмшчыкам загад
Адкрыць падвал, а як з двара
Ігумен пусціцца на ўцёк,
Прыстрэліць ззаду нездалёк,
І ўсё на праўным месцы стане:
«Забіты ў момант уцякання!»

Уцяміў гэта Апанас
І даў турэмшчыку адказ,
Які нашэптваць стаў яму,
Што шанс пакінуць ёсць турму:
«Я без суда і апраўдання
Адсюль не зрушуся, васпане!!»
І слаў свае патрабаванні
Судзіць, калі ён вінаваты,
А калі не — пусціць дахаты.

І цар заложніка свайго
Не клапаціўся вызваляць.
Было манархам на яго,
Як і на веру, напляваць.
Царам такія Апанасы
Патрэбны толькі ў тыя часы,
Калі ёсць шанс штось загарнуць —



Тады на нейкі час-сезон
Такім вось можна казырнуць,
Пасля забыцца, што й быў ён.

І ён сядзеў.
Аж вось аднойчы,
Як і калісьці, позна ўночы
Іржой зацыргалі замкі —
Прыйшлі чатыры гайдукі,
Ланцуг з нагі набраклай знялі:
«Бяры лахман свой,— загадалі,—
Ды не марудзь, паўзі хутчэй!»

«Куды?»
«У Кіеў, прэч з вачэй
Паны адправіць загадалі».

## РАЗДЗЕЛ СЕМНАЦЦАТЫ

Дзень быў пахмурны, неба ймгліла
Туманам шэрым. За сталом
Мітрапаліт Пятро Магіла
Сядзеў з насупленым чалом,
Бо думкі новыя цяжкія
Муцілі звычны супакой:
«Ідуць благія чуткі ў Кіеў,
А ўночы зноўку за ракой
Натоўп якісьці мітуслівы,
Чуваць па мове, што чужы,
Ішоў, стаяў, вытоптваў нівы,
Шумеў, гукаў, паліў лаўжы.
Чуваць было і бразгат зброі,
Іржанне коней,
рып калёс,
А потым з ранняю зарою
Прапалі пешыя й абоз.

Бягуць сяляне ў Запарожжа —
Уздоўж Дняпра гуртамі ў Сеч.
Настаў час грозны і трывожны —
Бядняк на пана вострыць меч,
Бо на татарына ці турка
Не так збірае гетман раць.
Відаць, з дзяржаўнага падмурка
Камені сталі выпадаць...

Па сёлах хтосьці чэрнь бунтуе
Супроць магнатаў і паноў.
Яна, ёсць чуткі, што лютуе,
Гарадь маёнткі, льецца кроў.

Выпадкаў гэткіх стала многа,
І не да лепшага ідзе...
Маліцца, ўпрошваць трэба бога,
Мо ён няшчасці адвядзе.
Хаос між дум маіх сягоння,
І на стале маім хаос...
Цямнее».
Пляснуў у далоні,
І служка свечкі дзве прынёс.
Тады твар бледны, барадаты
Памалу выплыў з цемнаты
Над стосам кніг, а цень бухматы
На шафу лёг, заняў куты.

Глядзеў Магіла на паперы,
Пасля сабраў іх, склаў, звязаў...
Тут служка, твар уткнуўшы ў дзверы,
Старэчым голасам сказаў:
«Прыбыў к нам вязень, уладыка».

«Які зноў вязень? Хто такі?»

«Не знаю я, сядзіць у лыках,
Пры ім чатыры гайдукі.
І вось пакет вам перадалі,
З Варшавы, кажуць, прыбылі...»

«Чаго ж мяне зноў прыгадалі?
Што там за справу развялі?
Ах, вось якія тут паперы!
Зноў той бунтарны Апанас,
Змагар за лёсы грэцкай веры...
Каб менш было такіх у нас,
І каб яны сядзелі ціха,
Дык мо трываў бы супакой
І менш было б на свеце ліха...
Каб так без толку бунтавацца,
Апошнім дурнем трэба быць,
Бо гэта Сізіфава праца,
Якой не ўдасца завяршыць.
Тут як ні глянь, куды ні кінь,
Відаць, залье нас тая плынь,

Што стала з Рыма пашырацца,
Дык сэнс які нам з ёй змагацца?
І, калі тая плынь ад бога,
То не паможа нам нічога...»

«Той вязень хоча вас пабачыць,
Ён нешта мае вам сказаць».



«Няма аб чым мне з ім «судачыць».
Калі у путах — развязаць!
Замкнуць у келлю, што ў падвале,
І хай там ціхенька сядзіць...»
. . . . . . . . . . . . . .

Пасля шырокага прастору
Дарог бясконцых і палёў
Зноў лёс ігумена ў камору
Турмы бязлітаснае ўвёў.
І зноў дні шэрыя, пустыя
Ў чаканні сумным паплылі...

Міналі будні, дні святыя,
Змянілі выгляд лес, палі,
Ішлі навокал перамены,
А толькі ў камеры сырой,
Як і раней, маўчалі сцены
Калматай цвіллю векавой.

Бяздзейнасць мучыла сярдзіта,
Любой рабоце быў бы рад,



Прасіў праз слуг мітрапаліта,
Каб ён дазволіў, даў загад
Штодня вадзіць яго на працу,
Хоць на якую, хоць куды.
Нарэшце ўздумаў бунтавацца.
Калі прынеслі, як заўжды,
Яму ў гаршчочку нейкай ежы,
Рвануў праз дзверы ў калідор
І ў той, як быў, гнілой адзежы
І босы выскачыў на двор.

Царква была якраз адкрыта —
Малебства йшло мітрапаліта.
Панас ускочыў між людзей
І закрычаў: «Ах ліхадзей!
Ён вас любові навучае,
А ў падзямеллі заключае
Зусім нічым не вінаватых!
Святы айцец мітрапаліт —
Слуга не божы, а багатых!
Ён — фарысей і езуіт!
Не богу служыць, а мамоне!
Пра бедных, скрыўджаных не дбае...»

А Пётр Магіла на амбоне
Стаяў маўчком, як скамянелы.
Тут служак група немалая
Ў царкву з гамонкаю ўляцела.
У момант рукі заламалі
І рот заткнулі бунтару,
Прытым адзежку ўшчэнт парвалі...

Аднак праз нейкую пару
Ён атрымаў дазвол заняцца
Сваёй, здаўна любімай працай
(Хоць гэта вельмі задзівіла).
Прынеслі ў камеру чарніла,
Паперы, пёраў, свечак пяць
І загадалі напісаць
Пра ўсё, дзе жыў і чым займаўся,
Аднак каб больш не дакучаў
І ад бунтарства паўстрымаўся.

І ён «Дыярыуш» пачаў
Складаць, дапісваць і старанна
Ствараць з таго адзіны твор,
Што й перш было публікавана..

І вось «Дыярыуш» гатовы,
Ён зменіць мо турэмны быт
На ўклад жыцця свабодны, новы?
Ды ўсё маўчаў мітрапаліт.
Той вязня выхадкай абражан,
Казаў, прысуду караля
Ён адмяніць не ўпаўнаважан,
Загад прышлюць мо, дык пасля...

Аднойчы позняю гадзінай
Зайшоў у камеру Пузына —
Ўладыка луцкі. Ён сказаў:
«Мітрапаліта бог пазваў
І над табой даволі здзеку.
Бяру цябе я пад апеку.
Вось тутка новая адзежка,
Ідзі папарся добра ў лазні,
Ды толькі ж зноў, глядзі, не ўгразні,
Бо сёння нам патрэбна спешка.
Гадаць цяпер мне не пад сілу,
Хто ў нас заменіць тут Магілу
І як ён справы будзе весці,
Дык на ражон не трэба лезці —
Мы заўтра выедзем ка мне,
А як час нейкі праміне,
У манастыр паедзеш свой...

Ну дык, брат, рухайся, не стой!»

## РАЗДЗЕЛ ВАСЕМНАЦЦАТЫ

Па просьбе многіх берасцян
Указ Пузынаю быў дан
На даўні ў Берасці свой пост
Зноў Філіповічу вярнуцца.

Вось за спіной нямала вёрст,
На нізе рэчка, тут пагост,
А горад — вунь...
Калені гнуцца,
Ляціць з рук кій у пыл дарожны,
А з сэрца шчасця гімн набожны
Нясецца ў неба за жаўронкам...
Вітай жа, мілая старонка,
Прымай свайго вандраўніка,
Хоць і ў сярмязе жабрака!

Вясенні дзень мінаў і гас,
А ўсё з пагорка Апанас
Глядзеў на горад свой стары...
Назаўтра з ранняе пары
Наўкол вясціў царкоўны звон,
Што зноў адправіць службу ён —
Змагар, пакутнік і герой,
Які за люд стаяў гарой
І ад прыгнёту бараніў...
Дык манастырскі звон званіў,
Што лёс яго не надламіў,
Што ён застаўся тым, кім быў.

Народ ішоў вітаць яго,
Як бацьку роднага свайго
Са шчырай радасці слязой
І часта з кайстраю пустой,
Ды з пажаданнямі даброт
Не па адзін дзесятак год.

Аднак жа быў і гурт такіх,
Якім бунтарны гэты мніх
Быў аніяк не па душы.
Ксяндзы, ўніяты — таргашы
Людскім сумленнем і казной,
Яму рашылі выдаць бой.

І ўжо ад самых першых дзён
Праз беззаконне і закон
Пайшлі у наступ на яго.
Дык пачалі за ім сачыць
І кожны крок яго лічыць.
Ім стала справа да ўсяго,
Што думаў ён і што рабіў,
І з кім пра што дзе гаварыў...
А час цяжкі быў і благі —
Дняпра абодва берагі
Шумелі хваляю людской,
І ўсенародны неспакой
Ішоў па Рэчы Паспалітай.
Крывёй, пажарамі заліта
Ужо была ўся Украіна,
І набліжалася хвіліна,
Што мог і ўвесь народ сярмяжны
Паўстаць на бой цяжкі, працяжны
Супроць вяльможных і багатых
Як у Літве, так і ў Кароне.

Аднак у панцырах і латах
Паны, падпанкі ў абароне
Сваіх маёнткаў, прывілеяў
Пайшлі гасіць той бунт плебеяў
І так з народам распраўляцца,
Каб ён навекі стаў баяцца
Стары прыгонны лад ламаць,
Руку на пана падымаць.
І міжусобная вайна,
Ў маштабах гэтакіх здаўна
У нас не чутая, палала.

Цяжэй і ў Берасці жыць стала —
Паны няспынна лютавалі,
На кол, на вісельні ўзнімалі
Усіх, хто быў ім падазроны.
Граніц не меў іх гнеў шалёны,
Ды тых ахвяр было ўсё мала,
Нянавісць больш яшчэ шукала.

І вось успомніў хтосьці з ляхаў,
Што тут жыве сярод манахаў
Усходняй веры абаронца,
Ігумен рускі падазроны.
«К яму прыходзяць на паклоны
Зусюль паломнікі бясконца —
Сляпыя, хворыя, калекі,
Хто з іх маліцца, хто па лекі,
А хто харчоў прасіць, апекі,
І ён падонкаў гэтых зграі
Штодзённа ў трапезнай прымае.
Ён з імі моліцца, гуторыць
І раз-два можа падбухторыць
Таксама рушыць у паўстанне...» —

Вось гэтак Шумскі, знатны пан,
Гвардзейскіх войскаў капітан
Дакладваў пану ваяводу,
А той яму дазволіў з ходу
Узяць ігумена ў падвал.

А каб не выбухнуў скандал,
Прыслалі ў дзень наступны зранку
З сяла мужыцкую фурманку
З тым, што там дзесьці паміpae
Манашка ўсходняя старая
І просіць споведзі святой.

І ад ліхой хвіліны той
Ігумен волі больш не ўбачыў.
Гудзеў народ, было шмат плачу,
Ды страх стрымоўваў грамаду
Яго свабоды дабівацца.

А ўпаўшы ў новую бяду,
Як трэ было і спадзявацца,
Ігумен стаў перад судом,
І на яго, як з неба гром,
Зляцела безліч абвінненняў.
Яму сказалі: «Без сумненняў
Вядома нам, што ты наш вораг,
Што зброю розную і порах
Хаваеш ты ў манастыры.
Дык лепш прызнайся, гавары,
Дзе гэта ўсё ў цябе схавана!»

Адказваў ён усхвалявана
І гнюсным закідам пярэчыў:
«Дык гэта ж фальш! Паклёп тут нечы!
Няма ў мяне ніякай зброі.
Прыдумаў нехта штосьці такое!
А як не хочаце мне верыць,
У вас магчымасць ёсць праверыць.
Вініць мяне няма ў вас права!
Дзе ў вас на арышт мой падстава?»
«Калі няма, дык вельмі хутка
Яе мы знойдзем, нічагутка,
Як бы ты тут не адракаўся».
«Ты супраць уніі змагаўся?»
«А ці ў царкве сваёй адкрыта
Не чэрніш брацця ў езуітаў?»
«Парадкі ў Рэчы Паспалітай,
Мо скажаш нам, што не чарніў?»

«Я той жа самы, што і быў,
Вядомы ўсім мае пагляды.
Я выступаю супраць здрады
Радзіме, мове, веры роднай
І супраць той бяды народнай,
Што разам з уніяй праклятай
Павісла ў нас над кожнай хатай.
Бо ці ж не уніі віна,
Што міжусобная вайна
Так грозна ўраз запалымнела?
Я пацвярджаю тое смела,

Што абвяшчаў на ўсю зямлю,
Паслам на сейме, каралю,
Што паўтараў наўкруг не раз...
Я і пісаў, што прыйдзе час
Цяжкой за гэты акт расплаты.
Той час настаў. Паны, магнаты
Раней мне верыць не жадалі.
Што ж, воля іх. Чакайма далей.
Усіх, хто вінен у вайне,
Адплата, кара не міне!»



Такі адразу даў адказ
Шляхоцкім суддзям Апанас.
І хоць на допыт прыбылі
Вяльможы знатныя зямлі —
Епіскап луцкі каталіцкі
Фанатык ведамы Гембіцкі
І канцлер Альбрэхт Радзівіл,
Адказ быў той жа. Дык «граміл»
Двух клікнулі, й яны
Манаху ўздзелі кайданы.
Тады спытаў ён: «Ну за што вы
Усклалі гэтыя аковы?
Скажыце, чым наводзіць страх
На вас зняволены манах?
У вас жа зброя, столькі сілы,
А я адзін, змарнелы, хілы
Не пагражаю вам нічым...»

Гембіцкі крыкнуў: «Замаўчы!
Дадзеў ты нам брахнёй праклятай!
Язык твой горшы за джыгала!
Яго ты ўбачыш ў жмені ката!
Такіх, як ты, павесіць — мала!»

Міналі дні ў цяжкіх пакутах —
Галодны быў, а ногі ў путах
Крывёй набраклі, рукі нылі,
І ў яме той, нібы ў магіле,
Паветра нават не хапала.
І Апанасу ясна стала,
Што жыць нямнога засталося...
Ды аб душы ягонай, лёсе
«Па-хрысціянску» шчыра дбалі
Ксяндзы, ахоўнікі маралі.

Калі ляжаў ледзь не дабіты,
Прыйшлі ў падвал два езуіты
На дыспут з ворагам заклятым.
Яго назвалі мілым братам
І так гаворку павялі:
«Няхай там што было калі,
Ды кожны ж можа памыляцца.
Пакінь, брат, з уніяй змагацца
І перайдзі на нашу веру,
Дык мы дамо табе паперу
На права жыць, маліцца богу
Там, дзе ты толькі пажадаеш,

Ва ўсім акажам дапамогу.
Ты адпушчэнне атрымаеш
Усіх грахоў...
І вось што, брат,
Далі б табе епіскапат...
Якраз вакантны Магілёў...»

«Навошта столькі лішніх слоў?
Тым, хто сюды направіў вас,
Нясіце мой нязменны сказ,
Што я,
ігумен Апанас
Самім сабою застануся
І пры намовах, і ў прымусе.
Дык не турбуйцеся дарма,
Ў мяне слоў іншых вам няма».

Вачыма бліснуўшы сярдзіта,
Пайшлі за дзверы езуіты.

Назаўтра «лотру» на падводзе
Павезлі ў лагер к ваяводзе
На канчатковы ўжо прысуд.

«Скажыце вы, на чорта тут
Мне здаўся гэты баламут? —
Масальскі ўз'еўся на канвой.—
Ён ваш нявольнік, а не мой,
Дык прэч адсюль яго вязіце
І што з ім хочаце рабіце!»

Дык суд шляхоцкі каптуровы
Сабраўся ў доме езуітаў,
І прыгавор даўно гатовы —
У імя Рэчы Паспалітай —
Зацверджан быў аднагалосна:
За дух бунтарны, выпад злосны
Супроць айцоў лацінскай веры,
Супроць улады і законаў,
За здраду краю і намеры
Змагацца з уніяй да скону
(Што пацвярджаў ён сам не раз)
Поп Філіповіч Апанас
Панесці вінен кару смерці...»

## РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТНАЦЦАТЫ

Асенні дождж імжэў няспынна,
Сівых аблокаў караван
Цягнуўся нізка над краінай,
Спавіўшы Берасце ў туман.
Абмоклі хаты і прысады,
І ўспухла ў вузкіх вулках гразь.
Цямнее. Строгія загады,
Якія ўвёў нядаўна князь,
Адразу з сонейка заходам
Людзей зганяюць у двары.
І нельга рушыць да зары
Ні фурманам, ні пешаходам.

Дык горад змоўк і знерухомеў,
І зрэдку ў вокнах свет блішчыць —



Пасля цяжкой штодзённай стомы
Кладуцца людзі адпачыць.

І толькі ўсю ноч вартавыя —
Па тры-чатыры гайдукі —
То ў вулкі ўсунуцца крывыя,
То месяць гразь уздоўж ракі,
А то, сустрэўшыся на рынку,
Стрымаюць коней на хвілінку
На нейкі свой перагавор
І зноў пускаюцца ў дазор.

Той ночы з камеры астрога
Жаўнеры вывелі на двор
Манаха ў расе пажылога,
За мост, б'ючы, пагналі ў бор
І там расправу ўчынілі...



Калі абліты ўвесь крывёй,
Ён з ног валіўся і ў бяссіллі
Амаль рукамі ўжо не крата́ў,
Спыніўся ў лесе з ім канвой,
І так прамовіў хтосьці з катаў:
«Вось выпаў мне няўмольны лёс
Забіць цябе, духоўны ойча,
Хоць мне шкада цябе да слёз.
Даруй віну й благаслаў,
Як ты спрыяў нам неаднойчы,
Я не жадаў тваёй крыві...»

Тут іншы выстраліў ва ўпор,
І ў момант той з-пад ясных зор,
Што заблішчалі, грымнуў гром,
Нібыта вось з нябесных даляў
Ішоў на карнікаў пагром
З адплатай жудаснай і строгай.

Яны знямелі, задрыжалі,
Амаль без памяці ад страху
У яму ўраз, яшчэ жывога,
Сапхнулі беднага манаха...

## РАЗДЗЕЛ ДВАЦЦАТЫ

Праз год мо труп быў адшуканы,
І хто ні глянуў, дзіву даўся,
Што так ён добра захаваўся.
Яго прывезлі ў манастыр.
І вось натоўп усхваляваны
Заняў цвінтарнай плошчы шыр
І, як з амбона, з агароджы
Крычаць стаў нейкі правадыр:
«Завошта гэты служка божы
Закатаваны быў, забіты?!
Сумненняў быць у нас не можа,
Чые злачынцы і наймiты
Айца Панасія забілі:
Загад далі ім езуіты!»

І ўсе навокал гаманілі:
«Вядома, гэта іх работа,
Яны ж яго ў турме гнаілі!..»
І крыкнуў хтосьці:
«Хадзем, галота,

Граміць лаціннікаў-папістаў
І бургамістра абармота!»

«Граміць!» — З люлюканнем і свістам,
Схапіўшы дзе што ні папала,
Натоўп,— мужчын мо больш за трыста —
Шугнуў у цэнтр магутным валам...
Аднак ля ратушы на рынку
Паход той конніца спаткала...

І ўсё ж народ без перапынку
На плошчу з вуліц выліваўся.
«Назад! — з-пад ратушы будынка
Піскліва ротмістр надрываўся,—
Стаяць! Бо змесім капытамі!»
Аднак жа націск не спыняўся,
Натоўп магутнымі гуртамі
Пайшоў адважна ў наступленне,
Амаль што з голымі рукамі.
Хапаў, што праўда, хто каменне,
Хто кол, сукі, з платоў штыкеты...
І бой пайшоў да знемажэння.
Аднак да вызначанай мэты
Бунтоўны люд не змог прабіцца,
Бо пікі, шаблі і мушкеты
Яго прымусілі спыніцца.
А як жаўнерам дапамога
Прыйшла з суседняй камяніцы —
Стралялі з вокнаў, з-за парога —
То адступіць зусім прыйшлося:
Крыві, забітых стала многа...

Шумела доўга шматгалоссе,
Кіпела крыўда, злосць, знявага,
Што выйграць бою не ўдалося.
Ды справы складваліся блага
Таму што, быццам, ваявода
Ішоў у Берасце й пад сцягам
Меў тысяч некалькі народу.
Ён мог адплату бунтарам
Наладзіць хутка, проста з ходу.
Дык вось з прысад, платоў і брам
Паўсталі ў вулках барыкады,
Каб перашкодай стаць панам,
Якія, пэўне, былі б рады
Пагасцяваць у беднаты,
Што знаць не хоча іх улады.

Але народныя пасты,
У воку маючы дарогі,
І пераправы, і масты,
Зусім рассеялі трывогі,
Што хвалявалі змагароў
І ўвесь мясцовы люд убогі:
І ваявода не прыйшоў,
І шлях на захад густа ўкрылі
Натоўпы з места ўцекачоў...

А што ж дало такія крыллі
Панам, ксяндзам і гандлярам?
Куды яны пакалясілі?
Ды той нязвычны «тарарам»
У хуткім часе разгадаўся:
Да гарадскіх застаў і брам
Полк запарожцаў набліжаўся.

І горад Берасце ўскіпеў,
І ажыла ўміг бедната ўся:
Пачуўся крык, вясёлы спеў,
І людзі рушылі ў бок рынку
Вітаць выбаўцаў, як хто ўмеў.
А тыя ўжо без перапынку
Ішлі з усходу рад у рад
І ў месце сталі для спачынку.



Так многа конніцы, гармат
Ніколі горад мо не бачыў.
І кожны быў выбаўцам рад,
Бо іх прыход так многа значыў!
Каб не з'явіліся яны,
Сустрэў бы ўсіх тут лёс лядачы —
За бунт адпомсцілі б паны,
А вось казакі іх прагналі!

Лапцюжнай чэлядзі сыны,
Чые бацькі ў ярме стагналі,
Б'юць каралеўскіх ваявод
І гоняць іх што раз то далей.

Пяе ад радасці народ,
Сяброў-выбаўцаў абымае.
І ўжо на плошчы — карагод,



Танцуюць, музыка іграе.
Народ снуе туды, сюды,
Яму казацтва патурае:
Няма замкоў для грамады.
Дык кожны браў, што толькі мог,
І баляваў на ўсе лады —
Хто ў грабяжы, хто ў гулі ўлёг,
А хто ад радасці і хмелю
Там, дзе стаяў, валіўся з ног.

А хтось,
захоплены вяселлем,
Дом ваяводы падпаліў,
За тым другія ўспалымнелі.
Агонь акругу ўсю заліў,
Бо ноч тым часам зноў настала.
У звон набатны нехта біў,
Адпак жа гэтага сігнала
Ніхто ўжо слухаць не хацеў —
П'яная вольніца гуляла:
«Даволі жыць у цемнаце,
Цярпець нястачы, здзекі
годзе!
Хай наша доля расцвіце!»

Расло ўяўленне у народзе,
Што сіл такіх ужо няма,
Што стаць маглі б на перашкодзе
Да вызвалення ад ярма,
Ад пут і гнёту векавога,
Што ліць не будзе пот дарма
Ніхто на пана, служкаў бога,
Цярпець абразы, бізуны,
Што зараз новая дарога
Адкрыта ўсім. Дык хай паны
Цяпер пастогнуць, пагаруюць,
Хай гора знаюць і яны.

Манахі сёння склеп будуюць —
Айцу Папасу вечны дом,
Дык праваслаўныя сумуюць
І адначасна ўсе кругом
Рыхтуюць тых да пахавання,
Каму прыйшлося вечным сном
Сплаціць няроўнае змаганне
З атрадам конных гайдукоў.
Гатовы труны ўжо ад рання,

І шмат наплецена вянкоў
На іх жаночымі рукамі,
Стараннем мужных казакоў.

Казацкі полк пад бунчукамі
Ля цэрквы строіцца ў рады,
І вось працэсія з вянкамі,
З крыжамі, спевам грамады
Нясе забітых да пагоста.
Завулкі, вуліцы, сады
Запоўніў люд мясцовы просты...
А гэтым часам ля царквы
На ўзвышшы новага памоста
Кладуць дамоўкі...
Дым сівы
Паплыў ад свечак і кадзілаў,
Як жальбы сімвал векавы.

Маленне ў сэрцах жаль будзіла,
А як настаў апошні час
Аддаць нябожчыкаў магілам,
Зваліўся з трэскам плот якраз
Ля месца, дзе спачынак вечны
Знайшоў ігумен Апанас —
Змагар за праўду чалавечны.
І з галашэннямі, і плачам
Народ мясцовы і зарэчны
Натоўпам лез:
«Няхай мы ўбачым
Святога йгумена свайго
І абальём слязой гарачай!..»
Было так цесна ля яго,
Што аж казакі шчыльна сталі
К труне адзін да аднаго
І па чарзе ўсіх прапускалі.

А як парадак навялі,
І адляглі народу хвалі,
Мужчыны ў глыб сырой зямлі
Сяброў пабітых апусцілі.
Зноў песні-жальбы паплылі,
Жанчыны слёзна галасілі...
І прагрымеў салют з гармат
У гонар брацця́ў, што ў магіле.

І вось палку прыйшоў загад
Далей панам пагрозу несці,

Дык зняўся хутка ўвесь атрад,
І ціха, пуста стала ў месце.
Пайшлі казакі ў вір вайны,
Якая ўсё шырэй палала
І за праступкі даўніны
Крыві даніну сабірала...

Не памыліўся Апанас,
Калі сцвярджаў, што супастаты
За крыўды, здзек з працоўных мас
Пазнаюць грозны час адплаты.



*Найлепшаму сябру, нястомнай спадарожніцы майго неспакойнага жыцця, жонцы Ніне Пятроўне ў доказ глыбокай пашаны і шчырай адданасці прысвячаю гэту працу.*

Аўтар

## УСТУП

Крэўскага замка каменні, руіны
Думку вяртаюць назад на стагоддзі
Ў час гераічны, цяжкі і былінны,
Сёння часткова забыты ў народзе,
Бо ўжо ўспамінамі ў веку глыбіны
Дзед апусціцца не ў сілах ніводзін —
Ў пору змаганняў, каварства, пакуты,
Ў часы Альгерда, Ягайлы, Кейстута.

Век чатырнаццаты — жорсткія часы,
Кожны для кожнага вораг заўзяты;
Нельга знайсці ні дарогі, ні трасы,
Дзе б мог спакойна бядняк ці багаты
Ехаць, ісці або стаць на папасы.
Бойся і лесу, і рэчкі, і хаты,
Калі ты стаў адзінокім ці зброю
Слаба трымаеш старэчай рукою.

Вораг мог выйсці з-за кожнага куста —
Мог ім быць звер, селянін пагарэлы,
Бедны рамеснік, манах златавусты,
Мог ім быць пан ад баёў азвярэлы,
Як і бадзяга, што грабіў з распусты.
Вораг здалёку мог выпусціць стрэлы,
Выскачыць зблізку з мячом ці дубінай,—
Гвалт і грабёж панавалі няспынна.

Прыклад ішоў ад вярхоў, як вядома,—
Князь, княжаняты, паны і баяры
Грызліся самі з сабою без стомы.
Вечныя войны, сутычкі, пажары
Нішчылі хаты, лясы і харомы.

Люд пад'ярэмны душылі цяжары
Паншчыны, звозу, аброку, падатку,
Варты, шарваркі, аховы парадку...

Збройныя варты хадзілі нярэдка
З замкаў прасочваць дарожныя далі,
Але й дружыннікі, князя разведка,
Самі на мірных людзей нападалі —
Грабілі, гвалцілі, нішчылі сведкаў,
Потым спакойна пускаліся далей.
Страшна было карыстацца дарогай,
Цяжка жылося і ў хаце убогай.

Толькі ля замка або за мурамі
Людзі сябе спакайней адчувалі,
Дык навакола малымі дварамі
Шчыльна князёўскі той двор акружалі,
Месца пакінуўшы кузні ды краме,
Вулачкам вузкім, што граззю пятлялі.
З часам шырэй распаўзаліся хаты
У горад нярэдка прыгожы, багаты.

А як злы вораг прыходзіў з напасцю,
Не ўшанаваўшы пастоў ні граніцы,—
Гэта было найвялікшым няшчасцем.
Хто за мурамі не мог бараніцца,
Лепшым лічыў дзесьці ў нетрах прапасці,
Чым злітавання чакаць чужаніцы,
Што вынішчаў і людзей, і багацце
Ў кожным сустрэчным пасёлку і хаце.

Дык і не дзіва, што людзі, як зверы,
Звыклі адзін ад другога хавацца,
Што чалавек чалавеку не верыў,
I па дарозе, і ў гульнях, і ў працы
Вечна гатоў бараніцца, змагацца,—
Згодна з законам бязлітасным воўчым:
Чым быць звярынаю, будзь лепей лоўчым.

1

Многа ў Альгерда і слуг і багацця,
Войску, дружыннікам — ліку няма.
Край абсцы, дык жыцця мо не хваце,
А гарадоў — незлічоная цьма.

Замак у Вільні пад Тур'яй гарою,
Там, дзе Віленку сустрэла Вілля,

Моцны, вялізарны, рэдкай парою
Князю служыў для спачынку — жылля.

Князь несупынна ў раз'ездах, паходах,
Ён валадарыў жалезнай рукой —
Строгім суддзёй быў у братніх нязгодах,
Страшным у бітвах з крыжакам, Ардой.

Ворагаў меў, дый сяброў меў багата,
Многіх любіў, ды найболей бярог
Кейстута з Трок,
маладзейшага брата,
Сябра баёў і бясконцых дарог,

Смелага рыцара, здольнага мужа,
З кім абмяркоўваў нямала падзей,
З кім між суседзяў праславіўся дужа,
З кім раздзяляў і уплыў на людзей.

Але характар быў розны у браццяў:
Слава Альгерда цягнула ў паход,
Кейстута болей маніла багацце —
Золатам мераў ён вартасць турбот.

Звязан Альгерд больш з славянскаю Руссю,
Рускай культурай не грэбаваў ён,
Кейстут любіў старыну і гарнуўся
Больш да літоўскіх паганскіх плямён.

Альгерд быў любімым героем народа —
Песні і казкі складалі аб ім,

Кейстут між панства з высокага роду
Больш меў пашаны і быў там сваім.

2

Не спадзяваўся знатны Гедымін,
Сярод лясоў будуючы сталіцу,
Што неўзабаве ўжо ягоны сын
Сталіцай гэтай будзе ганарыцца.

Мінула год не так ужо і шмат,
А замак распасцёрся пад гарою,
Як быццам волат паміж немаўлят,
Між гарадскіх забудаванняў рою.

Пабеглі вуліцы ва ўсе бакі,
Гудзяць народам плошчы, крамы, прыстань...
Рамеснікі, купцы і рыбакі,
Жрацы, баяры, ратнікі, юрысты

Працуюць, ходзяць, мітусяцца ўсцяж
У цесных вулках горада і замку.
Збывае лепшы свой тавар кірмаш
Да цёмнай ночы ад світанку.



Бо ў замку ж грошы, сіла і закон,
Там моды, чуткі, звычаі, навіны,
І кожны скуты з замкам аж па скон
Ад нараджэння першае хвіліны.

І замак повен вечнай мітусні:
Дружыннікі, баяры, ваяводы
То пешшу, то са зброяй на кані
Снуюць туды-сюды. Паўзуць падводы,





І скрып, і крык, і стук наўкруг.
На плошчы, ў стайнях, складах і палацах
Натоўп уецца незлічоны слуг,
Занятых рознай безупыннай працай.

Нясуць загады ў розныя канцы
І данясенні возяць з-пад граніцы
На скакунах узмыленых ганцы
Шляхамі, што збягаюцца ў сталіцы.

А князь спярша баяр і ваявод
Пасля ганцоў прымае — сочыць пільна,
Каб паслухмяным быў яму народ
І вораг шанаваў Літву і Вільню...

3

Аднойчы ў натоўпе палоннікаў рускіх
Кейстуту трапіў на вочы хлапчук:
Дробны, худзенькі, у портачках вузкіх,
У матчынай вопратцы не па плячу.
Тварык яго палымнеў ненавісцю,
Скрыўлены вусны, насуплены зрок,
Сціснуты моцна рук дробныя кісці...
Князь гэта ўгледзеў чамусьці здалёк:
«Што гэта ты гэткі злы, невясёлы?
Білі цябе ці галодны? Скажы».
Скочыў да волата хлопчык той кволы
Ў злосці такой, што не знае мяжы.
З крыкам і плачам ударыўся ў грудзі,
З сілай упіўся зубамі ў руку...
Князь адхіснуўся. Прыдворныя людзі
Рукі скруцілі назад хлапчуку.

. . . . . . . . . . . . . .

Доўга ляжаў ён у пуні і плакаў,
Моцна пабіты за княжую мосць.
Мучыў усё ж не так боль небараку,
Колькі бяссілле, нянавісць і злосць.

Вораг засціг іх з матуляй у хаце,
Рукі назвязваў, пагнаў у палон.
Плакала маці над лёсам дзіцяці,
Плакаў над маці нядоляю ён.
Колькі сцярпець, нералсыць давялося,
Покуль прыгнаў іх да Вільні канвой,
Ведае толькі мо ў полі калосе,

Лес ды балота з густою травой.
Маці да скону ўвесь час паўтарала:
«Бог не даруе ім нашых пакут!
Здохне пракляты князёк-абдзірала,
Звер ненажэрны, паганы Кейстут!..»
Кейстута сёння хлапцу паказалі.
Князь насмяхацца мо здумаў над ім?..
«Чэрці паганыя! Бачыш! Не далі
Мне разлічыцца з тым чортам рудым!..»
. . . . . . . . . . . . . . .

Потым усё патанула ў тумане,
Доўга пакутваў ад болю і змор...
Каб не старэйшых палонных старанне,
Ён, безумоўна, тады б і памёр,
Выжыў аднак жа, падняўся на ногі,
Стаў памаленьку выходзіць на двор,
Думкай вышукваў дадому дарогі,
Ўпотай маліўся да ранішніх зор.
«Мне б да сваіх, на радзіму дабрацца,—
Ціха шаптаў ён і сох ад пакут.—
Войска сабраў бы і стаў бы змагацца
З сілай тваёю, паганы Кейстут!..»

Чуў князь Альгерд пра здарэнне на псарні,
Ён усміхнуўся:
«Адважны юнак.
Здайце яго да паслуг на пякарню,
Потым убачым, што будзе і як».

4

Пекар спытаў:
— Як завешся?
— Ўладзімір.
— Скуль ты?
— Палонны з Маскоўскай зямлі.
— Значыць, па-нашаму будзеш Вайдзіла.
Бачыш вунь жорны? Ідзі і мялі.
Не, пачакай. Вось знайшоўся мне волат!
Душна тут. Мамчыну світачку скінь.
Сядзь, замары перш акрайчыкам голад,
Потым вунь там падмяцеш каля скрынь.

Так і застаўся малы Вайдзіла
Ў пякарні княжай і рос надзіва
Хлапчынам бойкім, прыгожым, дужым,
За праўду стойкім, жывым, дасужым.

Аднойчы князем
Ён быў заўважан:
— З якога звання,
Якога роду?
І на пытанне
Хлапчук адказа:
— Я раб з усходу,
Завуць — Вайдзіла.
Жыву надзеяй —
Чутка ж хадзіла,
Што гэтым летам
Пусцяць дадому ўсіх малалетак.
Век спадзявацца — палонных доля.
Калі ж ты, княжа, дасі нам волю?

Альгерд здзівіўся:
— А ты гарачы!
Ды па табе ўжо бізун мой плача,
Так мне здаецца.

А хтосьці збоку ў размову ўпрэцца:
— Гэта ж той самы
Нашчадак хамаў,
Што ў страшнай злосці і ненавісці
Князя Кейстута ўкусіў калісьці...
— Ага, дык вось якія справы!
Дык гэта ты той хлопец жвавы,
Што помсту маючы на ўвазе,
У свой час кінуўся на князя
З сваім дзіцячым кулаком?
Ты стаў, я бачу, дзецюком.

— Дазвольце, пане,
Сказаць мне слова.
К вам на спатканне
Я адмыслова,—
Іншы ўмяшаўся,—
Сюды спяшаўся,
Каб далажыць вам усё парадкам.
За тым выпадкам
З князем Кейстутам,
Загад быў даны
Ўвесь зброд паганы
Зрабіць ахвяраю для Пяркунаса.
Хлапца не ўзялі,
Бо ён, казалі,
Тады быў хворы.

Дык з божай волі,
Дазвольце, пане,
Ахвяраванне
Цяпер правесці,
Каб быць нарэшце
З багамі ў згодзе.

— Ты што пляцеш аб нейкім збродзе?
Каго ўзяць хочаш на ахвяру?
Ды хто ты ўрэшце, што ткнеш хару
У справы княжае улады?
— Я служка бога Пяркунаса.
— А што ў вас мала хлеба, мяса?
Ці мо падохлі вашы гáды?
Майго нявольніка вам трэба?
Хто служка божы — глядзі у неба,
А на зямлі я й сам убачу!
— Мы перш за ўсё за вашу ўдачу
Багоў упрошваем, мой пане...
— Скажу табе на развітанне:
Ідзі адгэтуль ды маўчы,
Пакуль гарбуз твой на плячы.—
Пасля звярнуўся да Вайдзілы:
— Ты, бачу, хлопец, маеш сілы,
Калісьці неяк ненарокам
Зрабіў цябе я хлебапёкам,
Ну што ж, і далей не пакіну —

Вазьму цябе ў сваю дружыну,
Там ты, як трэба, будзеш жыць.
Ці будзеш верна мне служыць?
— Нашто пытаць раба аб згодзе,
Загад дасце яму, і годзе.
— Ну вось і добра. Пан Даўгяла,
Глядзіце, каб аб ім падбала
Мая прыдворная управа.—
Кватэра, вопратка і страва,
Як і для ўсёй дружыны княжай.
Пра лёс далейшы потым скажам.

5

І стаў Вайдзіла жыць у замку.
Спярша тужыў па волі-долі,
Пасля,
прывыкшы да няволі,
Замкнуў жыццё у тую рамку,

Што распарадкам дня завецца
І, як між слугамі вядзецца,
Пачаў цягнуць пакорна лямку.

Ён перш быў хлопцам для паслугі,
Хадзіў туды, дзе загадалі,
Рабіў, што толькі пажадалі
Княгіня, князь, паны, іх слугі.
Штораз то рэха мур будзіла:
«Вайдзіла, дзе ты? Гэй, Вайдзіла!
Што, паспытаць жадаеш пугі?»

Ды час ішоў, міналі годы,
Вайдзіла рос і жыць вучыўся.
З загаду князя хутка ўліўся
Ў сям'ю вайсковага народа.
Жыццё інакш каціцца стала
І паступова замятала
Дзяцінства цяжкага нягоды.

І вось у князевай дружыне,
Хоць і за ўсіх ён маладзейшы,
Ён самы смелы, найспрытнейшы.
А ў той жыццёвай блытаніне
Ён не шукае спрэчак, звады,
Але і ворагу дасць рады,
І сябра ў горы не пакіне.

Прывык да бітваў і паходаў
Супроць татараў, немцаў, ляхаў
І сустракаць прывык без дахаў
І халады і непагоды.



А ў час баёў ці паляванняў
Не ведаў страху, ні хістанняў,—
Яму адно — ў агонь ці ў воду.

Ды толькі сумны ён якісьці,
Ні з кім сяброўства не заводзіў,
Быў панам сам сабе, дый годзе.



І ўсё таксама, як калісьці,
Глядзеў на Кейстута варожа —
Ніяк з той спадчыны нягожай
Не мог знайсці у думках выйсця.

Ён помніў матчыны праклёны,
Якімі кожны дзень, бывала,
Яна Кейстута абсыпала.
Але чаму такі шалёны
Гнеў выклікала імя гэта,
Не скажа бедная кабета —
Над ёй гамоніць лес зялёны.

Альгерд Вайдзілу за адвагу
Шануе, нават паважае.
У ім ён розум заўважае
І да навук усякіх цягу.
Дык выхаванцам ганарыцца,
Аднак не мае сіл забыцца,
Што хлопцаў род насіў сярмягу.

6

Звычайнай справай
Для князя, а для княжанят
Забавай
Было сціганне,
Паляванне.
Яно займала часу шмат
І жорсткасцю напаміпала войны.
Атрад імчаўся ў пушчу збройны
І звера нішчыў як папала.
Вядома, гэта гартавала
Ваяк для будучых баёў
І кіравала іх на згоду
Ліць кроў
Людзей любога звання, ўзросту, роду.

Вось нетры бору
Прарэзаў рога хрыплы кліч.
Угору
Шугнулі птушкі-палятушкі
І затрывожылася дзіч:
Насцаражыўся дзік клыкаты,
Хвасты ўшчамілі ваўчаняты,
Мядзведзь парушыўся у ломе,
Бабры прыціхлі ў вадаёме,

Паветра стаў абнюхваць лось,
Дзед-зубр спыніўся у паўжвакі...
Ускрыкнуў дзесьці хтось,
І ўзнялі злосны брэх сабакі.

Тады на пушчы
Тра-рахнуў лом ад лап і ног,
Нясучых
Народ звярыны
Праз цаліны
Глухі гушчар і зыбкі мох,
Цераз карчы, балоты, пні, завоні,
Каб толькі далей ад пагоні,
Каб не папасці ў круг аблавы...
Прапаў, хто слабы ці кульгавы,
Настаў такому смерці час —
Акружаць беднага сабакі,
І ўраз
Заколюць людзі-забіякі.

Бяда звярыне,
І плача, стогне цёмны бор,
Што гіне
Краса прыроды
Назаўсёды,
Што нішчыць лук, агонь, тапор
Ды паляванні і аблавы,
Бывае, толькі для забавы,
Абшары лесу, многа звера,
Што чалавек, той ненажэра,
Знішчае ўсё з усмешкай злой.
Дык плачуць сосны-небаракі
Смалой,
Калі пачуюць брэх сабакі.

Не знаюць сосны,
Што ўсё ж не кожны чалавек
Так злосны
І крыважэрны
Непамерна.
Не ведаюць, што ёсць паны зямлі,
лясоў і рэк,
Паны людское волі, долі.
І ёсць такія — іх шмат болей —
Што працай пільнай паслухмяна
Спаўняць павінны волю пана,
Які не цэніць ні звяроў,

Ні лесу, поля, ні народу
І кроў
Прывык з маленства ліць як воду.

Аднак, бывала,
Што звер не толькі ў страху бег,
Спыняла
Яго парою
Помста. Зброю
Крышыў тады, валіў на снег
Ці ў мох таго, хто там сустрэўся на дарозе.

Альгерд аднойчы у трывозе
З-пад тура клікнуў дапамогі.



І тут Вайдзіла хутканогі
Ваткнуў звярузе піку ў бок...
Падняўся князь, як крэйда, белы:
«Звалок
Ты смерць з мяне, юнача смелы,
Я гэта помніць буду век,
Дык знай — ты не слуга, а вольны чалавек».



7

Што гэта ў Вільні зноў за ліха?
Крык, гоман, стук з усіх бакоў,
У вулках цокат, ляск падкоў,
І вокал прыстані не ціха.
Прыехаў з Трок Кейстут вялікі,
Князі з удзелаў, шмат баяр,
Купцы сцягнулі свой тавар —
На рынку заклікі і крыкі.
Альгерд збірае раду-думу
З князёў, баяр і ваявод.
Якісьці зноў, відаць, паход
Ў баях ссівелы князь задумаў.
— Браты-князі! Паны-баяры! —
Узяўшы слова, мовіў ён.—
Ад братняй Тверы вам паклон,
Над ёй сягоння дыму хмары.
Мяркуйце самі. Князь Дзімітрый
Заняў бяспраўна горад Твер.
Дзімітра знаю я; як звер,
Ён крыважэрны, злы і хітры.
Дабра не будзе. Сёння з Тверы
Ў гарачцы лезці ён гатоў
На нашы княствы, на братоў,
Што на Літву вартуюць дзверы.
А ў нас шукае дапамогі
Сагнаны з Тверы Міхаіл.
Ён сябра наш, дык частку сіл
Яму трэ даць без засцярогі.
А я прашу тут вашай згоды
Дзімітра жорстка пакараць,
Бо толькі мы яго прагнаць
Дадому можамназаўсёды.

— І я за тое ж. Ды, дарэчы,
Хачу напомніць, што крыжак
Гатоў уткнуць нам нож у плечы,
Калі мы будзем пад Масквою.
— З крыжакам мір цяпер у нас,—
Сказаў Альгерд,— бо вось якраз
Прасіў сам ордэн супакою.
— Хоць я крыжакам і не веру,—
На гэта Кейстут,— ды пара
Ўсмірыць Масквы валадара,
Бо ён нахабным стаў не ў меру.
— А як па іншых паграніччах? —

Спытаў Таўцвіл, баярын знатны.
— Заслон усюды маем ратны,
Я гарнізоны павялічыў.
— Дзімітры вораг небяспечны,
Дык трэба так змясіць яго,
Каб ён адрокся усяго
Або на мір згадзіўся вечны.

Праз тыдзень збораў у дарогу,
У лета самага разгар,
Пасля малебстваў і ахвяр
Альгерд прышпорыў верхавога.
І паплылі за ім дружыны
Праз сінь лясоў і шыр балот,
Праз недарод, неумалот,
Праз трупы, попел і руіны...

А ў час, калі паход спыняўся,
Сустрэўшы брод ці на папас,
З дружыны княжай кожны раз
Ягайла юны вылучаўся.
Бялявы тварам, спрытны, стройны,
Ягайлу толькі дваццаць год,
І першы раз яшчэ ў паход
Вядзе атрад ён самастойна.
Нядаўна стаў ён крэўскім панам —
Як раўнапраўны ўдзельны князь,
Праедзе, ўздыме пыл ці гразь
Сваім канём непаслухмяным.

Яму не церпіцца сустрэцца
З самім Дзімітрам у баі,
І сніць ён бітвы і страі,
І прагай славы сэрца б'ецца.

Альгерд спыняе зрок на сыне,
Што побач мерае з ім шлях,
І раптам сэрца цісне жах:
А што, як гэты сын загіне?
Ягайлу ён выхоўваў строга,
Яму рашыў у нетрах мар
Улады здаць пасля цяжар,
Хоць меў сыноў і іншых многа.
Яшчэ зялёны ён, гарачы,
Наперад любіць забягаць,
А не паспееш затрымаць,
Дык у Маскву адзін паскача!

І за Смаленскам на папасе
Уздумаў сыну даць канвой,
Які б за князя галавой
Адказным быў у кожным часе.
Ваякаў выклікаў са дзвесце,
З іх выбраў дзесяць юнакоў
І загадаў з другіх палкоў
У полк Ягайлы перавесці.
І ў гэтым выбраным дзесятку
Вайдзіле стрэўся Прокша, Ліс,
Знаёмы быў Кучок, Кайрыс,
А іншых ён не знаў спачатку.

Ды хлопцы хутка падружылі,
Бо ўсе равеснікі былі,
І пана крэўскае зямлі
Жалезным колам акружылі.
Прывык да іх і князь Ягайла,
Усіх за ўдаласць палюбіў,
Сам падабрэў ён, менш грубіў,
Жыць лепш усёй дружыне стала.
Тым часам вольнаю ступою,
Каб лішне коней не загнаць,
Ішла Літвы дасужай раць
І раптам стала пад Масквою.

3

Масква сачыла.
Ў сіняве,
Як быццам росы на траве
Ці ўзбліскі хваль у ясным сонцы,
У пыле-кураве бясконцым,
Пасерабрыўшым звонка даль,
Літоўскіх пік заззяла сталь.
І так дружынай баявой
Літва сустрэлася з Масквой.

Як толькі коннікаў варожых
Дазор заўважыў са сцяны,
Трывогу сталі біць званы
Ва ўсіх сталічных храмах божых.
На брамах грымнулі завалы,
Падняты з скрыгатам масты,
А на сцяне свае пасты
Займаць пачаў народ бывалы.
Хапалі зброю змагары,

Катлы з кіпячаю смалою
Цягнулі гуртам на муры
І рыхтавалі ўсё да бою.

Уміг акружана сталіца,
І перакрыты ўсе шляхі,
І асядланы берагі
Ракі, што зорамі іскрыцца.
Уздоўж муроў па ўсім прасторы
Параскідаліся палкі.
Вось паімчаліся дазоры
Пад лес па беразе ракі,
Адкуль з'явіўся нечакана
Спярша атрад, пасля абоз,
Які харчы і зброю вёз.
Абоз той вёў баярын Шуба,
Вёў і не знаў, што пад Масквой
Яму рыхтуецца загуба.
Пасля ж, калі яго канвой
Разведаў, як і ў чым тут справы,
Вяртацца позна ўжо было.
Ля сцен пачаўся бой крывавы —
Баярын, ворагам назло,
Стаў працярэбліваць дарогу,
А на спатканне масквічы
К яму ўжо беглі на падмогу:
Ў абозе ж зброя і харчы!

Ды і ліцвіны не драмалі —
Пайшлі з бакоў наперарэз,
Каб не пусціць маскоўцаў далей,
А Шубу выцесніць пад лес.
І бой пачаўся страшны, люты —
Хто сек, хто біў, а хто калоў,
І звон мячоў і енк пакуты
Зліліся ў страшны гул без слоў.
Усё змяшалася ў тумане —
Яздок і конь, чужы і свой...

Ягайла кінуўся ў змаганне,
Падняўшы меч над галавой,
Але, кап'ём жалезным збіты,
Скаціўся раптам пад каня.
Пакуль байцы з прыбочнай світы
К яму з падмогай падаспелі,
Яго схапілі маскалі
І ўжо ў палон цягнуць хацелі.

Тут разважаць няма калі!
Надбег з мячом на іх Вайдзіла,
Другія — ўслед. Адбіты князь,
Зноў конь пад ім грызе вудзіла...
— Наперад, княжа, не вылазь,—
Яго упрошвае ахова.



А ён, скачаны ў кроў і гразь,
Не можа вымавіць і слова.

А масквічы за гэты час
Літву ад брамы адцяснілі
І пачалі ўпускаць абоз,



Што расцягнуўся на паўмілі.
Баярын гнаў за возам воз,
Пакуль вакол грымела пекла,
Ды сілы ўдвоіла Літва
І рух на тракце перасекла.
Загінуў Шуба, як герой,
За крок ад роднае сталіцы.
Звініць Масквы набатны звон:
Аблеглі горад чужаніцы!..
. . . . . . . . . . . .

Альгерд тым часам стаў «здаваць» —
Яго няшчадна біла трасца,
І зразумела хутка знаць,
Што ім Масквы узяць не ўдасца
Без цяжкай зброі і гармат,
А дзе знайсці іх — невядома.
Пасля нарады дан загад:
Асаду зняць, ісці дадому.

Пайшлі назад. Пра той паход
Пісаў у хроніцы манах:
«Зело нічтожыша народ —
Огнем жегоша,
Мечамі біша,
Полоніша...
І бысть повсюду плач і страх».

9

Падвечар іх стамілі далі,
Дык над ракой сярод паляны
Ліцвіны з коней пассядалі.
Уміг зайрдзелі палымяна
Лаўжоў нязлічаныя зоры,
І навакол па ўсёй акрузе
Парассыпаліся дазоры,
І табуны зайржалі ў лузе.
Альгерд і стомлены, і хворы,
Ледзь на сядле ўжо мог трымацца,
Дык у плашчы, як быў, і ў зброі
На сена кінуўся ў палатцы.
Шарэла ўжо. Шумелі хвоі,
Галлём разлапістым гайдалі
І, быццам шумам тым нядолі
І стоме княжай спагадалі.
І ў той час, зроджаны на ўзлессі,

Паплыў з туманамі па полі
Матыў даўно пачутай песні:
«Вячэрняя зара ясна,
А ранняя не такая,
Ды свая старонка красна,
А чужая не такая...»

Тут усхапіўся князь з пасцелі,
Бо раптам сталі мітусіцца
Мурашкі нейкія па целе,
І сэрца стала хутка біцца:
Дык песню ж гэту ён калісьці
І знаў, і чуў не раз, бывала,
Але ад часаў тых мо лісце
Разоў са дваццаць ападала
І тыя дні зацерушыла.
А колькі ўжо знаёмых, блізкіх
Глынула прагная магіла!
Ды вось, як быццам фенікс з прыску,
Твар чарнавокі, чарнакосы
І гнуткі стройны стан дзявочы
Цераз гадоў мінулых лёсы
З'явіўся князю зноў на вочы.

...«Вячэрняя зара ясна,
А ранняя не такая.
Селяніна жонка красна,
Баярына не такая...»

— А дзе ж цяпер яна, Арына?
Як мог аб ёй я так забыцца?!
А там пяе што за дзяўчына?
Не... Голас нейкі іншы быццам.
Ды столькі ж часу прамінула!..

...«Ды казаў ліцвін русіну:
Ты пакінь сваю краіну!
Я табе за гэта дам
Каня варанога і сядзельца залатое...»

Казаў баярын селяніну:
«Ты аддай сваю жану!
Я табе шмат грошай дам,
Волю дам табе затое...»

— Чакай, чакай... Як жа было там?
А я ж любіў яе бясконца!..

Ды брат мой князь Кейстут балотам
Тады захляпаў тое сонца,
Што нам так радасна свяціла,
Бо сувязь тую разарвала
Кейстута воля, хітрасць, сіла...
Ды што пасля, пасля з ёй стала?!

«Не хачу каня з сядлом,
Мне мілейшы родны дом.
Я хоць і ў бяду ўпаду,
Цябе ў палон завяду,
А я хоць з ног звалюся,
А дадому ўсё ж вярнуся...» —
Гучала песня жаласліва.

Пяюць палонніцы, няйначай,—
Падумаў князь,— дык і не дзіва,
Што сэрца рвецца так і плача...
Але, аднак жа,
дзе Арына?



Мяне панеслі войнаў хвалі,
А дзе ж падзелася каханка,
Чарнавалосая дзяўчына,
Княгіням роўная сялянка?!
Куды яе тады схавалі?

«...Не хачу багатым быць,
Мне мілей з каханай жыць.
Я хоць і ў бяду ўпаду,
Ды тваю жану звяду.
А я хоць з ног звалюся,
За каханай пацягнуся...»

Не, я за ёй не пацягнуўся,
Нікчэмны хлус і раб улады!
На брата я зваліў віну ўсю,
А сам — віноўнік першы здрады!
Я змаладушнічаў, паехаў,
Яе пакінуўшы у Крэве.
«Зайздросціш? Дык вазьмі на ўцеху!» —
Сказаў я Кейстуту у гневе.
І больш ніколі ані слова
Не гаварылі аб сялянцы.
«Ўцякла»,— казалі.— Гэта змова!
І брат, і слугі — ашуканцы!



Яна любіла і ніколі
Мяне б не кінула, я знаю.
Ке тады з гнязда спаролі
І зайздрасць і хлусня дурная!
А можа, Кейстут вывез сілай?
А мо тады забілі дзесьці?
Яна ж ужо не так хадзіла...
Я мушу знаць усё нарэшце!»

І, плашч адкінуўшы і зброю,
Князь лёг на сена, зметкыў вочы,
Але ні сну, ні супакою
Не дачакаўся гэтай ноччу.

10

Гоман і грукат навокал разносіцца:
Коннікі ў замак з ваколіц збіраюцца,
Нейкая чуецца рознагалосіца,
Мост ад капыт грукаціць, угінаецца —
Нешта ліхое, відаць, пачынаецца.

Крэва ў трывозе — хто стогне, хто моліцца,
Дзеці да матак заплаканых туляцца,
Людзі бягуць з цёплых ложкаў на вуліцы:
«Што гэта робіцца? Што гэта творыцца?
Што гэта ў замку за рух і бяссонніца?»

Вечарам коннік галодны, здарожаны
Ўскочыў у замак са шляху ашмянскага,
Звесткамі нейкімі князя ўстрывожыў ён,
Вось і узняты дружыннікі панскія.

Б'юцца ў няпэўнасці сэрцы сялянскія:
«Можа, навісла навала крыжацкая?
Лях ці мангол праз лясы прабіраецца
Ці ўжо ў граніцы ўварваўся знянацку дзе?
Братняя кроў мо ізноў праліваецца?»
Людзі пытаюцца, раюцца, лаюцца:
— Што там за трасца? За кім наш князь гоніцца?

Справы, відаць, пачаліся ваенныя:
Мост апусціўся, затупала конніца,
Рэха пайшло за муры таўстасценныя,
Будзячы розныя домыслы дрэнныя.

Коннікі ў латах па горадзе носяцца...
Войска кудысьці ў пацёмкі спяшаецца.

Але на вуліцы рознагалосіцца
Аж да світаннейка не сунімаецца:
Людзі гамоняць, трывожацца, лаюцца...

Раніцай Тэкля, кабета дасужая,
Весткай, здабытай употай, дзялілася:
«Кажуць Альгерд ці памёр, ці нядужы ён,
Дык усхвалёвана вельмі ўжо Вільня ўся,
Вось у сталіцу Ягайла і рынуўся».

Тэкля паладзіла з княжым дружыннікам
З Прокшам адважным залетась, дык сніцца ёй
Шчасце, што ўвосень сплыло з павуціннейкам;
Так ні замужняй жыве, ні ўдавіцаю,
Сын — у магілцы, пад вербачкай ніцаю.

Служыць у замку прыслужніцай нейкаю,
Часта, аднак, да сваіх выбіраецца —
Дружбы не траціць з убогай сямейкаю.
Тэкля наогул усім падабаецца,
Але чамусьці завуць яе Змейкаю.

Замуж ісці наадрэз адмаўляецца,
Верыць, што Прокша, герой яе, вернецца.
Хоць ёй сяброўкі услед ухмыляюцца,
Хоць варажыла вандроўная чэрніца,
Сэрцу жанчыны у здраду не верыцца.

Тэкліна вестка уміг разляцелася.
Людзі дамоў пачалі разыходзіцца,
Брацца за працу, хоць з рук і ляцела ўсё,
Але ж без працы нічога не ўродзіцца.
Можа й на свеце яшчэ распагодзіцца...

11

У слаўнай віленскай даліне Свінтарога,
Між дубоў старых, у гаі векавым
Гарыць агонь нязгасны Перкуна-Дажбога
Няспынна ў неба цягнецца ахвярны дым.

Ля вогнішча таго старыя вайдалоты
У белых вопратках, з барадамі, як снег,
Багоў загады — зорак ход, вятры, грымоты —
Перакладалі ў мову замкаў, мірных стрэх,

Маліліся, спявалі гімны, варажылі,
Лячылі нашаптам і зеллем ці вадой,

То сны разгадвалі, нябожчыкаў палілі,
Людской умела кіравалі грамадой.

Даўнейшым часам праз даліну Свінтарога
У гай, дзе жыў пярунаўладны бог,
Народу рознага прыцягвалася многа
З усіх напрамкаў віленскіх шляхоў-дарог.

А святамі вялікімі ці ў час ваенны
Не мог змясціць людзей ні горад, ні той гай,
Тады ахвяр паток няспынны, мнагацэнны
Пераліваўся часта ажно цераз край.

Ды вось зацішна неяк у святой сталіцы,
Маўкліва стала й ля ахвярнага агню —
Народ і ў святы ўжо не так таўпіцца,
Сумуе князь праз гэту цішыню.

Засумавалі крыве, жынчус, вайдалоты —
Няма малельшчыкаў, што дзень, то менш ахвяр,
Спяваць багам няма даўнейшае ахвоты,
На сэрцы, быццам камень, нейкі лёг цяжар.

Старэйшы вайдалот, узяўшы канкле ў рукі,
Пачаў будзіць акордам песню з дзён былых;
Другія слухалі, і мірнай песні гукі
У час далёкі, лепшы перанеслі іх.

ПЕСНЯ ВАЙДАЛОТА

У бары, бары ды стаяць горы,
Ды стаяць горы высокія,
А на тых горах ляжыць брусce,
Ды ляжыць брусce цісовае;
А на тым брусcі стаяць слупы,
Ды стаяць слупы маляваныя;
А на тых слупах ды вісяць катлы,
Ды вісяць катлы адліваныя;
А пад катламі гараць агні,
А гараць агні ясненькія
Ды ідуць дымкі сіненькія;
Там сядзяць дзядкі старэнькія,
Вараць стравы яны смачненькія
Ды з таго дзіка клыкатага,
З зубра — звера барадатага.
Усё — Дажбогу падаруначак,
Гасцям любым пачастуначак.

Ещце, ещце, любы госцейкі,
Любы госцейкі — князь з дружынаю.

— Старая песня і прыгожа заспявана,
Сказаў адзін з прысутных тут дзядкоў,—
Яна як скарб які была ў нас захавана
Праз многа год, а мо праз некалькі вякоў.

Сягоння іншы час і песні ў нас другія —
Князі багоў старых менш сталі шанаваць,
І нашы звычаі, абрады дарагія
Народ таксама стаў высмейваць, забываць.

А што, як я вам зараз песню заспяваю
Аб тым, чаму народ адкідвае багоў
І што рабіць нам трэба, каб у нашым краі
Дарэмна братняя больш не лілася кроў?

ПЕСНЯ ДРУГОГА ВАЙДАЛОТА

Ля перавозу стаіць бяроза,
А на той бярозе залата кара!
Залата кара, шаўковы веццi!
Ды нахлынулі крумкачы-вароны,
Залату кару паабівалі,
Шаўкавецце паабламалі.
Выйшаў-выбег добры малойчык,
Крыкнуў-свіснуў на тое птаства:
«Прэч дадому, чорнае птаства!»
Ды тую кару ён пазбіраў,
Шаўкавецце ў пучкі павязаў
Ды панёс да збройнічка, да здольнічка:
«Ты збройнічку, ты здольнічку,
Скуй ты мне ды золат меч,
З акравачак ды панцыр-шчыт,
А з веццейка — адзежынку.
Тым мячом чорна птаства прэч гнаць,
Шчытом-панцырам засланяціся,
А ў адзежцы той красаваціся».

— Ты песню хвацкую злажыў — не падкапацца,
З прыемнасцю мы слухалі яе.
Штодня і ўсім расказвайце пра птаства,—
Сказаў Крыве-Крывейта,— покуль сіл стае.

Вунь лях прыслаў на нашу шыю францысканцаў,
Дамініканцаў нейкіх немец падаслаў,

І Кіеў накіроўвае сваіх пасланцаў,
А ўладары не бачаць іхніх чорных спраў.

Цішком ідзе ўжо барацьба за панаванне,
А мы з князёў таму павінны памагаць,
Хто нашу веру родную падтрымваць стане
І згодзіцца усіх прыблудаў вон прагнаць.

Крыжакі Швіндрыгайлу ставяць кандыдатам,
Князь Януш Кейстута падтрымвае як зяць,
Маскоўскі князь Андрэевым стаў сватам,
А Любарта Мамай маніцца нам прысламь.

Дык вось скажу вам: не падходзіць з іх ніводзін.
Чаму? Зусім не цяжка гэта зразумець,—
Вялікі князь Літвы ў народзе
Сваім павінен і пашану і падтрымку мець.

Нам аб'явіў Пяркун, што больш за ўсіх дастойны
Ягайла Альгердовіч, крэўскі валадар.
Дык быць яму Вялікім, хоць праз выбар збройны,
Няхай на гэта шмат спатрэбіцца ахвяр!

Ідзіце ў людзі, ведайце ўсе чуткі, справы,
Збірайце пільна звесткі з княжага двара.
Калі з нас кожны будзе пільны і рухавы,
То будзем мець прыгоднага гаспадара.
Увесь чужынцаў-крыжаносцаў зброд плюгавы
Дазвання вынішчыць ужо даўно пара.

12

А на Замковай вуліцы,
Глыбока у двары
Да тыну цэркаў туліцца
Ад даўняе пары.
Малая, з дрэва зрублена,
Падобна да гумна,
Ды хоць між хат загублена,
Вядома ўсім яна.
Ідуць сюды з ваколіцы
І з дальніх месц падчас,
Каб паглядзець, як моліцца
Ігумен Апанас.
Аж з Кіева далёкага
Ён на Літву прыйшоў,

Ды не для хлеба лёгкага
І ўспененых каўшоў,
Але каб слова божае
Няверным абвясціць,
Каб Жмудзь,
Літву варожую —
Дазвання ахрысціць.
Казалі, што загіне ён
З рук перкунавых слуг,
Але здружыў з княгіняю,
Дык гоман той абтух;
І іншых шмат прыхільнікаў
Знайшоў, што памаглі.
А цалкам жыць у Вільні стаў,
Як на сваёй зямлі,
Калі пры ім сабралася
З дзесятак чарняцоў.
Іх вера пашыралася
Сярод мяшчан, купцоў.

Каля царквы і гоманна,
І людна на двярэ.
«Старая вера зломлена
І хутка адамрэ»,—
Гудзе ігумен з браціяй
І з рання да цямна,
Як толькі сілы хваце ім,
Тлумачаць:
«Там мана
У гаі перкунасавым,
А бог жыве у нас».
І ўсе на грошы ласыя —
Шмат, мусіць, есць бог Спас.

А гай маўчыць, і слухае,
І знаку не дае,
Што знае тых, хто рухае
Ўсе звычаі свае,
Хто Перкуна зракаецца,
Не верыць Калядзе
І за грахі пакаяцца
К ігумену ідзе.
А гай маўчыць, хоць ведае,
Што часта той манах
З чужынцамі бяседуе,
Што ходзяць па начах
К яму купцы царградскія,

Ганцоў маскоўскіх шмат.
— Праверце, што за птаха ён! —
Альгерд раз даў загад.

13

Цвёрдым, хоць стомленым крокам,
    Бокам дарогі
    Старац убогі
Шлях адмяраў адзінока.

Доўгія сцежкі-дарожкі
    Лапці садралі,



Сілу забралі.
Эх, адпачыць хаця б трошкі!

Лес ды балоты бясконца!
Вечар асенні.
Цягнуцца цені —
Нізка скацілася сонца.

Ўрэшце сасоннік спыніўся,
І на паляне
Ў сонечным ззянні
Стала нібыта ў агні ўсё.

Злёгку ўздыхнуў падарожны
І з-пад далоні
Ўдаль на балонне
Кінуў пагляд асцярожны.

Ціха плыло павуцінне.
Чорныя хаты.
Вузкіх ніў латы.
Рэчка ў алешніках гіне.

Топчацца статак пад лесам.
Ўзгорак пакаты
Порыць араты
Волікам нейкім бялесым.

А ля стаўка ці крыніцы
Ў лузе вільготным
Беляць палотны,
Мочаць пяньку маладзіцы.

Певень гарланіць заядла,
І раз за разам
Пад чорным вязам
Дзынкае звонка кавадла.

«Вёска, знаць, мірнае працы.
Хоць на часіну
Дзеля спачыну
Прыйдзецца тут затрымацца».

Хату на ўзмежку балота
Стрэў каля броду,
Дык на калоду
Сеў і прыпёрся да плота.

Ніклі ўжо сонца прамені.
Як прапацела
І ныла цела!
Ногі — як глыбы з камення.

Дзвярэй пачуўся хрыплы скрып,
І ўжо з-за ліп,
Што нахіліліся на тын,
Стары з'явіўся селянін,
Мо гаспадар той хаты,
Худы,
Сівы,
А на сярмяжцы — латы.
— Вітайце,— мовіў.— Мо вады
Крынічнае глынулі б вы,
А не, дык мо кваску з паўкварты?
Стаміўся, бачу, не на жарты,
А тут нязручна на карчы.
У хаце ж стол ёсць, лава,
Вядома, знойдуцца й харчы,
Дык мо зайшлі б у хату?
Як кажуць, чым багаты,
Тым і рады,
То, калі ласка...
— Падзяка вам, а богу слава,—
Ў адказ прамовіў вандраўнік,—
Да гэткай мовы і спагады
Я ў долі наскай
Не прывык.
І лаву, стол, харчы
І квас
Не стрэнеш сёння абы-дзе,
А так, лічы,
Ўжо кожны раз,
Што лепш, чым кліknуць пад свой дах,
Любы з варот сваіх на шлях
Цябе з сабакам правядзе.
А ў вас, я прыкмячаю,
Інакшыя звычаі...
Вядома, з радасцю зайду.
— Хадзіце, я вас правяду.

У хаце бабка іх сустрэла:
— Сядайце. Тут кладзіце рэчы.
Вось я дастану крупнік з печы.
Адрэж, дзед, хлеба.
Ешце смела.

— Ох, дзякуй. Клопатаў не трэба...
Даўно не еў я цёплай стравы.
— Адкуль, куды,
Якія справы
Вядуць вас нашаю дарогай?
— Брыду з бяды.
А што і як — расказваць многа.
Я сам з-пад Полацка, мо чулі?
— Чаму ж не чулі. Давялося.
— Вясною выйшаў. Шлях — не гулі.
Тым часам вось прыйшла і восень.
Я быў у Віцебску, Смаленску,
У Магілёве і у Менску,
Ў Заслаўі, Крэве, Ашмяне...
Цяпер у Вільню трэба мне.
— Знаць, для душы выратавання
Пайшлі вы ў гэта вандраванне?
— Як вам сказаць?
І так, і не.
Скажу спачатку аб вайне.
Гадоў мо тому дваццаць пяць
На нас напалі крыжакі.
А ў нас закон здаўна такі:
Сяброў любі,
А гадаў бі.
Ну вось мы тую немчуру
Як трэба, з віламі, сустрэлі,
Ды ў нешчаслівую пару...
Бо нашы сёлы пагарэлі,
І нас загінула багата...
Тады й мая згарэла хата,
А сам я, стоптаны, разбіты,
Ў няволю трапіў. Пан сярдзіты
Быў у мяне і да вайны,
Ды як у Прусіі паны,
Не дай бог стрэць нідзе,
Ніколі!
Што ж больш сказаць аб той бядзе?
Бяда ўжо ў тым, што ты ў няволі.
А праца, голад, катаванні...
Памерла шмат...
Гадоў прабыўшы больш за дваццаць,
Я ўцёк адтуль. Праз глухамані
Дадому ў роднае сяло
Мне бог
Памог
Усё ж дабрацца...

— Ох, колькі ж гора, мілы божа,
Наш брат працерпіць, знесці можа!
— Чакай ты з войканнем, старая.
Ну што застаў у родным краі?
— Нічога, брат. Чартапалох,
Магілы толькі ды бярозкі...
— Вох, вох, вох!..
— ...замест людзей жывых і вёскі!
— А ўсё ж сям'я у вас была?
— Была, ды крыжакі ў пару вайны,
Як іншых шмат з майго сяла,
Спалілі жонку. Тры сыны
Тады загінулі ў баях,
Вось так сям'я, як снег, растала...
— Падумаць страх!
— Дачка крыху пазней прапала.
Бо ў вайну выжыла дзяўчына...
Яе цяпер я і шукаю.
— А што ж з дачушкай за прычына?
— Прычына, брат, яшчэ й якая!
Ад немцаў вырвацца змагла.
Жыла пры цётцы сіратою.
Відаць, прыгожая была...
Вось і пакутуе затое,
Калі яшчэ жывая дзе.
— Канцоў няма ўжо той бядзе!
— Напэўна, трапіла у гразь?
Зрабілі здзек над сіратой?
А хто ж такі нягоднік той?
— Ён — князь.
— Каторы ж гэта? Іх жа шмат.
— Ах, божа мой! Няўжо...
— Яшчэ і сам не знаю, брат.
Вось лета цэлае ужо
Я па слядах яе іду,
Ды ўсё нідзе яе няма —
Прапала, быццам у ваду...
Але дарма!
Я ўсё ж мярзотніка знайду
І пра дачку пытацца буду!
— Прабачце мне, але без цуду
Вам пра яе не дапытацца.
— Чаму?
Я ўжо даведаўся багата.
— Хаця б таму,
Што калі год мінула дваццаць,
То ўжо сягоння пазнавата.

Ну, каб яшчэ ў тым самым часе,
Яшчэ пад свежую гамонку,
Што па народзе разышлася,
Каб праз бацькоў латругі, жонку,
Мо б, так сказаць, чаго дабіўся,
А так...
Нягоднікі яны ўсе...
У думках іх адно — багацце,
Паходы, войны, п'янства, гулі.
А як жывеш ты ў курнай хаце
І што і як з цябе сцягнулі —
Зусім няма нікому справы,
Ані князём,
Ні іх прыслужнікам, баярам!
У нас, напрыклад, чарназём,
Вунь там, за рэчкай ля дубровы,
Зарос дзярном,
Ляжыць папарам —
Няма каму яго араць:
Валоў на мяса ўсіх пагналі,
А моладзь сталі ў войска браць.
Вось тут і думай, як жыць далей.
Сягоння толькі лес, рака
Яшчэ і кормяць мужыка
І то цішком, тайком ад пана.
— Ты лепей, дзеду, памаўчы.
— А што жыццё сялян пагана,
Я сам убачыў, ідучы.
І ажно дзіва, што народ
Так паслухмяна церпіць гнёт.
— А што ж рабіць, куды падацца?
Не ўпрэшся дужа, браце мілы,
Супроць улады й збройнай сілы.
— А ўсё ж бываюць бунтары.
— А то чаму ж? Былі і ёсць.
— Ты, дзед, лухты не гавары!
— Не бойся, баба, бо наш госць
Задобра ведае пакуты,
Каб так адразу прадаваць
Такіх, як сам, пад меч ці ў путы.
Ты лепей вось што мне парадзь:
Як з ім дабрацца да Няжылы.
— Навошта ж гэта, божа мілы?!
— А вось натое:
без людзей
І без сяброўскай дапамогі
Ён, калі сам не прападзе,

Дык пазбівае дарма ногі
І анічога не даб'ецца.
— Ох, дзеду, дзеду, мне здаецца,
Што гэта ўсё ты надарма...
Другога выхаду няма,
Калі Няжыла не паможа,
То сам не зробіць ён нічога.
— Я згодзен з вамі.
Ўсё быць можа.
Скажыце, дзе к яму дарога?
Хто ён? Баярын? Уладар?
— Не. Ён якраз і ёсць бунтар.
Яго чужому не знайсці.
— Вось як?
— Магла б мо Насця правясці?
— Я ўжо падумаў так і сяк.
Лепш хай табе раскажа Насця,
Ў якім баку яго атрад.
А мне праверыць трэба снасці,
То падвяду, ды і — назад...
— Чакайце. Як жа ваш Няжыла
І чым мне зможа памагчы?
— За ім народ, а гэта — сіла
І ад усіх замкоў ключы.
— Тады вядзі, брат. Аж па скон
Удзячны будзе вам Мірон.
— А мы — Астап і Паланея —
Вось пойдзем зараз, як сцямнее.

Сасновы бор, дрымучы бор.
Сярод паляны ў змрочнай пушчы,
Дзе хвоі цягнуцца да зор,
А з непралазнай дрэваў гушчы
Крынічка светлая цячэ
І сцежка ўецца зыбкім мохам,
З часоў Міндоўга мо яшчэ
У лапухах з чартапалохам
Стаяла хатка смаляра.
Напэўна, ўжо даўно б не стала
Ляснога гэтага двара,
Каб спакваля не падпраўляла
Яго нябачная рука.
Смалы даўно тут не курылі,
Ды мох, дзярно ля хлеўчука
Дзікі не гэтак часта рылі,
Як коней добрых капыты.
І так здарылася часамі,

Што двор той дзікі і пусты
Гучаў людскімі галасамі
І тупатаннем конскіх ног.
Хоць ледзь прыкметныя сцяжыны
Цераз імхоў, балот быльнёг
Вялі са шляху ў штаб Няжылы,
Даволі часта тут народ
Прыпынак ладзіў на паляне,
Прыйшоўшы гуртам і ў разброд
З якога-небудзь палявання
Або сабраўшыся ў паход.
Сюды дабраўся дзед Мірон,
І тутка жыць застаўся ён.

14

А далёкая дарожанька
Праз бары-лясы дрымучыя
Адабрала сілу ножанькам,
Валоў, конікаў замучыла,
Граззю, пылам надакучыла.

Бо далёкая дарожанька
Праз балоты, рэкі быстрыя,
Цераз нівы серабрыстыя,
Праз краі падчас варожыя —
І цяжкая і трывожная.

Вось дубровачка цяністая
Каля шляху сустракаецца,
Вось крынічанька празрыстая
Цераз травы праціскаецца,
Звоніць шклянымі маністамі:

«Вы людцы-купцы багатыя,
У цянёчку затрымайцеся
З коньмі, з сілаю рагатаю,
Адпачніце, пакупайцеся,
Гай няхай вам служыць хатаю.

Тут дубоў шатры зялёныя
І лугоў кілімы ўсквечаны
Вас сустрэнуць шумам, звонамі,
Птушак песнямі спрадвечнымі,
Мёдным пахам і паклонамі».

Дык вандроўнікі спыніліся,
Валоў, конікаў папуталі,

Ля лаўжоў замітусіліся,
Ля крынічанькі затупалі,
Потым страву абступілі ўсе.

Бачаць, дзед вандроўны цягнецца
З кіем, з торбай і цымбаламі.
— Хадзі, дзеду, годзе вагацца,
Выпі, з'еш з купцамі ўдалымі —
Чарку ж любіць і не п'яніца.

Дзед прысеў на пні ля вогнішча,
Выпіў чарку абыякава,
І хоць нылі плечы, ногі йшчэ,
За хлеб-соль хацеў падзякаваць,
Аж тут просяць людзі торжышчаў:

— Заспявай нам, дзеду, песеньку,
Разгані тугу цымбаламі,
Бо ад самага прадвеснейка,
Хоць прайшлі шляхоў не мала мы,
Нам ад суму сэрца цесніцца,

Што мы з сем'ямі разлучаны,
Што дарогі небяспечныя,
Што жывёла ў нас замучана
І што долі той сустрэчнае
Мы прадбачыць не навучаны.

— Што ж, паслухайце, шаноўныя,
Заплачу за хлеб вам песняю.
І ўзвіхрыліся чароўныя,
Паплылі дзесь паднябессямі
Словы, струнным звонам поўныя.

ПЕСНЯ ДЗЕДА

Ты, зялёная дубровачка!
Чаго так рана зашумела,
Жоўтым лістам зажаўцела?
«Як жа мне рана не шумець,
Жоўтым лістам не жаўцець,
Калі цераз мяне купцы едуць,
На корані агні кладуць,
А на мяне дымы ідуць;
Ды цераз мяне купцы едуць,
Дарагі тавары вязуць,

А мяне, дубровачку, губяць:
І сякерамі рубяць,
І ў агонь-полымя кідаюць,
Нада мной літасці не маюць...»

— Аб чым пяеш, брахун стары? —
Ускрыкнуў Прокша ўсхваляваны,—
Табе дубовае кары
Шкада для нас з лясной паляны?



А можа, лісту, што зжаўцеў
Ад дыму, як варылі стравы?
Ці навучыць нас захацеў,
Каб бераглі мы пень трухлявы,
Бо ў ім сядзіць твой бог лясны?
Ці, можа, з іншае прычыны?
Ты ведай, з ранняе вясны
Цягнуўся я вось з той краіны,
Дзе на дзесяткі, сотні міль
Бяскрайні стэп, трава буйная,
Якую там завуць — кавыль,
Дзе чалавек лясоў не знае.
Там можна дрэва шкадаваць,
А тут у нас жа лес бясконцы!
Ты з ім не будзеш ваяваць,
Дык не пагрэешся на сонцы!
Ды што ён — твой стары дубняк?
Не пralівай дарэмна слёзы...

— Замоўкні, Прокша, ты — дзівак
Ці, можа, проста нецвярозы.
Стары спяваў нам не аб тым,
Аб чым гучалі яго словы,—
Сказаў Вайдзіла.— Не пустым
Ён забівае нам галовы.
Лес лесам, брат, а ён пяе
Аб тым, што дзеецца ў краіне.
Што? Праўда, дзед?
— Сябры твае
Мяне на гэтай вось галіне
Ахвотна б зараз пагайдалі,
Бо я сказаў ім праўду ў вочы.
А ты за ўсіх іх бачыш далей.
Дык хоць і рэдка я прарочу,
Паваражу табе, юнача:
Ты будзеш ім усім за пана,
Ты будзеш князем, не іначай.
Але такія гінуць рана,
Вось дзе бяда...

І рушыў дзед,
Цымбалы ўскінуўшы на плечы.
А дзеду гледзячы у след,
Юнак задумаўся аб нечым.

15

У левым змрочным замкавым крыле,
Што называецца здаўна жаночым,
Жыццё цячэ, як быццам у сяле —
Спакойна ўдзень і ледзь прыкметна ўночы.
Юльяна, дочкі, прыжывалак рой
У будні ткуць, прадуць і вышываюць,
А ў свята і вячэрняю парой
Пяюць, варожаць, небыліцы баюць
Або ў замковай моляцца царкве,
Якую, звёўшы звычаі старыя,
Загад дала паставіць і ў Літве
Альгерда жонка першая — Марыя.
Ды хоць зіхцяць тут рызы, абразы,
Хоць і блішчыць навокал пазалота,
Княгіні ў месяц два ці тры разы
Пабыць і ў гарадской царкве ахвота.
Няхай там просценькі іканастас
І сцены не распісаны пад неба,
Ды служыць там ігумен Апанас,
Навук якога ёй паслухаць трэба.

Яна к яму да споведзі ідзе,
Жыве яго парадай і навукай,
І добра ёй маліцца ў грамадзе
Такой рознагалосай і шматрукай.
Прыемна сыпаць бедным медзякі,
Прымаць народа нізкія паклоны
І падпускаць ласкава да рукі
Найбольш ліслівых і неугамонных.

Ды раз юродзівы ці то п'яны
Княгіню з дочкай гэтак напалохаў,
Што ледзь дамоў дабраліся яны;
І замак галасамі баб завохаў...
Альгерд тады забараніў адной
Хадзіць княгіні ў горад без аховы,
І з самых лепшых ратнікаў канвой
Ён для яе назначыў адмысловы.
А сярод тых ахоўнікаў шасці,
Што ў горад замкавых жанчын вадзілі,
Не мог Альгерд, як кажуць, абысці
Сваёю княжай ласкай і Вайдзілу.

Спярша была яму зусім не па душы
Такая служба, хоць і зрэдку.

І раптам, быццам дзе ў лясной глушы
Знайшоў купаллем папараці кветку,
І тая промнямі свайго святла
Пусты і змрочны шлях азалаціла:
Нягадана ў душу яго ўвайшла
Прыгожая няведамая сіла.
Зірнуў у вочы светлыя княжны
І з гэтай самай радаснай хвіліны
Усе яго надзеі, мары, сны
Кружыцца пачалі вакол Марыны.
Цяпер ён дзён тых прычакаць не мог,
Калі маліцца здумае княгіня,
І разам мучыўся, баяўся, сох —
Ці часам дочкі ў замку не пакіне,
Бо па дарозе ці каля царквы
Яму здаралася няўзнак часамі
Шапнуць слаўцо і з руху галавы
Чытаць адказ.
Не ўцямілі і самі,
Калі ўзяло ў палон іх пачуццё,
Што толькі раз сапраўдным і бывае
І пакідае след на ўсё жыццё.

16

Любіў Вайдзіла адзінока
Ляжаць і марыць на траве,
Калі хмурынкі гоніць вока,
А думкі-хмаркі ў галаве,
Спавітай кветкамі,
імхамі,
Пад шэпты дрэў і звон крыніц
Плывуць бясконцымі шляхамі
У край цудоўных небыліц.
Любіў ён лес, лугі і поле,
Вясну, і восень, і зіму,
Бо між людзьмі нідзе ніколі
Так добра не было яму,
Як сярод дзікае прыроды.
Ён адкрываць сваёй душы
Людзям амаль не меў нагоды;
Часамі толькі дзе ў цішы,
Ў паходзе ратным на прывале
Пры боку Прокшы марыць смеў
І задзіўляў тым сябра. Але
Той шмат чаго не разумеў
І толькі пільна моўчкі слухаў,

Як ціхі голас юнака,
Што побач з ім ляжаў без руху,
Журчаў, бы сонная рака:
...«Калі сабачы
Заціхне ў пушчы енк і брэх,



Ці бачыш
Воч дзікіх ззянне аж да рання?..
Ці чуеш сотні дробных рэх,
Што сэрцаў стук нясуць праз бураломы?
Ці прыкмячаў, як пасля стомы
Пачне мяняцца тон трывогі
На гукі шчасця з перамогі?..
Ці чуеш, як гамоніць бор,
Асеннім золатам прыбраны?
А зор
Ці чуеш звон адсюль, з лясной паляны,
З-пад лап яліны,
Бадай, найлепшага з шатроў?..
Скажы, чаму гэта павінны
Мы праліваць людскую кроў?..
Відаць, так створан чалавек...
Я жыць хацеў бы ў гэткі век,
Дажыць да гэтакай хвіліны,
Калі мір будзе безупынны,
Бо я ўсё ж веру ў светлы час,
У час братэрства, час спакойны,
Калі, хоць можа і не ўраз,
Але навек заціхнуць войны...
Я знаю, не было б зусім вайны,
Каб не князі і не паны,
Якім заўжды багацця, ўлады мала...
Не дарма маці іх так праклінала...
Каб не дзяўчына,
Што мне мілей за цэлы свет,
Прычына
У мяне б знайшлася
У кожным часе
Адкрыць душы сваёй сакрэт.
А за бязроддзе, ганьбу і няволю,
За маці смерць, за служкі долю
Такую даць панам адплату,
Што не прыдумаць лепшай кату.
Ды з роду іхняга яна,
І мне каханне рукі вяжа...
...Мана,
Што я шчаслівы ў службе княжай...»

17

Кейстут чамусьці не любіць Ваідзілы.
Чым той юнак яму гэтак нямілы,
Сам ён не ўмее сабе даць адказу.

Нешта ў вачах яго з першага разу
Князь падазронае, злое прыкмеціў.
Нешта такое, што ў вечным сакрэце
Сэрца збалелае пільна хавае.
Скоса Кейстут на хлапца паглядае,
Хоць ад маскоўскае бітвы крывавай
Імя яго акрылілася славай —
Ён жа Літве прыслужыўся найболей,
Вырваўшы князя Ягайлу з няволі;
Ды хоць пра хлопца легенды хадзілі —
Ворага Кейстут адчуў у Вайдзіле.

Часта сачыў ён за ім асабіста,
Потым праз тых абармотаў плячыстых,
Прагных да лёгкай нажывы, падману,
Ў службу Альгерду сумысля пасланых.
Вось што казаў з іх адзін неўзабаве:
«Ходзіць Вайдзіла і ў ласцы і ў славе,
Ў замку жыве пад апекаю пана,
Ездзіць з пасольствамі к немцам, да хана,
Ў час адпачынку і ў часе паходу
Ён толькі князю падносіць піць ваду.
А пра мінулае кажуць даведкі:
Ў Вільню ён трапіў яшчэ малалеткам,
З маткай забраны ў палон за Дзвіною.
Маці жыцця не давала канвою,
Бы яе злая аблытвала сіла,
З князем Альгердам сустрэчы прасіла,
Рвалася бегчы, а звязана ў путы,
Слала праклёны на князя Кейстута,
Плакала горка над доляю сына,
А звалі яе па-славянску Арына.
З хлопца зрабілі спярша хлебапёка,
Потым, пад князева трапіўшы вока,
Хутка ён стаў падымацца угору...»

Кейстут нядужа здабыў ад дазору,
Але, каб ведаць, хто гэткі Вайдзіла,
Тых яму звестак аж надта хапіла,
Толькі адно шчэ яго турбавала:
Ведаў Альгерд пра Вайдзілу замала
Ці, раскапаўшы даўно таямніцу,
Выявіць свету той праўды баіцца?
І ў задуменні ці мо ў неспакоі,
Кейстут да ранку хадзіў па пакоі.

На паляне над крынічкаю,
Пад дубамі, пад ялінамі,
Каля хаткі невялічкае,
Што старымі каляінамі
Ды слядамі падкаванымі
З белым светам была злучана,
Раптам шэрымі туманамі,
Ледзь прыкрытыя анучамі,
Пакалмачаныя, босыя,
З самаробленымі пікамі
І з даўбешкамі ды косамі
Людзі выраслі шматлікія.

Дальні шлях, відаць, прамералі,
Дык спачыць цяпер збіраліся.
Хто заняты быў вячэраю
І агні паліў у залессі,
Хто быў грыбу рад ці ягадзе,
Хто ў стаўку высочваў рыбіну,
Хто начлег наладжваў загадзя
Ці, прысеўшы пад сялібаю,
Абмяркоўваў слова важкае
Пра жыццё народа цяжкае.
І не памятаў той двор яшчэ
Вось такога сходу-зборышча.

А ў хаціне той закуранай
Рада-дума сабіралася —
Там па лавах, крытых скурамі,
Парасселіся без мала ўсе
Змагары — сябры Няжылавы;
Звесткі вельмі невясёлыя
І, к няшчасцю, неілжывыя
Праімчаліся над сёламі...

Мужчына рослы, барадаты
З хаціны выйшаў на парог,
І голас нізкі і сіпаты
Падаў круты турыны рог.
На гэты кліч з лясной паляны,
З густэчы лесу, ад кастроў
Без праналокі, паслухмяна
Народ падняўся і пайшоў
Збірацца цесна ў панадворку
У натаўп дзікі, гаманкі.

Памалу сцішыўшы гаворку,
Зусім замоўклі мужыкі
І на таго зрок скіравалі,
Хто склікаў іх на гэты збор.
Ён стаў на пень, каб бачыць далей
І каб быць бачным на ўвесь двор.



— Сябры! паслухайце навіны,—
Прамовіў ён,— і радзьце ўсе,
Што далей мы рабіць павінны.
Разведка наша нам нясе,
Што ў Вільні здушан бунт народу —
Ягайла княжыць стаў у нас,
І Кейстут даў на гэта згоду.
Альгерд памёр і тут жа ўраз
Другі такі узяў уладу,
А збунтаваны ў Вільні люд,
Праз неумельства ці праз здраду,
Не змог сваіх пазбыцца пут.
Паўстанне здушана, зламана,
Дык нам няма куды спяшацца —
Яны паўсталі мо зарана
Ці мы не ўмелі сабірацца,
Сягоння ўжо нам памагчы
Братам-мяшчанам не удасца —
Раскрыты план іх хітры, смелы...

— Вось так і водзяць праз век цэлы
За нос гаротны наш народ! —
Азваўся нехта. Загудзела,
Як рой пчаліны, грамада:
— Калі сабраў, вядзі ў паход!
— Гульня ў вайну ужо вам дадзела?
— І так — бяда, і так — бяда!
— Нашто было народ трывожыць?
— Што нам з той гутаркі пустой?
— Няхай жа трасца іх абложыць!
— Каго? За што?
Чакай, пастой!
Я не дачуў, аб чым ён брэша!
— Не пойдзем, кажа, князя гнаць!
— Вось так заўжды — спярша пацешаць,
Пасля ў кусты, язві іх маць!
— Няма чаго ўжо адступацца,
Спярша склікаў, цяпер — назад!
— Даволі вечна ўсіх баяцца!
— Бач, стаў выкручвацца ўжо, гад!
— Не хоча весці, пойдзем самі!
— Што кажа ён — усё мана!
— Ці не прадаўся ён, часамі?..

За галасамі:
«Мір!», «Вайна!»
Зусім пайшла неразбярыха —

Хто суцішаў, хто слаў праклён...
Ды паступова стала ціха:
На пень падняўся дзед Мірон:
— Вы што? Не верыце Няжыле?
Ахвота вам паваяваць?
Тады ідзіце. За дзве мілі
Адсюль дружыннікі стаяць,
На ўсіх шляхах вакол сталіцы —
Дазоры, варты, патрулі.
Ну што ж, валяй, хто не баіцца!
А вас зусім не падвялі,
Бо сёння князя перамога.
Дык вам, замест вось так гудзець,
Маліць з падзякай трэба бога,
Што мы ўпару, хоць і ледзь-ледзь,
Змаглі прынесці вестку гэту.
Другога выхаду няма:
Спачынем тут цішком да свету
І — хто куды.
Ды ад ярма
Няжыла хутка зноў пакліча.
А ўжо тады не абміне
Нас ні багатая здабыча,
Ні перамога на вайне!
На нейкі час трэ прытаіцца,
Чакаць больш зручнае пары.
Не, не ўцячэ ад нас сталіца,
Ані яе гаспадары!

І так Міронава прамова
Унесла ў натаўп супакой.
Яшчэ той-сёй прыкінуў слова,
Але гамонкі ўжо такой,
Як напачатку, не было тут.
Пайшлі памалу мужыкі.
Над рэчкай чаўкала балота,
У лесе хрумсталі сукі
Яшчэ праз ночы час каторы...

Назаўтра хатку у бары
Спалілі княжыя дазоры,
Але яе гаспадары
Умелі пільнае мець вока
І ў гэты час былі далёка.

— Ну што так, братка, нос павесіў? —
Спытаў Няжылу дзед Мірон,
За ім ступаючы па лесе.
— Не вешаў я,— адкажа ён,—
Шкада мне, дзеду, што няўдала,
Бязглузда скончыўся паход.
Папрацавалі мы нямала,
Каб зварухнуць, падняць народ,
І зноў дадому адпусцілі
На той жа самы горкі лёс.
О, каб я мог, каб быў у сіле,
Дык кожны б хоць дабычу нёс;
А так ці схочуць зноў сабрацца,
Калі патрэба будзе ў тым?
— Няма што ў гэтым сумнявацца.
А што прыйшлося ім пустым
Паразыходзіцца ў сялібы,
Дык тут, браток, ты сам віной.
Не мог ты ім дазволіць хіба
Разнесці хоць бы той канвой
І караван купцоў багаты,
Што едзе ў Вільню з чужыны?
— О, не. Пра гэта, дзед, дарма ты.
Перамаглі б канвой яны,
Дабро б па сёлах расцягнулі,
І зразу, гэта ты ўлічы,
Пайшлі б па хатах п'янкі, гулі...
А служкі князя — крумкачы —
Віноўных зразу б пахваталі,
І многім з іх была б пятля.
Ды шчэ не ўсё, паслухай далей:
Не толькі стрымвае «пасля».
Я з гэткай сілай мог рашыцца
Не караван, а замак браць,
Але вядзе яго ў сталіцу
Ваўдзіла. Год мо тому пяць
Мяне ён вызваліў ад плахі.
Я ўспамінаў яго не раз
І думаў, што палону жахі
Павінны будуць зблізіць нас,
Бо службу ў князя і няволю
Ён, знаю, церпіць да пары.
Яго я крыўдзіць не дазволю.
Ты зразумеў мяне, стары?

— Што гэта там сярод вады
За мур такі высокі?
— Хавай нас, божа, ад бяды!
Вядома — гэта ж Трокі!
— Ого, брат!
Замак на вадзе!
Нішто сабе сяліба!
— Ну што ты, браце! Абы-дзе
Такую стрэнеш хіба?
— Якія брамы, вежы, мур!
Якая цэгла, камень!
— Не возьмеш гэтых сцен і «тур»,
Брат, голымі рукамі!
Задаў калісьці Гедымін
Нам бед нямала і пакут,
А вось яго малодшы сын,
Літвы ўладарнай князь Кейстут,
Што ў тых мурах сядзіць цяпер,
За бацьку шмат люцейшы звер.
— А ці аднолькава ён строг,
Як на вайне і ў быце?
— О, кажуць,
злосны — не дай бог:
Сачы ўсцяж, каб не выцяў
Або да смерці не прышыб.
Не ведай жмудскай мовы,
Дык для яго — што ты, што грыб,
Што пень — трухляк яловы.
— Мо нас зусім не прыме князь,
Калі такі ён грозны?..
— Што ж, можа быць...
Глядзі не ўзлазь
Пры ім на тон свой слёзны,
Яму ў гаворцы патакай,
Бо як што скажа — баста.
Сваё ён слова, гэта знай,
Адменьвае не часта.
Ну і вайной яго не страш
Ці божай карай, крыжам,
Бо ён люцейшы вораг наш,
Не князь, а д'ябал рыжы,—
У Трокі едучы між хвой,
Шапталі два манахі.—
Кат нават ёсць у князя свой,
Яго не праймуць страхі.

А праз гадзіны паўтары,
Яны, як босыя на прыску,
Ўжо князю кланяліся нізка.

М а н а х  д а ў г а в я з ы
Ну, браце Альбрэхт, гавары...



Манах тоўсты

Вялікі княжа, пане наш,
Літоўскі уладару!
Мы богу молімся, узваж,
Прыносячы ахвяры,
Каб ён твае прадоўжыў дні
Дзеля дабра народу,
Каб пераможныя агні
Цябе, вялікі уладар,
Вялі ў паход з паходу,
І каб мяча твайго удар
Сусветнай славаю грымеў,
І каб злы вораг не пасмеў
Ламаць Літвы граніцаў,
І каб за гонар кожны меў
Вам, княжа, пакланіцца.

Кейстут

За шмат прыгожых гэтых слоў
Вам ад мяне — падзяка.



Ды знаць хацеў бы перш, аднак, я,
Чыіх я бачу ў вас паслоў.

Манах даўгавязы
Ну, перш за ўсё мы — слугі бога,
Прытым сапраўднага, жывога.

Кейстут
Я бачу, хто вы, па адзежы.
Ну, а ў наступную чаргу?

Манах тоўсты
Да вас з Мальборка з весткай свежай
Прыслаў мой пан свайго слугу.

Манах даўгавязы
Пісьмо ад графа Аўгусціна
Вам перадаць — у нас загад.

Манах тоўсты
Давай хутчэй пергамент, брат.

Манах даўгавязы
Што ты? Ў імя айца і сына!
Пісьмо ж даў граф табе, не мне.

Манах тоўсты
Памацай добра ў жупане!

Манах даўгавязы
Няма пісьма ў мяне! Дальбог!

Манах тоўсты
Вось дзе разява! Каб ты здох!
Ты добра подбіўку абмацай!

Манах даўгавязы
Чакай.
Не трэба хваляваццa,
Мо, бог дасць, знойдзецца прапажа...
А вось пісьмо, шаноўны княжа!..

Манах тоўсты
Ну й напалохаў, чортаў сын!..

Манах даўгавязы
Нічога. Ўжо аддаў. Амінь!

К е й с т у т
Ці больш што ёсць апроч пісьма?

М а н а х т о ў с т ы
Нічога, так сказаць, няма,
Малая толькі просьба, пане...

К е й с т у т
А што за просьба?

М а н а х т о ў с т ы
Хрысціяне
Вас, пане слаўны, слёзна моляць
У вашым горадзе дазволіць
Святыню богу збудаваць.

К е й с т у т
А шмат вас ёсць?

М а н а х т о ў с т ы
Так... сот мо пяць.

К е й с т у т
Дзе ж жывяце?

М а н а х т о ў с т ы
У Рыме, Кракаве, ў Парыжы
Жывуць браты дамінікане...
Ды ёсць яны цяпер і бліжай,—
Вось я, напрыклад, з Вільні, пане...

К е й с т у т
Чаму ж такое ў вас жаданне
У Троках мець сваю бажніцу?

М а н а х т о ў с т ы
Маглі б мы тутка пасяліцца,
Хутчэй Літва прыйшла б да веры...

К е й с т у т
Ах, вось якія ў вас намеры!
Але ці рыме вас народ?

А б о д в а м а н а х і
Магчыма, што...

К е й с т у т
Наадварот?
Тады скажу вам проста, людзі:

Майго дазволу вам не будзе.
Ў Літве сваіх багоў даволі,
На ліха нам заводзіць болей?

Манах даўгавязы
А наш жа бог праўдзівы, княжа...

Кейстут
А хто мне гэта з вас дакажа?
Ды, ўрэшце, тут не ў гэтым справы.

Манах тоўсты
Яшчэ б вы больш прыдбалі славы...

Кейстут
Мне хопіць славы, што ў мячы!

Манах даўгавязы
Ты лепш, брат Дзітрых, памаўчы...

Кейстут
Яшчэ ў вас ёсць ка мне пытанні?

Абодва манахі
Не, больш няма.

Кейстут
Дык прывітанні
Панам Мальборка перадайце.

Абодва манахі
Бывайце, пане наш, бывайце!

21

Нібы той воўк у цеснай клетцы,
Лютуе Кейстут у пакоі.
Яго старое сэрца б'ецца
У што раз большым неспакоі.
— Латругі! — князь крычыць.
— Зладзеі!
Я вам такога не дарую!
Хто дружбу моцную старую,
Жыццё супольнае, надзеі
І веру ў моц Літвы і Жмудзі
Тапіць пачаў у здрады брудзе?
Супроць каго вы там паўсталі,

Юнцы бязвусыя, хапугі?
Вам не мячы насіць са сталі,
А торбы зрэбныя і пугі!
Я знішчу вас, згнаю у вежы!
Ў мяне на гэта хопіць сілы!..





Зірні на здрады доказ свежы
Ягайлы — лотра і Вайдзілы! —
Гукнуў ён Вітаўту праз дзверы.—
Пісьмо ад кума Аўгусціна!
Ён піша мне, што тыя зверы
Нас прадалі. Дык слухай, сыну,
Пакуль не позна, трэ сабрацца
І ў найглыбейшай таямніцы
Вайдзілу, Монвіда і Паца
З Ягайлам вывезці з сталіцы
І свой навесці ў ёй парадак.
А шум узнімецца ў народзе
Ці здрадзіць нам які выпадак,
Тады хітрыць, хавацца годзе —
Захопім сілаю ўладу.
Ягайле ўжо не месца болей,
За сваявольствы і за здраду,
Сядзець на віленскім прастоле!
Сябе я зараз вельмі лаю,
Што змаладушнічаў, даў згоду
Аддаць сталіцу шалапаю.
Цяпер вось маю ўзнагароду!

— А мне здаецца, што дарма вы
Пісьму крыжакаў далі веры,—
Прамовіў Вітаўт.— Дробнай справы,
Хлуслівых слоў, пустой паперы
Хапае ім, каб зачапіцца
І нацкаваць на брата брата.
О, крыжакам заўжды не спіцца,
Калі пажарам не абнята
Краіна наша! — Аўгусціна
Не знаеш ты. Ён служыць мне там.
А хвалявацца ёсць прычына:
Ужо даўно, мінулым летам
Ягайла знюхаўся з тэўтонам,
Адразу ведаў я аб гэтым.
А вось цяпер іншым тонам
Я з ім размову весці буду!
Ягайла род наш апаганіў,
Сястру аддаўшы за прыблуду.
Не абміне яго спагнанне
У найстражэйшай самай меры
І за якшанні з крыжакамі,
І за злачынныя намеры
Супроць зацверджанай вякамі
Улады нашае і веры!

Не. Не міне яго расплата!..
— А ўсё ж у доказы твае
Не веру я, прабач мне, тата.
Ягайлу розуму стае,
Каб не заблытацца у сеці,
Што немцы век нам ставіць рады.
Паверу я ва ўсё па свеце,
Апроч Ягайлавае здрады!
— Тады у заўтрашнім паходзе
Убачыш сам, чаго ён варты,
Ягайла твой. А мне ўжо годзе
Цярпець яго дурныя жарты!

22

Над Вільняй згусціліся хмары,
Паплыў над ракою туман...
Ягайлавы планы і мары
Паблытаў няўдачлівы хан.

Братам, ад Літвы адарваным
Масквой і Дзімітрам нязваным,
Навучку хацелася даць.
Хто ж ведаў, хто мог прадказаць,
Што князь гэты знішчыць Мамая?
Цяпер з узнясеннем Масквы,
Пакуль у народзе жывы
Той подзвіг і слава жывая,
Братам — а ў Ягайлы іх многа —
З наскоку не зробіш нічога.

А тут вось яшчэ Палачане
Не хочуць Скіргайлы црыняць,
Бунтуюць, узнялі паўстанне,
Раззброіўшы князеву раць.
Дык зараз стаіць над Дзвіною
Скіргайла Літоўскі з вайною.
І ўжо ад каторай пары
За мурам сядзяць бунтары.
І страт, пэўне, будзе не мала
Не толькі для княжай казны,
Бо смерць ужо многіх забрала,
А ўсё завяршэння вайны
Няма, і няма перамогі,
А брат просіць зноўку падмогі.
Дык чым жа парадаваць брата?
Зняць лепшае войска з граніц?

І ў замку людзей малавата.
Шукаць трэба іншых крыніц.

Звяртаўся да дзядзькі Кейстута,
Ды зараз з ім толькі пакута:
Віляе, хітрыць старына.
Дзе праўда ў яго, дзе мана,
Няможна было разабрацца,
Як кажуць, і ў час малады,
А зараз старога «хады»
Разблытваць — дарэмная праца.

І раптам ход думак нямілы
Спыніўся з прыходам Вайдзілы.
Ягайла насустрач падняўся
І рукі к яму распасцёр:
— А тут у мяне, брат, бяда ўсё
То з боку братоў, то сясцёр.
Марыну трывожаць прывіды,
Ганцоў сваіх шле яна з Ліды —
Штодня прыбываюць ка мне —
Пытае ўсё: колькі ж міне
Тых тдняў ці дзён, пакуль мілы
Прыскача з чужыны назад?
Прызнаюся шчыра: я рад,
Што жонка такая ў Вайдзілы! —
І тут абняліся яны
І селі за стол ля сцяны.

— Ну як, ці магістр дапаможа
Нам Полацк бунтарны скарыць?
Кажы, як прайшло падарожжа.
— Ёсць многа аб чым гаварыць,
Пачуў я і ўбачыў багата
І ўцяміў, што нашага брата
Ім трэба ўканец абадраць.
Згадзіліся нам памагаць,
Ды толькі вось вырабу скура
Ці варта, згадаць не магу,—
У немцаў мы вечна ў даўгу,
Бо ўжо ў іх такая натура:
Хто большыя выкладзе грошы,
Той сябар жаданы, харошы.
Сказалі, каб хутка прыслаць ім
З працэнтам старыя даўгі,
Калі ж у пару не заплацім,
Дык будзе ў іх сябар другі,

З якім і заключаць умовы.
— Пагрозы такія не новы,
Пашлю ім, праклятым, казны,
Няхай не баяцца яны!
Каб толькі Скіргайлу ўдалося
У Полацк забрацца хутчэй,
Зваліўся б мне камень з плячэй,
Бо вось наступіла ўжо восень,
Раскіслі шляхі і дарогі,
А з імі ўзрастаюць трывогі...

Дык дзякуй табе за старанне,
Каб больш мне вось гэткіх паслоў!
Спачні ад дарогі, а зрання
Скачы сабе ў Ліду дамоў,
Цябе там чакае Марына.
Люблю я, прызнацца, яе.
Яна, брат, у нас малайчына,
У крыўду сябе не дае...
— Мне чуць пахвалу тваю міла,
І знаю — не першы ўжо раз
Ты быў, нібы бацька, для нас,—
Прамовіў з паклонам Вайдзіла.

Тут служка прасунуўся ў дзверы:
— Прашу, калі ласка, к вячэры.

23

Сырой асенняй золкай ноччу,
Ледзь месяц выглянуў з-за хмар,
Князь Кейстут,
трокскі уладар,
На варанога спрытна ўскочыў,
Махнуў мячом, і ўслед за ім,
Нібы туман ці шэры дым,
Ад замка доўгай паласою
Падаўся коннікаў атрад.
Загрукатаў, як гром ці град,
Мост ад капыт па-над касою...

Сягоння першы раз, быць можа,
За шмат ваенных бурных год
Ніхто з баяр і ваявод
Не ведаў мэты падарожжа.
І толькі князеў твар пануры
І словы цвёрдыя, як з сталі,

Снаваць дагадкі дазвалялі,
Што не мінуць вялікай буры.

Тым часам Вільня ўжо заснула.
Агні пагаслі перш у месце,
Пасля на замку, і нарэшце
Ўсё ў чорнай цемры патанула.
І толькі варта на прадмосці
Ля брам, за насыпамі недзе
Сачыла пільна, быццам штосьці
Магла ў той цемрадзі угледзець.

Ля брамы Кейстут стаў світаннем,
Да галавы ад конскіх ног
Балотам схляпаны дазвання.
На рыглі стражнік прыналёг
І так, як кожны раз бывала,
Гасцінна грымнула завала.
А праз якуюсьці хвіліну
Мячы забразгалі ля тыну,
Пачуўся выкрык, стук глухі,
Узбліснуў факел з-пад страхі
Ў руках якогась небаракі,
Паднялі страшны брэх сабакі,
Пайшла вакол неразбярыха...

Ягайла выбег: што за ліха
У замку дзеецца сягоння?
Убачыў войска, зброю, коней;
Ды вось яго ўжо акружылі,
Аднялі меч,
Вядуць пад стражай.
Куды? Чаго? Зняць голаў з плеч?
А вось жа Кейстут. Што ён скажа?
Ды ён заняты. У страмёнах
Стаіць, выкрыквае загады
Сваім баярам паімённа.
— Гэтай здрады,—
Крычыць Ягайла,— не дарую!
Змагацца хоча, ды ў сырую
Яго зацягваюць камору.

А ў тую пору
Ганцы прыспелі з-над Вяллі
І з іншых розных месц сталіцы
З дакладам, што ўжо занялі
Трачане ўсе шляхі-дарогі,

І горад вымушан скарыцца.
Такой імгненнай перамогі
Кейстут і сам не спадзяваўся.
І зварухнулася Літва ўся —
Лятуць ва ўсе яе канцы
На шпаркіх конях пасланцы,
Разносяць строгія загады.
Пайшлі дружыннікаў атрады
Мяняць засады, патрулі,
На растрывожанай зямлі
Той лад наводзячы ўжо новы...

А бедны люд ламаць галовы
Пачаў над тым, ці новы князь
Свабоды, хлеба болей дасць.

Ганец, пасланы у Драгічын,
Павёз пісьмо: «Мой любы сын,
Сталіцу я заняў сягоння,
А князь Ягайла — у палоне,
Няхай адказвае за здраду.
Скачы у Вільню без адкладу —
Знайшоў я доказаў нямала,
Што нам з табою пагражала
Выгнанне з Трок і смерць, быць можа.
Дык не глядзі на бездарожжа,
А прыбывай на дапамогу».

Ганец аж высах за дарогу,
Бо князя Вітаўта насціг
Ледзь не праз тыдзень у Гародні.
І Вітаўт з ходу ў той жа міг
На шлях пусціўся міжгародні
І так імчаўся неадхільна,
Што прыскакаў за дзень да Вільна.
Ягайлу вынесен прысуд:
З-пад стражы вызваліць.
Пакут
Не прычыняць старой княгіні.
Дабро таксама не загіне,
Калі Ягайла сваю згоду
Уладу Кейстута прызнаць
Аб'явіць граматай народу...

І вось Літвы Вялікай знаць
І ўвесь народ, як і сталіца
Былі павінны з тым змірыцца,

Што трокскі князь так нечакана
Усёй Літвы зрабіўся панам.

24

Ой, льецца рэчка быстрая,
Бялее пена хваль.
А хто ж там войска выстраіў?
Куды? Ў якую даль?
Ягайла войска выстраіў
На беразе Дзвіны,
Каб кожны ратнік выстраліў
І каб усе яны
Адвагу, спрыт і вывучку
Тут паказаць маглі,
Бо пойдуць жа на выручку
Захопленай зямлі,
А там баі нялёгкія
Чакаюць юнакоў.





Зямля дрыжыць і вохкае
Пад сотнямі падкоў,
Ды ўюцца стрэлы хмарамі
І доспехі грымяць.
Узлескамі, папарамі
Пайшлі — не затрымаць!

А князь, з узгорка гледзячы,
Ў стрымёнах прыўстае:
«Хай гэтак полк праедзе чый,
Як вось арлы мае!
Хай дурнем я прыкінуўся,
Сысці згадзіўся ў цень,



Але аб Вільні — Вільнюсе
Я мару кожны дзень.
І Вільня дачакаецца
Яшчэ такой пары,
Калі за ўсё пакаецца
Той целепень стары,
Што хітрасцю і здрадаю
Уладу загарнуў.
Яшчэ яму дам рады я
І спадчыну вярну!»

Так князь Ягайла думае
І косіцца на рацьь.
Перад баярскай думаю
Ён выступаў: — Ну, радзь
Мне, дума шматгаловая,
Як Кейстута прагнаць.

Сказалі людзі ратныя,
Баяры і сябры:
— Пара цяпер няздатная,
Ты войска больш збяры,
Узброй яго і вывучы
На крыжаносцаў лад,
І ўбачыш: з Вільні выючы
Рване Кейстут назад
У Трокі, ледзь прыбліжыцца
Твой полк да Ашмяны.
Да ордэна ён ліжыцца,
Баіцца з ім вайны.
Не спіць маскаль у залесях,
Лях меціцца даўно,
А ў скрынях паказалася
Ў Кейстута, кажуць, дно.
Ёсць чуткі, што ад цяжкасцяў
Пачаў стары стагнаць.
Настане хутка час ісці
Дабро сваё спагнаць.

Такой парадай-словамі
Сцішае крыўду, злосць
Нарада шматгаловая...

А гэта што за госць
Ягайлу ажно ў Віцебску
Знайшоў на пустырах?
Імчыць к яму навыцяжку,

А следам — два дружыннікі
Пільнуюць: што за птах?
Глядзіць князь з вышыні
І не чакае вынікаў
Ваеннае гульні,
А ўжо паслом цікавіцца,
Кейстутавым слугой:
Цікава, з чым ён з'явіцца
За момант да яго?

Прыбег ганец, ледзь спешыўся,
Аддаў нізкі паклон:
— Дай бог, каб ты, князь, цешыўся
Здароўем многа дзён.
Ад Кейстута вялікага
Тут вельмі важны ліст.

Як з-пад зямлі, нязклікаў
Ля князя стаў юрыст.
Князь злез з каня. Дружыннікі
Схапілі павады,
Пайшлі.
— Чытай мне жывенька,
Што гне ён і куды?

Перш словы пышна-хітрыя,
Пасля ішоў загад:
«Вайна супроць Дзімітрыя!
Сяверскі Наваград,
Забраны здрадай-хітрасцю,
Павінны мы вярнуць
І дух з Дзімітра вытрасці.
Таму, князь, не марудзь,
Вядзі на збор у Рэчыцу
Усе свае палкі,
А там пасля намеціцца,
Каму маршрут які...»

— Глядзі ты, ўжо і поркае!
Вось ненажэрны воўк! —
Сказаў скорагаворкаю
Ягайла і замоўк,
І глыбака задумаўся:
«Пачнеш спаўняць загад —
Парушацца задумы ўсе
Не слухаць — слабават».
. . . . . . . . . . .

Ніколі непрыемнасці
Не ходзяць па адной.
Адна прыйшла,
знай — сем прыйсці
Спяшаюцца за ёй.



Другі ганец навыцяжку
Ляцеў, як толькі мог.
Знайшоў Ягайлу ў Віцебску
І, валячыся з ног,
Стаў перад ім увечары:





«Вам з Ліды, князь, паклон»,—
І выняў пакамечаны
Пергаменту рулон.

Пісьмо Марыны

«Бяда! Няшчасце, браце мілы!
Няма ўжо любага Вайдзілы!
Замучыў кат яго праклятьы,
Наш дзядзька Кейстут.
Замкі, хаты,
Людзей, багоў на помсту клічу!
Я ўся ў слязах.
Альгердавічы!
Няўжо даруеце?
Канец!
Больш не магу! Няхай ганец
Даскажа рэшту...»
. . . . . . . . . . . . .

Ягайла ўскочыў:
— Быць не можа!
Я век у гэта не паверу!
Не можа быць!!!
...О, божа, божа!
Ды як ён здаўся тому зверу?
А дзе ж былі ўсе вы? Ахова?
Дружына, варта, гарнізон?!

Ганец не вымавіў ні слова.
— Кажы! Кажы, як згінуў ён?!
— Ну што ж казаць? Скажу, што бачыў.
Ішоў з палкамі князь Кейстут
На Русь кудысьці, неіначай.
Ішоў праз Ліду. Ну а тут,
Замест каб моцна зачыніцца,
Нікога ў замак не пускаць,
Прабачце, ваша, князь, сястрыца
У госці выйшла запрашаць,
Бо хворы, кажуць, быў Вайдзіла.
Ну што ж. Дык войска ў той жа час
Наш замак мігам абсадзіла,
Сцясніўшы, выціснула нас
І ўжо рабіла што хацела
Сярод муроў і за мурамі...
Надвечар я заўважыў цела,
Што калыхалася на браме...

Казалі, ён абараняўся —
Забіў кагосьці, шмат знявечыў.
І зараз шэпчацца дварня ўся
Аб сіле той нечалавечай.
Ну вось і ўсё...
Назаўтра рана
Пакінуў Кейстут Лідскі замак.
Мне далі ліст, і я старанна
Яго вёз доўга ў ваш напрамак.
Конь паў, і я знямогся дужа...

Ягайла крыкнуў: — За аружжа!
Сядлайце коней! Мне вядома,
Куды ісці, супроць каго!
Кейстут мяне пазбавіў дома,
Дык трэба мне вярнуць яго!..

25

Полем, борам, роўным шляхам
Крочыць з кіем дзед Мірон.
Не сядзіць стары пад дахам,
А ў хадзе заўсёды ён.
У Мірона шмат знаёмых —
Дзе ні з'явіцца, там — госць.
І начлег, і хлеб, вядома,
Ў кожнай хаце дзеду ёсць.
Ён парадзіць, ён палечыць,
Пераправіць, што не так,
Бо ў нягодах чалавечых
Разбірацца ён мастак.

Толькі вось яшчэ дагэтуль
Дочкі ён знайсці не змог.
«Мо зжылі яе са свету,
Недзе кінуўшы ў астрог?» —
Думаў дзед. Аж нечакана
Служка Перкуна стары
У бяседзе каля збана
Расказаў, як у бары
Пахавалі маладзіцу
Год мо тому дваццаць пяць,
Вязняў гонячы ў сталіцу.

— Нам прыйшлося адрываць
Сілай хлопчыка малога
Ад яе застыўшых рук...

Ну, а потым хлопца тога
Князь забраў. Дык ён, байструк,
Даўся потым нам у знакі,
Насаліў нам, што й казаць?
Перш ён выйшаў у ваякі,
А цяпер ён — князеў зяць.
Шмат гадоў да служак з гаю
Ён нянавісцю гарыць.
Ён цяпер у Лідзе, знаю,
Стаў у замку панам жыць.
Ды ўсё ж знойдзецца ў нас рада
На яго, хоць ён не тут.
Задушыць Вайдзілу-гада
Абяцаў нам князь Кейстут.

Не сказаў Мірон ні слова,
А падняўся нечакана,
Выйшаў вон. У сэрцы рана
Разбярэджана нанова.
Бачыў ён не раз Вайдзілу
І здзіўляўся кожны раз,
Чым яму той хлопец мілы?
І даваў сабе наказ
Разгадаць, адкуль ён родам,
Дзе і з кім пачаў свой шлях,
Ды міналі дні ў нягодах
У балотах і лясах...

Праўда, знаў ужо не мала,
Толькі яснасці не меў,
Дзе і як дачкі не стала,
Дык цяпер шалёны гнеў
На праклятых служак божых
І на ўвесь князёўскі род
Моцна дзеда растрывожыў.

Ён спыніўся ля варот
І, падумаўшы хвіліну,
Ўбок падаўся ўздоўж Вяллі
Хмызнякамі, што ля тыну
Аж у цёмны лес вялі.
Сёння меў ён у запасе
Важных некалькі навін:
Першай вестка разышлася,
Што Вітоўт, Кейстута сын,
У намеснікі назначан,
А Кейстут, па ўсім відаць,

Зноў супроць Масквы, няйначай,
Стаў свае палкі збіраць.
Ды Ганнуля — гараднічы —
Чымсьці князю не ўгадзіў.
Князь лютуе. Павялічыў
Ён падаткі, ўсім наздзіў.

Ды Мірону пра Арыну
Вестка ўсіх важней была.
Ў цяжкіх думак блытаніне,
Нібы вострая страла,
Крыўда страшная жыла:
«Што рабіць? Дачка забіта,
Ўнук — бязродны янычар,
А Кейстут... Мы будзем квіты!
Зробім, княжа, дар за дар!»

26

У Няжылавым атрадзе —
Рух, як быццам у вуллі.
На лясной начной нарадзе
Пасядалі на зямлі
Вокал вогнішча сяляне —
Разбітны бяздольны люд.
Дзед Мірон адкрыў сабранне:
— Хопіць здзекаў і пакут!
Хопіць зносіць цярпліва
Ўладу князя і баяр!
Людзі мруць, не родзіць ніва,
А хто вінен? Уладар!
Непасільныя работы,
Мы ў рыззі ў мароз і жар.
Войны. Ўдовы ды сіроты.
А хто вінен? Уладар!
Развялося служак божых —
Не набрацца ўсім ахвяр.
Гіне марна мяса, збожжа...
А хто вінен? Уладар!
Турмы, розгі, падзямеллі —
Вось за кроў і пот нам дар!
Мы здурнелі, анямелі!
А хто вінен? Уладар!
Лес не наш, не наша поле.
Гора — наша ды цяжар,
Ды бяспраўе і няволя.
А хто вінен? Уладар!

Дык даволі наракапняў,
Слёз, праклёнаў і пакут!
Толькі знайце, без змагання
Ні паны, ні князь Кейстут
Не палепшаць нашай долі.
Долю трэба сілай браць,
Пацярпелі мы даволі,
Час віноўных пакараць!
Сабірайся на варожы,
На князёўскі, панскі зброд,
Кожны, хто змагацца можа!
І... няхай жыве народ!

Тут падняўся небывалы
Рух ля вогнішча і крык:
— Ім, панам, заўжды замала
Гне спіну на іх мужык!
— Ім харомы ды палацы,
А для нас зямлянка, хлеў!
— Пузацеюць з нашай працы,
А народ ушчэнт зглалеў!
— Годзе, хопіць дармаўшчыны!
Пойдзем плату спаганяць!
За рагаціны! Дубіны!
Смерць панам, у гроб іх маць!
— Смерць Кейстуту! Смерць багатым!
Больш цярпець неўмагату.
Вілы ў бок праклятым катам!
За народ,
за беднату!
— Што маўчыш? Вядзі, Няжыла,
Калі склікаў грамаду!
— Падурнелі! Там жа сіла!
Вы ж наклічаце бяду!
— Што шумець! Той раз шумелі
І пайшлі цішком дамоў.
— Ён вядзе, пакуль у хмелі,
А праспаўся — трусіць зноў!
— Хто сказаў, што трус Няжыла?
— Я сказаў. А што табе?
— Хіба ўжо жыццё не міла!
Зараз зловіш па гарбе!
— Толькі ж дай! Як гахну здачы,
Дык аж ногі задзярэш!..
— Ну, хто там такі гарачы?
Ды спыніце ж вы галдзеж!
Хай Няжыла скажа слова!

— Слухай толькі...— Памаўчы!
Ён жа склікаў на размову
Вас, паганцаў, уначы!
— Ціха! ціха!.. І паволі
Супакоіўся народ.
Затрашчалі іскры ў голлі...

— Што ж, сябры, настаў чарод
Біць паноў,— сказаў Няжыла,—
Біць за мукі, гора, здзек!
Бедната панам служыла,
Гнула спіны цэлы век,
Ды ўжо болей гнуць не будзе,
Хопіць здзекаў і пакут!
Калі ўсе захочуць людзі,
Жыць пачнём без панства тут.
Штурмам трэба ўзяць сталіцу.
Кейстут вырушыў на ўсход,
Дык нам трэ паклапаціцца,
Каб гаротны наш народ
Не праспаў хвіліны важнай,
І каб дружна ўвесь паўстаў,
І каб стойка і адважна
Да канца змагацца стаў.
Быў у нас хаўруснік здатны,—
Уздыхнуў Няжыла.— Ён
Быў бы тут з падмогай ратнай,
Як сказаў, праз колькі дзён.
Мы б з ім Вільню акружылі,
Заўладалі б ёй уміг,
Але вось... яго забілі.—
Тут Няжыла раптам сціх.
— Хто хаўруснік той?
— Вайдзіла.
— Лідскі пан? Не можа быць!
— Чалавек ён быў праўдзівы,
Хто ж пасмеў яго забіць?
— Падкусілі служкі з гаю,
А забіў яго Кейстут...
— Смерцю гада пакараем,
Каб зямлю не пэцкаў тут!
— Сабяром вось толькі сілу
І на Вільню падамося,
Будзем браць з усіх бакоў.
. . . . . . . . . . . . .
І шумеў рознагалоссем
Лес, маўклівы ад вякоў...

27

Ручэй маленечкі, што ўлетку
Ледзь бачны ў лозах і траве,
Вясной імчыць па ўсім палетку
І, мутна-пеністы, раве,
Сустрэўшы раптам перашкоду.
Ён дамбы-насыпы ірве,
Муры, будынкі крышыць з ходу,
Змятае грэблі і масты...
Ды хутка зморыцца, зняможа,
Тады зашыецца ў кусты,
Якія ўдаль, нібы старожа,
Яго праз бедны край, пусты
Па камяністым дне пагоняць...

Як з гор бурлівая вада,
Народ, хапіўшыся за зброю,
Падаўся ў Вільню. Грамада
З усіх бакоў за грамадою
Займала звечара шляхі,
Што крыжаваліся ў сталіцы,
Каб у паўночны час глухі
Паводкай страшнаю разліцца
Па вулках сонных і пустых
І захапіць да свету замак.
А як там справы пойдуць далей,
Які іх будзе сэнс, напрамак,
Паўстанцы менш за ўсё гадалі.

Апоўнач полымя пажараў
Зарой крывавай абвясціла,
Што пачалася помста-кара,
Што наляцела тая сіла,
З якой лічыцца не жадалі
Ні ўладары, ні багацеі.
І пад напорам бурнай хвалі
Натоўпу грознага падзеі
Пачалі хутка развівацца.

Хоць князь не дома быў, а варта
Не ўраз здалася. Можа, дваццаць
Разоў зрываўся люд упарты
Са сцен і брам сялібы княжай,
Ды зноў ішоў пад выкрык згоды.
Чаго, аднак жа, не дакажа
Народ разгневаны, галодны!..

З царквы ігумен выбег жыва
З бліщчастым крыжам у далоні:
— Чакай, мой брат, чакай, Няжыла!
Аз тут чужы і пастаронні,
Ды тако рэшчы маю волю:
Господзь не церпіць акаянных,
Карае ён за самаволю
І за саблазны ў хрысціянах.
А ты на то не хошчэш зрэці
І кроў ліешы, акі воду.
Баяры, князь здаўна на свеце
Ад бога даныя народу,
Дык ашчэ хто супроць улады,
Той выступае супраць бога.
Паслухай вось маёй парады...

Няжыла глянуў на старога:
— Твой бог за князя і багатых?
Дык, значыць, ім душыць нас можна,
А стукнуць князя, памагатых
Несправядліва і бязбожна?
Хутчэй сыдзі з вачэй, старэча!
Няма мне часу на размовы!
Ты вораг, бачу я, галечы.
Ідзі, пакуль жывы-здаровы,
Пакуль цябе хто не знявечыў!
. . . . . . . . . . . . .

Дружыны княжай недабіткі
У верхні замак цягу далі,
А ў ніжнім тут жа ўвачавідкі
Кастры вясёла запалалі.
Гуляла вольніца. З падвалаў
Уміг харчы былі дабыты,
Пілі і елі да адвалу.
А хто пад'еў, стаў менш сярдзіты,
Той-сёй, дабра наклаўшы ў ношку,
Памалу стаў дамоў збірацца,
Другія, выпіўшы, патрошку
Паснулі, змогшыся па працы.
І як ні кідаўся Няжыла,
Не мог дабіцца толку, ладу...

А панства ўжо вакол кружыла —
Хто рыхтаваўся да нападу,
Хто спадцішка прыдушваў п'яных
І абяскрыленых распустай.

З дамоў і крам парасчыняных
Навокал дым клубіўся густа.
Народ разбегся — хто хавацца,
Зашыцца ў шчыліны ці норы,
А хто ў бязладдзі нажывацца
Лез у суседскія каморы.

Світанкам дзед Мірон з Няжылам
Збіраць ваяк пайшлі па месце,
Ды ўжо было ім не па сіле
Парадак нейкі, лад завесці —
Народ гуляў, не сунімаўся.



Хто чуў віну ці быў багаты,
Паўстанцаў, ведама, баяўся,
Дык пуставалі крамы, хаты...
Страх панаваў тады і ў гаі —
Сядзелі ціха вайдалоты.





Ды вось настала ноч другая,
І той бунтарнае галоты
Амаль ніхто не стаў баяцца,
Бо вось Пяркунас з цёмнай хмары,
Ледзь пачало крыху змяркацца,
Паслаў агонь і грому ўдары.
І гэты гнеўны голас бога
Збянтэжыў цёмную галечу:
Ёй сэрца сціснула трывога —
Жаданне помсты страх знявечыў.
Слушок пачаў расці ў народзе
(Як ні змагаўся з ім Няжыла) —
Слушок нахабны і ілжывы:
Не слухаць бога —
грэх, дый годзе!

А з гаю ўночы падаліся
Ганцы на ўсход, у стан Кейстута:
— Разня ў сталіцы, князь, вярніся
І пакарай халопаў люта!
— А Вітаўт дзе? —
Ён на Валыні.
Ратуй нас, княжа, бо загінем!

28

Ягайлу ганец на дарозе
Сустрэў ля Ашмяны:
— О, пане, сталіца ў трывозе.
Ваш замак забраны
І варты разбіты...
І слёзы, і кроў, і пажар!
Лютуюць бандыты
З Няжылам у месце —
Ён там безгранічны ўладар!
— Няжыла? А хто ён,
Паўстанец ці злодзей?
— Ён князь іх... і мае
Пашану ў народзе.
— Я еду ў сталіцу!

Лес пік мітусіцца —
Вядзе князь ваякаў
Сваіх і... крыжакаў,
За грошы нанятых.
А немцам такія
Не ў звычку пагоні —

Адсталі цяжкія
Райтарскія коні
Ад крэўскіх і віцебскіх кметаў...
Ды князь не зважае на гэта.
Ён войска не спыніць,
Хоць коні ўжо ў мыле,
Цяпер ён з дарогі не збочыць:
Раней за Кейстута
Суцішыць Няжылу
І першы ў сталіцу
Ускочыць...

— Куды ты, Няжыла?
Спыніся! Дарма ўсё!
Зірні на рагаткі:
Крыжацкая сіла
Ўвесь горад ужо акружае!
Літоўская раць і чужая —
Супроць тваёй п'янай галоты!
— А што ж мне рабіць?
                                        У балоты
Ды пушчы ізноў зашывацца
Ці, можа, здавацца ў палон?
Не! Буду змагацца
За волю народа па скон!..

Яшчэ праз дзень цэлы
І пікі, і стрэлы
Рабілі работу —
Жыццём і крывёй небаракі
Плацілі за суткі свабоды.
Разбілі галоту
Ягайлы палкі і крыжакі,
І князь распраўляцца стаў крута:
Праз доўгія годы,
Хто выжыў,
                        у лыкавых путах
У цёмным канаў падзямеллі...
— Каб болей ахвоты не мелі
Праклятыя смерды хапацца за зброю!..

Ягайлу ў Вільні не сядзіцца.
Хто не дае яму спакою?
Чаму пакінуў ён сталіцу
І, меч ускінуўшы высока,
Спыніўся з войскам каля Трокаў —
Цвярдыні Кейстута-латругі?

Амаль без бою здалі слугі
Магутны замак на азёрах,
Хоць там былі гарматы, порах,
Харчоў даволі і народу.
Здалося ім, што ўжо з паходу
Вярнуўся Кейстут.
Знак пагоні,
Адзежа, зброя, тыя ж коні



Зусім іх пільнасць ашукалі.
Яны масты паапускалі
І брамы насцеж расчынілі.
(Атрад крыжацкі на паўмілі
І гэтым разам плёўся ззаду.)
Трачане ўцямілі засаду,





Але, як кажуць, пазнавата
Знялі яны чахлы з гарматаў...

Ягайла ў маршы пераможным
Спыніўся з войскам каля Гродна
І князя Вітаўта з днём кожным
З гнязда выпорвае, нягодны.

Кейстут, дачуўшыся пра гэта,
Жыць не даваў сваім ваякам,
Гнаў іх назад, хоць сам пры гэтым
Адчуў, што хутка сядзе макам;
Не падпускаў к сабе на вочы
Ані князёў, ані баяраў.
Ад рання самага да ночы
Цяпер ён толькі сніў і марыў
Аб тым, каб быць хутчэй удому,
І, не зважаючы на стому,
Скакаў маўклівы, як і штодня,
Туды, дзе Нёман і Гародня,
Дзе сын чакаў яго з паходу
І падганяў усцяж ганцамі.

— Ну-ну, спяшаемся і самі,—
Бурчаў Кейстут не раз праз зубы.
І зноў жадаў Ягайлу згубы.

29

Глыбокі яр. Супроць пасталі
Палкі Ягайлы і Кейстута.
Блішчыць на сонцы мора сталі —
Да сёдлаў конніца прыкута,
Падрыхтаваная да бою.
Князі тым часам між сабою
Праз пасланцоў перагаворы
Вядуць, каб справу скончыць згодай.

— Літва ж і так у вечным горы,
Хто чым валодаў, тым валодай,—
Казаў Ягайла.— Дай мірыцца.
Кейстут спрачаецца: — Сталіца
І ўлада мусіць быць за мною!
— Тады здамося на лёс бою!
А братні бой — Літвы загуба;
Не добра так і так нялюба,
Бо за Ягайлам перавага.

І Кейстут змушаны скарыцца.
Ён згодзен ехаць у сталіцу.
І вось прынесена прысяга
Кейстутам, Вітаўтам, Ягайлам
І князем полацкім Скіргайлам
Аб тым, што згодны ў гэткім зборы
Прадоўжыць там перагаворы
Без ашуканства і без здрады.

Кейстут у путах!
— Стойце, гады!
Хто даў вам, хамы, гэта права
На князя рукі падымаць?!
Дзе князь Ягайла? Ў чым тут справа?
Але дружыннікі маўчаць.
І хоць вялікі князь у гневе,
Яго вядуць, пасля вязуць...
Вось ён у Крэве,
Ў сырым і цёмным падзямеллі,
Амаль без вопраткі і ежы.

І Вітаўт з жонкай там у вежы
Сядзеў пануры з тварам посным.
За кратай рваўся Кейстут злосны:
— Дзе слова князя? Дзе прысяга?
Як ён пасмеў, махляр, бадзяга,
Чыніць над дзядзькам родным здзекі?!.
. . . . . . . . . . . . . . . .
Ўвайшлі чатыры чалавекі
Ў сырую цемру да старога.
— Гэй, вы,— набычыўся ён строга,—
Дазвольце выйсці мне на волю!
Я вам казны набраць дазволю,
Хто колькі з вас панесці зможа,
Зямлі вам дам...
О, як варожа
Глядзяць яны, мой божа мілы!..
— Скажыце, хто вы?!
— Мы сябры Вайдзілы.
. . . . . . . . . . . . . . . .

30

Праз лес, па росным узбярэжжы
У зрэбнай зношанай адзежы,
У лапцях, сцёртых аб карэнні,

Ішоў стары, а ў аддаленні
За ім — жанчына маладая.
Ступалі моўчкі. Хто згадае
Іх дум цяжкіх шляхі-дарогі,
Надзеі, болі і трывогі!
Урэшце дзед сказаў жанчыне:
— Давай, дачушка, супачынем,
Ты ўжо ледзь цягнешся, нябога.
— Не, дзед Мірон, ідзём, нічога,
Яшчэ ў мяне хапае сілы...
— Шмат міль нас дзеліць ад Няжылы,
Не дабрыдзем без супачынку.
— Ну добра, сядзем на хвілінку,
Хутчэй бы ўжо туды папасці...
— Упору прыйдзем, вер мне, Насця.
А там абдумаем з сябрамі,
Як ключ знайсці к той цёмнай яме,
Дзе зараз мучыцца Няжыла.
Ці ж мала з ім людзей дружыла?!
Яны ж нам, бач, і падказалі,
Што ён жывы. Не плач...
І далей
Спагаду стрэнем і падмогу.
Цяпер здрамні, пакінь трывогу.
Ужо адпомшчана Арына:
Загінуў кат
Яе і сына —
Пракляты Кейстут, звер двуногі.
...І не без нашай дапамогі
Баяр Кейстутавых багата
Спаткала помста і адплата,
А зараз толькі застаецца
Няжылу вызваліць.
У клетцы
Князі пасядуць ды баяры.
О, не мінуць ім страшнай кары
За нашы слёзы, кроў і здзекі...
Тут Насця змежыла павекі,
Заснула мо.
— Пад гоман дзедаў
Паспі крыху. Пасля абеду,
Хоць бог для нас не шчодры дужа,
Далей паклыпаем. Да мужа.

31

Радасна Тэклі,
Тэкля пяе —
Прокша каханы,
Доўгачаканы
Будзе ў яе.
З князем учора
Ў замак прыбыў —
Скончана гора!
Любіць! Любіў!
Будзе любіць!
Жыць цяпер! Жыць!

Песня Тэклі

На рацэ на рэчцы,
На тонкай дашчэчцы
Дзеўка плацце мыла,
Моцна калаціла,
Суха выціскала
Ды дружка чакала.
Едзе міленькі з Дуная,
Я здалёк яго пазнаю.
Ён на коніку ўдалым,
А дружыначка — за ім.
«Ах ты дзевачка-дзявіца,
Сінявока, белаліца,
Напаі майго каня
Сярод возера сіня,
Каб конік напіўся,
Кавёр не ўмачыўся...»

Дзень працягнуўся,
Ночка брыдзе.
Прокша вярнуўся,
А ўсё не ідзе.
Выбегла ўранні
Насустрач яму —
Звысака глянуў,
Моўчкі мінуў.
Выйшла падвечар,
Але — дарма.
Так вось сустрэчы
Мілай няма.
Тэкля у горы,
Тэкля ў слязах.

Моўчкі ў каморы
Тоіцца жах.
Згасла лучына,
Змрок павакол.
Плача дзяўчына,
Ўзлёгшы на стол.

Пачуўся стогн:
— Даволі плачу!
Сябе я крыўдзіць не дазволю!
І ашуканства не прабачу!
Няхай пазнае ён нядолю,
Калі няма ў яго спагады!
А як адпомсціць, я ўжо знаю.
Без нічыёй зраблю парады,
Хоць я і цёмная, дурная...
Цябе князь крэўскі не пагладзіць,
Калі ўцячэ нявольнік з клеткі.
А гэта я магу наладзіць
На злосць табе, калі ты гэткі.
Дарма з мяне ты строіш жарты,



Шаноўны наш начальнік варты.
Хоць толькі служка я ў палонных,
Ды ведай — з ліку неўгамонных.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Зноў скачуць коннікі ў сталіцу:
— Прыбраны ў хустку і спадніцу,
Князь Вітаўт з Крэва цягу даў!..

Ніхто не думаў не гадаў,
Што ўбачыць ён яшчэ свабоду.
Ягайла ўміг узнагароду
За голаў князя аб'явіў
І разаслаў за ім пагоні.
Ды хто ўсе зведае бяздонні
Лясоў, балот, лугоў і ніў?
І хто абыдзе ўсе дарогі
Літоўска-прускае зямлі?

Тэўтону зручныя былі
Літоўцаў хатнія нязгоды,
І ён заўжды шукаў нагоды,
Каб умяшацца ў княства справы,
Каб свой крыжацкі меч крывавы
Узняць над беднаю Літвой.

Вітоўт у Ордэне.
Як свой
Ён тут прыняты. У паход
Усіх шукальнікаў прыгод
І ўвесь прадажны цёмны зброд
Ужо супроць Літвы наймае.
Магістр і так іх ледзь трымае,
Дык прыслужыцца вельмі рады
І ў знак вялікае спагады
З Вітоўтам шэсць сваіх палкоў
Пасланць пад Вільню даў загады.

Ягайла трэці дзень у Крэве
Праводзіць следства. Ў страшным гневе
Зайшоў ён зранку ў падзямеллі.
Пытае тых, што ўжо сядзелі,
Замест Вітоўта, у цямніцы.
— Каму,— крычыць ён,— з заграніцы
Вы прадаліся? Немцам? Ляхам?!
Якім, дакладвайце мне, шляхам
Вітоўт знайшоўся за мурамі?

Хто быў пры вежы? А пры браме?
За гэта вас павесіць мала!..
. . . . . . . . . . . . .

А ля варот стаяў за валам
Ганец замораны і пыльны.
— Учора ўночы з замка ў Вільні,
Пры ўдзеле вашых слуг і збродy,
З сырой цямніцы на свабоду
Мяцежны вырваўся Няжыла,—
Сказаў ён князю. Закружыла
Зямля пад княжымі нагамі.
— Пракляцце з гэтымі бягамі! —
Ягайла вылаяўся ў злосці.—
Вось змова новая і здрада!
Ізноў тут свой замешан хтосьці!
Эх, як галота будзе рада!
Што мне рабіць? Як бараніцца?
Ад небяспек як мне адбіцца?
Вітоўт настроены варожа,
Ды хоць ён князь, але не зможа
Прынесці столькі княству гора,
Як той мужык, што ўцёк учора...
. . . . . . . . . . . . .

З Вітоўтам ён наладзіў згоду,
Ды не суцішыў гнеў народу...



## УСТУП

Трыццаць дзевяты,
Трыццаць дзевяты
Памятны год...
Танкі. Гарматы.
Коні. Салдаты —
Тысячы рот.

Верасень, верасень!
Дзён толькі трыццаць!
Колькі, аднак жа, падзей
Можа ў час гэты кароткі змясціцца,
Колькі загінуць людзей!..

Восенню кожнага года
Я ўспамінаю той час...
Як жа, сябры мае, вас,
Паўшых у дні тыя, шкода!..

## НА ВАЙНУ

Прыкметы, чуткі не зманілі:
Раптоўна ўсе загаманілі,
Ў сяле пачуўся плач жаночы,
І рэзка кінулася ў вочы
Мабілізацыі аб'ява
Бялёсай плямаю на плоце:
«Збірайся кожны хутка, жвава,
За суткі быць салдату ў роце
Гатовым да вайны крывавай...»
І так далей,
і гэтак далей...

Нядоўгі збор. Вось падагналі
Падвод пяток для тых людзей,
Што ехаць вінны ў Гарадзей,
А стуль чыгункаю да мэты —
У полк, назначаны ў білеце.

Цяжкі бясконца быў дзень гэты.
Вакол нас маці, жонкі, дзеці...
Цалункі.



Слёзы.
Развітанні.
А потым доўга прычытанні
Абоз праводзілі наш хмуры,
Як быццам нам ужо хаўтуры,
Яшчэ жывым, жанкі спраўлялі.

І доўга хустачкі мільгалі
У незабыўнай роднай далі...

Сядзелі мы, спусціўшы ногі
З драбін абапал на калёсы,
Цыгаркай дымнаю трывогі
І дум цяжкіх ганялі восы,
Ды пра свае гадалі лёсы.

Аднекуль вырваўся вятрыска,
Прайшоўся пылам па абозе,
Скалмаціў косы на бярозе,
А потым лісця жмут жаўтавы
Па-над раллёй, іржышчам нізка,
Над зелянінаю атавы
Пранёс і ў рэчку кінуў з кручы.
А з невялікай сіняй хмары
Пасыпаў дождж касы, калючы
І заімгліў вакол абшары.

А ў час, як зноў зірнула сонца
І заблішчалі каляіны,





Мы, зараз Польшчы абаронцы,
Яму прыгорбленыя спіны
Хутчэй сушыцца падстаўлялі
І моўчкі сунуліся далей,
Бо не хацелася нікому
(Яшчэ душой быў кожны ўдому)
Прамовіць слова па-пустому.

Ды вось адклікнуўся Савелі:
— Чаго ўсе так пасалавелі?
Пакіньце, хлопцы, вохі-ўздохі.
Далоў з вазоў размяцца трохі! —
Саскочыў сам, за ім — другія.
— Глядзіце, конікі ж благія,
Ледзь ногі блытаюць яны,
А мы ж, здаецца, не паны!
— А праўду кажа,— ўставіў Янка,—
Няхай спачне крыху хурманка,
А мы прыстукнем у апоркі,
А там ізноў прысядзем з горкі.

І ўсе пайшлі уздоўж дарогі,
Каб парасправіць спіны, ногі
І думы-хмары разагнаць.

— Вось давядзецца, ў гроб іх маць,—
Сказаў Міхась,— ісці пад кулі.
Каб лепш яны ўсе затанулі
І рыдзы-сміглыя, і бэкі!
Яны шукаюць славы, чэсці,
А нам, калі не зляжам дзесьці,
Пішыся зразу у калекі!

— Вядома, ў сённяшняй вайне
Нікога куля не міне,
Бо ўзяць хоць той бы кулямёт...—
Уставіў Ёсіпаў Хвядот.

— А ў немца, кажуць,— што салдат,
То кулямёт ці аўтамат,—
Прадоўжыў гутарку Тарас.

— Дый самалёты, танкі, газ,
А ўсё на нас,— дадаў Генадзь.

— А я й не думаў ваяваць,—
Азваўся Хведараў Уладзя,—

Няма за што мне кроўю капаць
І ўдзячным панскай быць уладзе.
За гэты хіба здзёрты лапаць?
Няхай ваюе, хто багаты.
Я лататы, брат, дам дахаты,
Дальбог, як толькі будзе можна!

— Ты лапачы ды асцярожна,—
Сказаў Сцяпан,— бо ў час ваенны
Язык — хаўруснік вельмі дрэнны,
І не забудзься, што у пана
Даволі куль нарыхтавана
На гэткіх вось, як ты, ваякаў.

— У пана зброі — кот наплакаў,
Ад немцаў нечым адбівацца.
Ды ўжо дакучыла баяцца.
Кажу табе, што Польшча трэсне,
Адпета панская ўжо песня!

— Такі, як ты, ваяка строгі
Няхай за пояс возьме ногі,
Дык знікнуць шансы перамогі
І Польшчы зразу ўжо — капут.
Ну, братка, ты ж і баламут!

— Не я адзін.
Ды з вас тут кожан
Не мае веры ў перамогу
І толькі тым і устрывожан,
Як з бойні вырвацца. Яй-богу!
Бо на якога нам ражна
Палякаў з немцамі вайна?
Што нам, скажыце, дасць яна?
Ці так, ці гэтак, мы — рабы
І на чужынца гнём гарбы.
І будзем гнуць, бо мы дурніцы,
Бо кожны з нас век свой баіцца!
— О, ты разумны, брат, у нас,—
Адпор дае яму Тарас,—
Відаць, яшчэ, па-твойму, мала
З сяла ў Лукішках пабывала.
У вёсцы ж кожны мо дзесяты
Трапляў пад «гуму» ці за краты.
І сам жа ты якраз такі —
Сядзеў са два ці больш гадкі,
А што з таго, скажы, карысці?

— Карысць пакажацца калісьці.
Магчыма, дзякаваць трэ ўладзе,
Што жыць змушала нас у стадзе,
Дзе мог і наш гаротны брат
Пачуць і ўцяміць вельмі шмат.
Бо лепшай школы, чым турма,
Сягоння ў Польшчы, брат, няма!
І гэта, вось вы улічыце,
Пацвердзіць вам і наш вучыцель...—
І ў бок мой зыркнуў хітравата.

— А ты настаўніка не кратай,
Брашы ды толькі ведай меру!
Другіх мяшаеш на халеру?
Відаць, таўклі цябе замала! —
Так злосць Сымона разабрала,
Што ажно плюнуў на дарогу.
— Зусім скапыціўся, яй-богу,
Не цяміць проста ані-ні!
Ды ты на задні воз зірні! —
Закончыў ціха, сцяўшы зубы.

Зірнулі ўсе ў бок пана Дзюбы.
Той Дзюба — млына арандатар,
Да гульняў, выпіўкі аматар,
Магчыма, дробны правакатар,
Сядзеў адзін цішком на возе
У недарэчнай беднай позе,
Убіўшы вочы у дарогу.

— Хі-хі! Глядзі! Струсіў, яй-богу!
Яшчэ вунь дзе тая вайна,
А порткі поўныя г...!
Дальбог, баіцца з воза злезці,
Каб тога скарбу не растрэсці! —
Шумеў няўрымслівы Уладзя.

Пранёсся рогат па грамадзе;
Адзін не ўцяміў бедны Дзюба,
Хто быў асмеяны так груба.

Ды блізка ўжо канец узгорка,
Дык запыняецца гаворка.
Ізноў вазы паабсядалі
І цёмнай будучыні далі
Ужо цяпер прадбачваць сталі
На кожным возе паасобку.

Лявон надбітую чарпку
Дастаў з-за пазухі, прадзьмухаў,
Працёр рукой сваёй грубою
І, шапку ссунуўшы на вуха,
Намацаў торбу пад сабою:
— Ну, хлопцы, чорт яе з вайной!
Давайце вып'ем па адной.—
Наліў сабе, наліў Сымону.

Паднеслі й Дзюбе самагону:
— На выпі, пан, не траць разону!
Не ўсіх жа б'юць і на вайне.
Што? праўду я кажу ці не?

І кожны выпіў так, як трэба,
І скварку ўзяў, і крышку хлеба.
А хутка з задняе фурманкі
Падбеглі к нам пазычыць шклянкі.

Настрой паправіўся ў абозе,
І хутка з грукатам калёс
Шум, гоман, песню па дарозе
Вайне насустрач вецер нёс.
Ужо мы больш не бедавалі
І праз сустрэчныя нам сёлы,
Ў адказ на слёзы, ўздыхі, жалі
Правезлі з песняй жарт вясёлы.

А гэтым часам наш абоз
Уздоўж расцягваўся і рос,
І ўслед за намі да вакзала
Падвод з паўсотні пад'язджала.

Гудзеў, як вулей, Гарадзей
Фурманак сотнямі й людзей.
Надходзіў змрок, і напаўзала
З заходу хмара шэрай хустай.
Падзьмуў скразняк. Каля вакзала,
Дзе ўжо народ таўпіўся густа,
Шукаць і мы прытулку сталі,
Ды, не знайшоўшы месца сесці,
Пайшлі пад нейкі склад і ўрэшце
Уздоўж сцяны радком пасталі,
Бо дождж густы сыпнуў, як з сіта.
Настрой прапаў, не мы нібыта,
Гадзіну тому п'яным хорам
Цягнулі песню ўздоўж дарогі.

У сэрцы ўпоўз зноў сум ці сорам,
А з ім вярнуліся трывогі
І сталі рэзаць без нажа.

І доўга ў цемры нам на ногі
Скакалі пырскі з капяжа...

Загад ваенны: аканіцы
Пазачыняць, гасіць агні.
Дык хоць насельніцтву не спіцца,
Ды цемра, дзе ты ні зірні,
І толькі чорны сілуэт,
Народам поўнага вакзала,
Малая лямпка выдзяляла,
Льючы з перона сіні цэд.

Надбег цягнік каля паўночы,
Сіпата цемру ўскалыхнуў
І сінькай змазаныя вочы
У нас бязлітасна ўваткнуў.
І сіне-змрочныя вагоны
Мы сталі спешна запаўняць,
А ўслед кармільцам маці, жоны
Узнялі плач...
Вайне праклёны,
Уздыхі, выкрыкі і стогны,
Каму вас суджана суняць?

А дзесьці ў небе панадхмарным
Маторы глуха загулі
З пагрозай знішчыць нас каварна,
Перш чым апранем шынялі.

Жанчын прагналі ад вакзала
Тры паліцэйскія чыны,
А наш цягнік крануўся вяла
Ў абдымкі цемры і вайны.

## ПЕРШЫЯ ЖАХІ

Ну вось і полк. Сустрэч з сябрамі
Не ўспомніць зараз, не злічыць.
Яшчэ ў натоўпе ў самай браме
Пачуў, што нехта мне крычыць:
— Здароў, калега!
— Ах, Адаме!

Як рад я ўбачыць земляка!
Ты што? прыехаў разам з намі?
— Ды не, я тут з красавіка.
Вось як паклікалі на зборы,
Дык і прыйшлося затрымацца.

Хацеў я штось яшчэ спытацца,
Ды ў гэту самую хвіліну
Сірэны дзіка зараўлі
І ўзняўся звонкі крык:
«Кладзіся!»
Натоўп змяло: хто ўпаў ля тыну,
Хто ў роў, у ямку на зямлі...
У пляму шэрую зліліся
Ватоўкі, світкі, шынялі.
А тры з крыжамі «месершміты»
Раптоўна вынырнулі з хмар.
Раўнуў матораў гул сярдзіты,
Пачуўся ўдар! Другі удар!
Тры ўзрывы-выбухі падрад
Паветра гулка ўскалыхнулі...
Падняўся ўгору слупам дым,
Па дахах трэснуў рэзка град,
І засвісталі звонка кулі
Над войскам зборным, маладым.
Мы ж, хоць прыплюснутыя к гліне,
Сачылі ворагаў налёт:
Прайшлі.
Пасля ў адной хвіліне,
Круты зрабіўшы разварот,
Маланкай выйшлі ў бок вакзала
І зноў сыпнулі куль гарох,
Але таго было ім мала,
Дык зноў зямля аж застагнала
Ад новых бомб — фугасак трох.

Тады ўжо толькі дзесьці з ПАЛю [1]
Зянітка плюнула дымком,
Ды ўжо бандыты адступалі:
Амаль уміг, адным рыўком
Прабілі хмару касяком
І ў далях воблачных прапалі.

Так злодзей-кот, калі ў дзвярах
Ледзь толькі клямка заскіргоча,

[1] *ПАЛь — полк лёгкай артылерыі.*

Рванецца ў шчыліну пад дах
І мігам гіне ў цемры ночы.
І застаецца гаспадыні
Адно — падлічваць шкоды ў скрыні.

Ахвяр было адносна мала —
Забіты хлопчык быў малы,
Пашкоджан склад каля вакзала,
Разбуран дом адзін жылы,
І многа шыб павылятала,
Ды дзюр прыбавілася ў дахах...
Адбой. Хвілін прайшло мо трыццаць,
І мы пастроены ў рады.
Начальства вокал мітусіцца,
Адзін туды, другі сюды
Бягуць з паперамі з загадам —
Рыхтуюць нас на эшалон.



Гляджу, стаіць са мною радам
Знаёмы наш, сусед Лявон.

— А вас вось толькі што пыталі
Той самы сябра ваш, Адам
І Загаранаўскі Віталі.





Яны цяпер абодва — там,—
Ён паказаў рукой на дзверы.—
Яны ўжо, браце, ахвіцэры.—
Дальбог не лгу, я бачыў сам...
А нашых хлопцаў тутка мала,
Усе пайшлі, брат, у разброд:
Хто ў ПАЛь падаўся ад вакзала,
А хто далей.
                    Ёсць тут Хвядот...—
Яшчэ хацелася суседу
Пра тое-сёе расказаць,
Ды вось — Адам:
                    — Пасля абеду,
Так праз хвілін... ну, трыццаць пяць,
Сустрэцца нам ля прахадной.
Вось тут загад і пропуск твой.

— Дык шчасця, ўдачы вам, Лявоне,
Відаць, не ехаць мне сягоння
Ў тым самым з вамі цягніку.
Ён моцна сціснуў мне руку:
— Таго і вам.
А я ўжо, брат,
Быў рад.
Але загад, брат, ёсць загад,
Ці рад яму ты,
                    ці не рад...

Усмешку помню, вус бялявы,
Шынелі доўгі балахон,
Пад ім адтыркшыя халявы —
Такі стаяў, як Швейк, Лявон.

А сёння сам не знае бог,
Дзе ён тады за Польшчу злёг.

## НАЧНЫЯ ТРЫВОГІ

«Пісаць — якая гэта праца?—
Казаў мой дзядзька Мікалай.—
Другая рэч — за коску ўзяцца
Ці, скажам, цэпам павіляй,
Або ўзары са двое гонцаў,
Устаўшы раненька да сонца,
Пакуль не стане конь у плузе.
Тады убачыш па папрузе,

Ці ты рабіў і як рабіў.
І люба глянуць на работу,
А як з'ясі пасля ў ахвоту!
Пяро, яно, брат,— перына́,
Яму сто вёрст да бервяна,
Якое трэба ў лесе ўкрасці,
За ноч дадому прыцягнуць
І ў зруб на досвітку пакласці...
Ў пісакі лодыры ідуць!»—
Апошні вывад быў старога.

Здаецца, тыдзень — дзён не многа,
А я ім хутка лік згубіў,
Амаль не робячы нічога,
Калі пісанне — толькі гулі.
Бо то налёты, то трывога,
Глядзіш, там паліць, там збамбіў,
Там сыпануў па дахах кулі...
Дык хоць не з працы ці з натугі,
А я падцягваць стаў папругі.

Наш пункт — у школе ля вакзала.
«Прызваных» к нам вялі няспынна,
А школьны двор з спартыўнай залай
Прымаць людзей былі павінны
На жорсткіх стружках ці дзярне,
Пакуль мы спіскі афармлялі,
З якімі іх вялі ўжо далей
Насустрач смерці і вайне.

Мы зналі: гэта не міне
І нас, што пішам, чэрцім, строчым.
Нам, як сезоннікам-рабочым:
Скасіў палетак, высек гай —
Збірай лахмоцце і... бывай.

Другі паверх, чацвёрты клас —
Вось гэткі адрас быў у нас,
У трох замораных пісакаў.
А быў у нас за камандзіра
Паручнік Скшэк, дурны прыдзіра,
Які любіў, каб кожны плакаў,
Над кім ён толькі меў уладу.
На нас прыкрыкваў: «Прэндзэй, дзяду!
Пішы хутчэй, бо мне здаецца,
Што ў гэты спісак трапіш сам!
За карак тут табе не льецца,

Тут можа сесці і другі!
Нам кожны момант дарагі!»
І так заканчваў гэты хам:
«То война, пане муй коханы!»

З паўдня заўжды бываў ён п'яны,
Тады крычаў «пся крэў», «пся маць»,
Пакуль не кінуўся дзе спаць.
Калі ж ці выбухі бамбёжкі,
Ці гул сірэн яго будзілі,
Тады пацягваў з флягі трошкі
І спаў ізноў, як у магіле.

А раз, ці спірту не хапіла,
Ці мо праспаўся, лёгшы рана,
Падняты нейкай цёмнай сілай,
Да нас прыплёўся нечакана.
Мы на падлозе ў стружках спалі,
А сябра наш, юнец Антоні,
Дзяжурыў так пры тэлефоне,
Што мо не чуў бы, каб стралялі,
Не то што чырканняў званка.

Дык Скшэк падбег да юнака
І з крэсла збіў яго ударам.
Антон, сваім адданы марам,
Не разабраўшыся ў чым справа,
На ногі ўскочыў вельмі жвава
І з крыкам:
«Немцы! Бомбы! Газ!»
На стол ускочыў і ў той раз
Нырнуў у сінь акна з разгону.
І ў той хвіліне трэску, звону
Раптоўна ўсюды свет пагас,
А вецер стружкі з месца зрушыў.

«СОС! СОС! Ратуйце нашы душы!» —
Ўзарваўся з крыкам сонны Стах
І, збіўшы Скшэка у дзвярах,
На цёмным грымнуў калідоры.
А Скшэк, ублытаны у шторы,
Пачаў біць слепа з пісталета.

Тут вартавы ў адказ на гэта
Узняў ля брамы страляніну.
І ўжо праз нейкую хвіліну
Завыў сігнал начной трывогі,

А з ім падняўся ўміг на ногі
Увесь вялікі гарнізон.
— Пад'ём!
Ізноў сірэна вые!
І ўсе, хто спаў, і вартавыя
Натоўпам выбеглі на двор
І пад акном на тратуары
Знайшлі разбітага Антося
З крывёй на вопратцы і твары.
Тут загудзела шматгалоссе:
«Напад! Дыверсія! Дэсант!»

А гэтым часам камендант
І варта пільная са зброяй
Да нас прыбеглі: «Што такое?
Стаяць! Ні з месца! Рукі ўгору!»
Ўцягнулі Стаха з калідора,
Схапілі Скшэка і ўсіх нас
На ніз звялі у першы клас
І пад нагляд дзяжурным здалі.
Усе ўжо пошукі вялі:
Слядоў шукалі на зямлі
Перш каля школы, потым далей,
Пад парты ў класах заглядалі,
Але нікога не знайшлі.

Званілі доўга гарнізону
І вось заўважылі тады,
Што абарваны правады
Электрасвету й тэлефона.
Дык па загаду каменданта
Шукаць зноў сталі дыверсанта.
А ясна стала толькі ўранні,
Што правады сарваў Антон,
Бо на драты зваліўся ён,
Калі ўцякаў ад соннай здані.

Забралі хлопца лекары,
А што з ім стала, з той пары
Ужо мы так і не пачулі.

Калі на фронце ўсцяж няўдачы,
Тады і ў тыле ўжо не гулі —
Даецца ў знакі час лядачы
Старым, жанчынам, дзетвары.
Яны таксама, як салдаты,
Пабраўшы кіркі ды лапаты,

Свае раскопваюць дворы —
Рыхтуюць сховішчы і норы
І ў іх сядзяць праз час каторы,
Калі трывога загудзе.
А ў гэтым страху і бядзе
Мужнеюць дзеці вельмі хутка.

Ужо даўно хадзіла чутка,
Што немцы ссаджваюць дэсант,
Што склад падпальваў дыверсант
І што шпіёнаў вокал многа,
Ды толькі цяжка іх пазнаць.

І вось аднойчы мальцаў з пяць
Ксяндза сустрэлі пажылога
І нам даказваць сталі ўпарта,
Што хоць і ў доўгай расе ён,
Зусім не ксёндз ён, а шпіён
І што яго застрэліць варта.
Самім было ім шкода дужа,
Што толькі з дрэва маюць ружжы.
Ён, па расказах дзетвары,
Ішоў, заходзячы ў двары,
Шукаў чагосьці, выглядаў,
Відаць, нашкодпічаць жадаў.

Ксяндза салдаты прывялі,
І справа яснай стала хутка:
Шукаў ён цёмнага закутка
Ці будкі з цэшкай «два нулі»,
Бо напалохаўся бамбёжкі
І страўнік меў няспраўны трошкі.
Ён быў збянтэжаны без меры.
Паказваў нам свае паперы
І ўсё аглядваўся на дзверы...
Калі ж пабег углыб двара,
Пайшла за браму дзетвара.

## НА ФРОНТ

Мінаў другі тыдзень вайны,
А немцаў стрымаць не ўдалося,
І клаліся Польшчы сыны,
Нібы пад касою калоссе.
Штодзень прыбывала бяды:
Гарэла навокал зямля ўся,

А вораг бамбіў гарады
І штораз глыбей укліняўся.

Няма ўжо ў эфіры Варшавы,
А Лодзь па-нямецку крычыць.
Дзе сёння наш фронт, як там справы —
Не можам мы ўжо прасачыць.

Зайшоў нечакана Адам:
Загад ёсць, збірацца ў паход.
— Я знаю, званілі ўжо нам,
Што ж, братка, прыйшоў наш чарод.

— А я тут з'явіўся не так:
Віталія ўчора схапілі.
Зарана адкрыўся, дзівак,
Не ждаў адпаведнае хвілі.
Хачу папярэдзіць: маўчы,
Бо будуць напэўна капацца,
І цвёрда сабе ты ўлічы,
Што ў гэтым сагнаным народзе
Ёсць дрэні, хоць ты адбаўляй,
Што будуць к табе прыглядацца.
Ну, дружа, бягу.
Дык бывай,
Сустрэнемся заўтра ў паходзе.
Хоць мы пад нядрэмлючым вокам,
Трымайся...
Канец недалёка.

Калі назаўтра ля вакзала
У шэрых ранішніх туманах
Калона наша прапаўзала,
Убачыў горад я у ранах
І ледзь стрымоўваў гневу слёзы.

Тырчалі ўгору рэйкі, шпалы...
Вагоны, бакі, паравозы
Ляжалі мёртвай кучай лому,
Як барыкады ці абвалы,
А вокны велічнага дома
Пустэчай змрочнаю глядзелі.
Чарнелі ямы ўздоўж панелі...
Дамы папалены, разбіты
Яшчэ дыміліся і тлелі,
А з тратуарных сцежак пліты
Параскіданыя ляжалі,

Або тырчалі, як скрыжалі.
Слупы з парванымі дратамі,
Сукі пакрышанай прысады,
Шмат бітай цэглы, чарапіцы
Так уздымаліся часамі,
Што не пралезці, не прабіцца...
— Вось дзе паздзекваліся гады! —



Шумелі хлопцы у калоне,—
Няма адпору, дык і рады
Нахабствам, зверствам пахваліцца!

— А Польшча ўжо відаць, што тоне...
Людзей мы бачылі не многа.
Сёй-той запалымі вачыма
Праводзіў войска з-за парога:
«І гэтых кліча ўжо айчына...»
А іншы рад быў, можа, трошкі:
«Адходзяць. Ну і дзякуй богу,
Не будзе болей мо бамбёжкі».

Той дзень быў сумны, шэры, цьмяны...
Спачатку ўзбліснуў сонца круг,
Але, ублытаны ў туманы,
Збляднеў памалу і патух.
І свет адразу стаў наўкруг,
Як мелам шкло, замаляваны.

Уздоўж шашы па-над равамі,
Бліжэй ад поля і прысад
Цягнуўся доўгім караванам
Апошні з горада атрад:
Каля паўтысячы пяхоты,



Пяць супрацьтанкавых гармат
І мо фурманак з пяцьдзесят,
З якіх цяжкія кулямёты
Глядзелі ў хмары блізарука.

Надвор'е нам якраз спрыяла:
Туман глушыў калёсны грукат,
Сцішаў і тупат нашых ног
(Хаця ішлі мы вельмі вяла)
І ад благіх вачэй бярог,
Што ўсцяж, як з неба, так з зямлі
Нанесці шкоды нам маглі.
Вайна ж бо літасці не знае,
Яна ж бо лютасцю жыве.

Салдат ніколі не пытае,
Аднак пытанне ў галаве:
«Куды вядзе дарога тая?»
Тырчыць няспынна ў час паходу.
Таму ўсялякія здагадкі
Ён сам высноўваць мае моду.
Пакуль не змораны, дык падкі
Пусціць на веру і няверу
Свае быліцы-небыліцы
Усякіх зместаў і памераў.

— Нас гоняць, пэўне, да граніцы,
Інакш павезлі б цягніком.
— А з кім жа ты задумаў біцца?
Няўжо яшчэ й з бальшавіком?
— Не. Пэўне, будзем рыць акопы
Ці будаваць мо бліндажы.
— А вы абодва — асталопы.
Дзе рыць?
Ля ўсходняе мяжы,
Калі на ўсход, давай бог ногі,
Бяжыць і армія, й народ?
— Хутчэй за ўсё, што нас дарогі
Загоняць правіць ды масты,
Ішлі ж сягоння мы ўжо ўброд.
— Дарма ўсе вашы неспакоі:
Завернуць нас куды ў кусты,
Або на пляж. А што ж такое?
Прыдбаць не шкодзіла б загару,
Пакуль не скончыцца вайна...
— Пакіньце жарты. Праз дзён пару,
Магчыма, скончыцца яна.

— Сама не ведае каманда
Куды, па чорта нас вядзе!
Вось мы паўзём, як тая банда,
А афіцэры нашы дзе?

І праўда, вёў нас падпаручнік,
З адзінай зоркай камандзір,
Зусім юнак. Сціскаў нязручна
Яго зацеснены мундзір,
А шабля ногі абівала...

— Учора з мінай генерала
Хадзіў палкоўнік і маёры,
А сёння час ужо каторы
Зусім нікога не відаць.
— Ці не далі, ўязві іх маць,
Яны ад нас кудысьці драла?

Спярша ўпаўголасу нясмела,
Пасля зычней, пад гул калёс,
У маршы войска зашумела:
«Куды начальства чорт панёс?»
А нехта крыкнуў:
«Стой калона!
Даволі маршу.
Прыбылі!»
І ўсе, што рухаліся сонна,
Паселі, леглі на зямлі
У тым жа маршавым парадку.
Адкуль загад, ніхто спачатку
Пытаць, даходзіць не стараўся —
Была пара ўжо на прыпынак.
Аднак жа кожны здагадаўся,
Калі кароткі адпачынак
Пачаў зацягвацца без меры.

Сышлі з вазоў —
з цюкоў і скрынак
Паны, запасу афіцэры,
Якія функцыяў не мелі
І марш ляжбокам збыць хітрылі.
Яны таксама зразумелі,
Што рух салдаты запынілі,
Дык сталі ўперад падавацца,
Каб зразумець,
у чым тут справа.
Было юнцоў тых мо са дваццаць.

А ім насустрач крочыў жвава
Той падпаручнік даўгавязы:
— Ну, справа ў чым? Чые прыказы
Трымаюць нас тут на шашы?
— А дзе каманда? Афіцэры?
— Што гэта значыць?
— До холеры!
— Дакуль стаяць тут?
Варушы,
Ды будзем сунуцца паволі.
— Чаго пасунешся? Куды?
— Ну не ляжаць жа ў чыстым полі
І ждаць на голавы бяды!
Туман знікае. Кожнай хвілі
З'явіцца могуць самалёты,
А мы якраз тут разлажылі
Абоз, гарматы і пяхоту.
Хай налятуць — усё прапала.
— Ну дык вядзі! За чым жа стала?
— А мэта маршу? А маршрут?
— Маршрут — дарога, мэта — вораг!
— А там няволя ці капут?
— Чаму капут? І ў нас ёсць порах!
— А сувязь ёсць у нас?
— Пся маць!
— Ісці далей па-баявому!
— Ну так. І нельга больш чакаць!
— І слова лішняга нікому!..



А ў гэту самую хвіліну
Азваўся дробненька матор.
Усе заўважылі машыну —
У ёй імчаўся наш маёр.
К яму падбег паручнік тонкі,
Каб па уставу далажыць,
Але начальства выкрык звонкі:
«Якога чорта тут ляжыць
Вось гэта зборышча старцоў?!»—
Яго прыбіў, скаваў, збянтэжыў.
А ад падбору рэшты слоў,
Напэўна б, мёртвы не улежыў...
Салдаты выйшлі на дарогу
І праз хвіліну мерна ў ногу
Шлях прадаўжаць той пачалі.

Маёр падаўся праз палі
Пад лес і знік у хмарах пылу.



— Баіцца лысы чорт шашы,
А нас, во гэтакую сілу,
Пусціў — хай немец растаўчэ.
— А ты маўчы, брат, ды чашы,
Калі навокал ціш яшчэ,
А то, пакуль бамбёжка, бой,
Жандар прыкончыць можа свой.

Шаша звярнула ўправа ў лес
Ад той, што проста ўдаль пабегла.
— Ідзём, відаць у горад С.
— А там ці ёсць на цэгле цэгла,
Ці будзе дзе падначаваць?
Бо зараз ноччу зімнавата.
— Спытай начальства. Вунь стаяць!
— Глядзі, брат, як іх тут багата!
— Але чамусьці не ў гуморы,
Ледзь нас сустрэлі, ўжо хамяць,
Аж тут чуваць, як бэсцяць маць.
— І ў зубы можа даць каторы,
Яны цяпер, брат, як звяры,
З другім да трох не гавары.

А гэтым часам камандзіры
Праз мост, пабіты ўвесь на дзіры,
Памалу войска павялі...
Падвечар мы адпачывалі
Над рэчкай, лёгшы на зямлі,
Пасля пасунуліся далей,
Папаласкаўшы кацялкі.

Тады ж на беразе ракі
Ка мне падбліжыўся Адам:
— Спачатку я не ведаў сам,
Чаму наш кадравы састаў
Сягоння шлях праз лес «прастаў»,
Залезшы шчыльна ў грузавую.
Адбыў і я дарогу тую.
Сказаць, чаму быў перапуд?
Не, лепш не зараз і не тут:
Пасыльны прэ вунь нацянькі.

Тут ад'ютанту загадалі
Падацца ў бок штабной машыны.
Яшчэ «бывай» кіўком рукі
Паслаў ён мне са значнай далі
І знік у зелені альшыны.

# ДЗІЎНЫЯ МАНЕЎРЫ

Сырой халоднай ноччу хмарнай
Мы увайшлі у цёмны С.
Прайшлі ля станцыі таварнай,
Мінулі доўгі паднавес,
Сустрэлі змрочныя вагоны
І каля іх спыняцца сталі.
Насцёбваў дождж неугамонны,
Плюхцелі лужы на зямлі,
А ветры ў цемры то свісталі,
То дзікім голасам гулі.

Загад: грузіцца проста з ходу.
Вось за падводаю падводу
Подводзяць моўчкі на платформы.
Гарматы, кухні і калёсы,
Пры свеце мокрай папяросы,
То пхнуць, то цягнуць і без нормы
Салдат пакуюць як папала.

— Хутчэй, хутчэй! бо часу мала! —
Крычаць панове афіцэры
І сыплюць «д'яблаў» і «халеры»,
І гэткіх многа слоў другіх,
Што ані ў якім разе іх
Змясціць не можна на паперы.

Пасля пагрузкі і вячэры,
Ні рук не чуючы, ні ног,
Паснулі ўсе, дзе як хто мог,—
Ці ў перапоўненым вагоне,
Ці на платформах між калёс,
Ці то забраўшыся да коней,
Што свой пахрумствалі авёс.
Ніхто не думаў, не даходзіў,
Куды, калі скіруюць нас —
Пакажа сам бліжэйшы час.
Цяпер прылёг, дык шчасця годзе,
І не парушыць зараз сна
Ні дождж, ні сцюжа, ні вайна.

Звон буфяроў,
Стукат калёс...
Соп паравоз,
Роў і свістаў,
Штурхаў састаў,

Рваў эшалон —
Вёз, то не вёз.

Доўга цягнік
Грукаў, блудзіў,
Гэтак і так
Войска будзіў,
Потым, аднак,
Хутка наздзіў
Пусціўся ён
Гладдзю дарог
Цьме наўздагон
Полем, праз лес...

Застаўся, знік
За намі С.



Світаннем вецер і імжакі
Салдат усё ж перамаглі:
Круціцца сталі небаракі,
Шчыльней хавацца ў шынялі,
Але, азябшы канчаткова,
Сядалі, ўскоквалі на ногі,
Клялі надвор'е і курылі.
Часамі той-сёй кідаў слова
Наконт вайны, і перамогі,
І той няведамай дарогі,
Якой кілометры і мілі
Адмерваў сёння эшалон.

— А паравоз усё гукае,
Відаць, дарогі просіць ён.
— Цікава, станцыя якая...



— Ужо мо блізка і Варшава,
Туды ж бо нас вязуць на ўбой...

— Чакайце, што тут за праява?
— Праява? Дзе?
Ды што з табой?!
— Дык мы ж прыехалі дадому!
Глядзіце! Гэта ж горад наш!
— Ты не кажы хоць больш нікому...
— Аслепнуць! Жэрці мне фураж,
Калі назад нас не вярнулі!
— І праўда...
Што гэта за гулі?

Дэпо.
Казармы.
Мост.
Турма.
Вакзал разбіты.
Груды лому...
Не. Больш сумнення ўжо няма,
Што мы вярнуліся «дадому».
І ўжо усе глядзяць жаўнеры,
Ніяк не могучы даць веры
Сваім задзіўленым вачам.
Ды вось і шыльда ля вакзала
Яшчэ раз лішні пацвярджала,
Што гэта ўсё не сніцца нам.

Цягнік спыніўся.
Праз хвіліну
Загад пранёсся: выгружацца.
А праз мінут якіх са дваццаць
Апошні воз вакзал пакінуў.
І кожны з нас пасля той стомы
Да болю сціснуў кулакі:
«Мінулі вёрст мо больш за сто мы,
А вынік маршу — ніякі.
Навошта ж так мы ногі білі?
Няхай спачыў бы лепш салдат,
Замест туды, сюды, назад
Ганяць яго адмерваць мілі!»

А ледзь паспелі мы памыцца,
Пагрэцца чаем, адпачыць,
Ажно дзяжурны ўжо крычыць:

«Падрыхтавацца у паход!
Гатовым быць хвілін праз трыццаць!»

І вось ізноў абоз, народ
З казармы ў новы эшалон
Пагналі чым хутчэй грузіцца.

Той-сёй сцішка бурчаў праклён,
Той-сёй падміргваў хітравата,
Ды думаць — справа не салдата,
Дык што ні скажуць, робіць ён.

Пасля ўсіх цяжкасцяў пагрузкі,
Спусціўшы ногі на парог,
Ці сеўшы ззаду, дзе хто мог,
У круг сяброўскі мірны, вузкі,
Праз дымы таннай папяроскі
Салдаты далі
Разглядалі
Сваіх няведамых дарог.

— Заціхлі бойні адгалоскі...
— І праўда, хмары разагнала,
А не гуляюць «месершміты».
— А мо яны усе ўжо збіты
Ці мо махнулі з Польшчы драла?
— Хутчэй, што Польшча ўжо здалася.
— Ды ўжо ж у самым блізкім часе
Павінны выясніцца справы.
— Раскажа шмат аб чым дарога.
— Спытай начальства, хто цікавы.
— Начальства ведае не многа
Або, як мы, зусім нічога.
Ужо каторая пара,
Як мітусяцца небаракі
Накшталт няшчаснага сабакі,
Які згубіў гаспадара.
— Няма адкуль чакаць дабра!
— Куды ўсё гэта прывядзе,
І як мы спынімся, і дзе?..
Цягнік тым часам рушыў жвава,
За горад выйшаў.
Поле.
Лес...

— Яй-богу едзем зноў у С!
— І сапраўды шлях той... цікава?

— Нічога гэта.
Сёння, брат,
Напэўна вернемся назад!
Маліцца толькі трэба богу,
Каб не прыйшлося пехатой
Ізноў прамерваць нам дарогу!
— Ну, хопіць гутаркі пустой,
Пакажа сам бліжэйшы час,
Куды, пашто кіруюць нас.
— Ужо, панок, і так відно,
І не сягоння, а даўно,
Што Польшча выпучыла дно.
— Ты там сядзі ды лепш маўчы.
— Маўчы удзень, маўчы ўначы...
А мы ўсё ж людзі, не сычы!

## НЕЧАКАНАЕ ЗАКАНЧЭННЕ ВАЙНЫ

Стаянка. Доўгі перагон.
Ізноў стаім ля семафора.
Да нас ускочылі ў вагон
Адам з вадзіцелем маёра:
— Навіны ёсць.
Не хваляваццa.
Маўчаць да часу.
Пільным быць.
Вось зараз С., хвілін праз дваццаць,
А там убачым, што рабіць:
Учора раніцай граніцу
Прайшлі ў наш бок бальшавікі...
— Дурніцы з мутнае крыніцы!
— Маўчыце. Гэта не дурніцы,
А звесткі з першае рукі.
Якія іхнія намеры,
Мне, зразумела, невядома,
Аднак прашу вас даць мне веры,
Што хутка будзеце ўсе ўдому.
Канец вайне. Вам, людзям працы,
Зусім не трэба хвалявацца:
Ідзе ўсё так, як лепш не трэба.
Другая справа, што паны
Папруць вас з рускімі змагацца,
Хаця і ведаюць яны,
Што ўжо і нат сам пан буг з неба
Нічога ім не дапаможа,

Бо панскай Польшчы ўжо няма.
А кожны з вас загінуць можа
Зусім бязглузда і дарма,
Калі Савецкая дзяржава
Нясе нам шчасце і свабоду.
Мы супроць братняга народа
Ісці вайной не маем права.
Вось гэта майце ўсе на ўвазе
Ад гэтай хвілі ў кожным разе!

— Вось гэта здорава!
— Ура!
— А што ж, ужо даўно б пара!
— Пара змяніць гаспадара?
— А ты лухты не гавары —
У іх усе гаспадары!
— Ужо пакончана з няволяй!
— Ну, пажывём, убачым болей...

Адам звярнуўся да мяне:
— З табой мы розна меркавалі,
А выйшла лепш,
хоць па-другому,
Бо на вайне як на вайне...
І будзе вызвален Віталі,
І хутка вернемся дадому,
І з гэтым новым светлым днём
Жыццё другое распачнём.

І ледзь прыцішыў ход цягнік,
Пакінуў нас і ў змроку знік,
А ўслед саскочыў шофер той.

І раптам дзікі выкрык:
«Стой!»
З чаргой кароткай аўтамата
Адбіўся ў станцыі пустой.

Цягнік спыніўся ў тупіку.
Уночы спраў было багата:
Разгрузка, марш, затым пастой
І пераправа праз раку.
Тады вось весткаю благой
Наскрозь прабілі сэрца нам:
Той аўтаматнаю чаргой
Забіты ўвечары Адам,
Шафёр паранены у ногі...

І ў той жа час няспынна, хутка
Плыла цішком на ўсе бакі
Адна упорыстая чутка:
«Ідуць, прыйшлі бальшавікі!»

Дык ноччу, кінуўшы ўсю зброю
Ці здаўшы сельскім камітэтам,
Мы, беспарадкавай гурбою
(Начальства наша перад гэтым
Кудысьці знікла — дай бог ногі)
Ледзь толькі стала развідняцца,
Сыпнулі дружна ўздоўж дарогі
Дамоў да сем'яў, к мірнай працы.

Ды вось вусцішна раптам стала:
Шаша, як гром, загрукатала,
І ў промнях сонечнага ўсходу
На фоне ранішняй зары,
Насустрач нашаму паходу,
Як быццам волаты з быліны
Ці фантастычныя звяры,
Узніклі танкі на гары,
А ўслед за імі рух няспынны
Калоны войскаў пачалі.
Гарматы, конніца, пяхота
Шляхі-дарогі занялі,
А неба ўкрылі самалёты.

Вось — над парадамі парад:
І моц,
        і хуткасць,
                і размах!

Над аркай цвіў чырвоны сцяг.
Народ натоўпам. Хлеб, і соль,
І кветкі, музыка, і смех,
І слёзы радасных сустрэч
Пакрылі шлях. Забыты боль
Нядаўніх дзён.
                Праз лес, лугі
Шугнулі сотні новых рэх
І гналі з вёскі гора прэч.

Як брат, як сябра дарагі,
Сустрэты быў ля бедных хат
Савецкай Арміі салдат.
А мы — у польскіх шынялях —

Глядзелі з зайздрасцю на шлях,
Што вось вітаюць так не нас,
Што ў тых радах ідзём не мы...
(Бо на салдата ў польскі час
Народ варожа, як нямы,
Здалёк паглядваў з-за платоў.)

Ды хопіць зайздрасці, дакору!
Не месца ім і не пара!
Ў натоўпе, шапкі ўзняўшы ўгору,
І мы крычым штосіл: «Урраа!...»



У развіцці літаратуры нярэдка надыходзяць такія перыяды, калі яна пачынае праяўляць павышаную зацікаўленасць да роднай гісторыі. Нашы беларускія класікі на пераломе першага дзесяцігоддзя гэтага веку востра адчулі, што родная літаратура па-сапраўднаму не можа развівацца далей, калі эстэтычна не абжыве глыбінны грунт, на якім стаяў, гадуючы сваю трывушчасць, наш народ. Успомнім, як грунтоўна, без адкладу «на потым», узяліся за спаўненне праграмнай задачы Янка Купала і Максім Багдановіч — напісанне героіка-рамантычных паэм пра мінулае. Нараджаўся трывожны эпас старадаўнасці.

І тым не менш у 30-я гады Максім Танк, робячы накіды сваіх «Лісткоў календара», думаецца, меў падставы з гаркотай заўважыць, што, мабыць, ні адна з літаратур свету не з'яўляецца такой «агістарычнай», як наша, беларуская.

У той час, калі Танк, чэрпаючы з эпасу народнай памяці, па-свойму стараўся запоўніць непажадана-вымушаныя прабелы (з'яўляюцца «Сказ пра Вяля», «Каліноўскі»), недзе поруч, у тых жа бурлівых нетрах заходнебеларускага жыцця, спакваля выспяваў талент яго аднагодка Пятра Іванавіча Бітэля.

Эпічны дар творцы, захопленага роднай гісторыяй, мужнеў ад паэмы да паэмы: «Памятны верасень» (1960), «Замкі і людзі» (1964—1965), «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага» (1980—1982). Але парушым храналагічны парадак разгляду, як парушыў яго і сам аўтар, адкрываючы сваю кнігу апошнім, самым буйным і значным творам.

Чаму прыйшоўся так даспадобы аўтару гэты чалавек з легенды, свяшчэнны мніх, чарнец, ігумен аднаго з ацалелых на той час праваслаўных манастыроў старадаўняга Бярэсця, аўтар слыннага «Дыярыуша» Апанас Філіповіч? Асноўная частка «Сказання» пра яго мае назву: «Барацьбіт». Барацьбіт у шырокім сэнсе — за веру, за мову, народныя духоўныя скарбы, за волю свайго прыгнечанага люду. Ён — не нейкі там абмежавана-аскетычны фанатык праваслаўя, які ідзе на крыж, абы толькі не заўладала на землях гвалтоўнае насаджэнне нядаўна абвешчанай у Бярэсці уніяцкай веры.

Пытанне уніі было карэнным пытаннем самога лёсу народа, самастойнасці яго існавання. Брэсцкая рэлігійная унія 1596 г. была своеасаблівым прыспешаным працягам дзяржаўна-палітычнай уніі Люблінскай (1569). Яна была абвостраным працягам той палітычнай, а разам і духоўнай драмы беларускага народа, многіх зямель, плямён, якая пачалася яшчэ ад гаркамыснага акту уніі ў Крэве (1385). Унітарная «адысея» расцягнулася на многія стагоддзі!

Герой «Сказання пра Апанаса Берасцейскага» надзелены гістарычнасцю мыслення. Яго неаднойчы мы бачым у сцятай засяроджанасці пакутлівага роздуму. Гэты чалавек здольны не толькі на выбуховасць рэакцыі рэлігійнага пачуцця — як бы на грані фанатычнасці. Не. Гэта чалавек глыбокага роздуму, той рухомасці развагі, калі думкай прасвечваюцца многія сацыяль-

на-палітычныя пласты, што ахінуты плёнкай рэлігійнасці. Запамінаецца адна са сцэн зацятай спрэчкі ў цямніцы, куды да змардаванага, у ланцугах, Апанаса прыходзяць (каторы раз!) уладыкі — духоўныя і свецкія. Прэлат дакарае: «Глядзіш на справы аднабока... Не дурні унію стваралі». І тут асабліва кантрасна, востра выяўляюцца сацыяльныя прычыны прававерн асці і непахіснай упартасці героя: «Хто ўмее думаць, слухаць, бачыць, той разумее,— кажа ён,— што гора унія прынесла... Што вёску ўзбурыла і места, людзьмі запоўніла турму».

У такіх востра-драматычных сутыкненнях, выдатна пададзеных у форме дыялогаў, гарачых маналагічных прамаўленняў героя, нямала шматзначных радкоў, дзейсных у абсягу многіх часоў.

Шырокае светабачанне героя не прасякнута адчуваннем безвыходнасці. Духоўнікі-папісты хацелі б пераканаць у марнасці ўпартага супраціўлення, самой барацьбы («няма ў ёй перспектывы»). «Няпраўда,— відушча прамаўляе ў цямніцы закуты вязень,— «ёсць святая мэта!» Мэта таму і святая, што яна — дзеля будучыні ўсіх («Не для сябе прашу — для нас, для ўсіх ліцвінаў...», «І не прашу сабе чужога, але назад хачу забраць я, што ў нас аднята ў імя бога».).

Драма героя аўтару бачыцца і ў тым, што значную долю спадзяванняў ён ускладваў на палітычнае ўмяшанне «памазанца праваслаўнага» рускага цара і нават быў «хадаком» да яго (нягоды свайго падарожжа Апанас Філіповіч выкладвае ў «Дыярыушы»). Здарылася так, што герой твора, недзе на парозе свайго сталення, быў несвядома ўцягнуты ў чарговую авантурна-палітычную акцыю — яго запрасілі ў Гальшаны, у замак Сапегі ў якасці «інспектара», для выхавання новага, ўжо трэцяга па ліку самазванца Івана Лубы, якога шляхта выдавала за сына Марыны Мнішак. Герой твора, даведаўшыся выпадкова ад спакутаванай жабрачкі-маці, у якой езуіты выкралі калісь маленькага Янку Лубу для сваіх цёмных намераў, панёс заадно цару Міхаілу і гэту споведзь-навіну (маральнае права такога ўчынку героя потым уладамі расцэньвалася як дзяржаўная здрада). Характэрны, дарэчы, момант: цар, якога гэты чарнец-ліцвін заваражыў сваім незвычайна шырокім кругаглядам, спакушае яго застацца пры сваім двары — па-сутнасці, на здраду абранай мэце (хутка будзеш ты ў чынах, бо муж ты мудры і вучоны). Аднак жа не па чыны ішоў Апанас у небяспечную няблізкую дарогу: «гора гараваць павінен я з сваім народам» — пазіцыя ўжо канчаткова акрэсленая ў справе і мэце служэння.

У цямніцы герой нечакана адкрыў для сябе: яго баяцца!

Скажыце, чым наводзіць страх
На вас зняволены манах?
У вас жа зброя, столькі сілы,
А я адзін, змарнелы, хілы...

Ужо не адзін. З ім была — і тут, і далёка па-за мурамі — грозная слыннасць народнага заступніка, бунтоўнага мніха, з якім ужо не так проста расправіцца. Не памагалі пагрозы, абяцанні змяніць цямніцу на святліцу, сухар на пірог, абяцанні цэлага епіскапата. Безвыніковымі аказаліся падбіванні на ўцёкі, каб пасляць наўздагон, у спіну расправу. Нават дзеўку-блудніцу для зганьбавання і няславы падсылалі. Выпрабаваныя захады! Ды ўсё ж давалі асечку.

Дарэчы, была мажлівасць пазбыцца казематных нягод — пайсці на голас сапраўднага кахання, што незапарушана — чыстым ішло з самой маладосці. Інтымная лінія ў творы іграе змястоўна-двайную функцыю: робіць постаць героя ўважнай чуйнай, далёка не аскетычнай, пацяпляючы і адцяняючы ўсю

суровую драму і трагізм змагання, а разам з тым падкрэслівае высокасць той жа абранай мэты, у імя якой герой вымушаны ісці і на гэту асабіста-інтымную ахвярнасць. Каханая Зося, якую ў свой час у замку Сапегі Апанас ратаваў ад цяжкой немачы, потым сама спрабуе прынесці яму ратунак, выбаўленне з цямніцы, прапануе замужжа. Героя, вядома, стрымлівалі не толькі свяшчэнны сан і прысяга «захоўваць вечны цэлібат», але неабходнасць пасвячэння ўсяго сябе да апошніх дзён абранай мэце — у тым жа сане і стане, якія былі для яго самымі дзейснымі і незаменнымі для несупыннага пратэсту і выкрыцця.

У паэме пра Апанаса Філіповіча яскрава выявілася адметнасць майстэрства, да якога ўзняўся ў паэтычным эпасе П. Бітэль — яго схільнасць да традыцыйных форм апавядальнасці, спалучанай з узнаўленнем сцэнічных карцін, нярэдка востра драматызаваных як унутрана, так і ў форме падачы — праз дыялог і маналог, сутыкненне супрацьлеглых поглядаў, пазіцый. Апошняе надзвычай паспрыяла кантраснай абмалёўцы галоўнага героя. Апавядальная манера Бітэля, дарэчы, таксама не выклікае незадаволенасці, сумнай стомы ўспрыняцця. Аўтар стараецца пазбягаць шэрага пераказу і паўсюль густа афарбоўвае свой апавядальны стыль асабістым успрыняццем, мудрым усмехам, сакавітасцю выразаў, эпітэтаў, гутарковай жывасцю нечаканых дыялогаў і шмат якіх ацэначных форм.

Адчуваецца вывучка ў двух Міцкевічаў, не толькі ў класіка польскай літаратуры, але і ў нашага Якуба Коласа. Эпічная стыхія коласаўскіх паэм доўгі час, як вядома, не мела свайго сапраўды творчага працягу. На новых узроўнях яна адрадзілася і ператварылася выключна ў новую якасць магутнасцю таленту Аркадзя Куляшова. Сёння ж можна гаварыць яшчэ пра адну плынь творчага працягу коласаўскіх і міцкевічаўскіх традыцый — яны ў плённай сучаснай працы эпічнага таленту П. Бітэля, якому выпала, бадай, найбольш непасрэдна сутыкнуцца з вопытам сваіх настаўнікаў.

Нямала яскравых сведчанняў і прыкладаў у доказ такога меркавання даюць нам таксама паэмы «Замкі і людзі», «Памятны верасень». Іх апавядальная стыхія не толькі часта пераважае, але і запалоньвае, нібы шырокае разводдзе, аснову твора.

Узнаўленне вялікага ходу падзей у паэме «Замкі і людзі» прыадхінае заслону над многімі вузлавымі момантамі сярэднявечча, хоць і значна радзей выходзіць, як гэта мы бачылі ў «Сказанні пра Апанаса Берасцейскага», у вымярэнні наступных часоў, у сучаснае суперажыванне кардынальных праблем.

Дзве гэтыя паэмы — «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага» і «Замкі і людзі» — знаходзяцца як бы на адной лініі ўвасаблення гістарычнага лёсу народа. Адна з іх узнаўляе часы пасля Брэсцкай уніі, другая сягае ў падзеі яшчэ больш старадаўнія, якія папярэднічалі Крэўскай уніі. Аўтар як бы і не ставіць спецыяльна праблему мастацкага даследавання прычын, якія падвялі да Крэва. І ўсё ж паказ перыпетый міжусобнай вайны, княскай братазабойчай калатнечы (паход Свідрыгайлы на Андрэя Полацкага, захоп Кейстутам вялікакняскага стала ў Вільні, паланенне Ягайлы, затым паланенне самога Кейстута, расправа з ім у Крэве, уцёкі Вітаўта) стварае прадчуванне надыходу новых, яшчэ больш сур'ёзных зломаў і перамен, якія цяжка адаб'юцца на гістарычным лёсе народа.

Каштоўнасць паэмы ў тым, што яна дае нам немалыя гістарычныя пазнанні, стварае шырокую панарамнасць бачання жыцця замкаў і простых людзей. Часам асобныя мясціны, вобразы могуць выклікаць пэўную нязгоду, як, скажам, спроба гераізацыі Вайдзілы, на абмалёўцы якога трымаецца значная частка кампазіцыйна-структурнай будовы твора (ён ратуе Альгерда, затым Ягайлу, учыняе мноства добрых спраў, апрача,

хіба, пасрэдніцтва ў змове з тэўтонцамі). Але ж аўтар мае поўнае права на ўласна-мастацкую інтэрпрэтацыю вобразаў, характару падзей і г. д.

Часам некаторыя з падзей, у тым ліку і вузлавыя з іх, што кончыліся трагедыяй у Крэве, падаюцца ў канцы твора залішне паспешліва, як бы размова ідзе пра рэчы вядомыя, вартыя толькі напамінку, сціслага выкладу-пераказу. У паэме бясспрэчную каштоўнасць уяўляе ўмельства паэта эпічна ўзнаўляць жыццё і побыт, усё сацыяльнае становішча сялянства, служылага люду, на плечы якога падаў цяжар дзяржаўнай неўладкаванасці, грызні князёў, баяр і паноў. Вобраз мяцежнага Няжылы, які сабраў галоту і з помстай рушыў на Вільню і нават захапіў яе, запамінальна-прывабны, схоплены каларытна-рамантычна, у непазбежнай трагічнай выніковасці таго стыхійнага выбуху, калі людзям смерцю давялося плаціць за нейкі дзень волі.

Твор «Памятны верасень» не прэтэндуе на жанравае вызначэнне паэмы з яе эпічнай шырынёй асэнсавання. Аўтарам пазначачы ён як «урыўкі салдацкага дзённіка», хоць мы разумеем, вядома, што гэта таксама форма паказу падзей, таму што напісанне «дзённікавых» фрагментаў на справе вялося ажно праз два з лішкам дзесяцігоддзі. Паэту важна было ўзнавіць, дэталёва зафіксаваць у вершаванай форме ўсё з тых першых дзён верасня. Непасрэдна, гранічна праўдападобна, у саміх жыццёва-рэальных формах, без прыхарошвання, з яшчэ да канца не ўсвядомленым адчуваннем усяго трагізму, які з тых першых вераснёвых дат надыходзіў з пачаткам 2-й сусветнай вайны.

Спешна прызваныя ў белапольскае войска хлопцы-беларусы, сярод якіх апынуўся і аўтар твора, убачылі і жах першых ахвяр новай сусветнай вайны, і грозны шквал разбурэння, руін, а таксама адчулі сваю вымушаную бяздзейнасць, калі гарнізон трапіў у зачараванае кола незразумелых пагрузак і выгрузак у цягнікі, пустога курсіравання па адных і тых жа пунктах прызначэння. Відавочна, буржуазныя ўлады меркавалі перакінуць гарнізон як заслону, але ўжо не з захаду, а з усходу, адкуль 17 верасня рушыў вызваленчы наступ Чырвонай Арміі. Героя твора мы бачым у радасна-ўзбуджанай грамадзе вясковага люду, які гасцінна, з усхваляваным вітаннем сустракае танкавыя часці, што неслі спакутаванаму заходнебеларускаму народу доўгачаканае вызваленне і вялікія надзеі.

У сваёй кнізе паэм Пятро Бітэль паўстае як сталы майстар паэтычнага эпасу. Паэт умее шырока ўзнавіць свет народнага жыцця ў глыбінна-гістарычных пластах, якія вымагаюць праніклівага таленту, дасведчанасці, грамадзянскага стаўлення. Аўтар адгортвае перад намі толькі некаторыя старонкі трывожнага эпасу старадаўнасці, але мы адчуваем пад многімі напластаваннямі часоў як бы гарачы прысак самога гістарычнага лёсу нашага народа, бачым, з якой сапраўды грамадзянскай заклапочанасцю аўтар стараецца асэнсаваць тыя вырашальныя, балюча-напружаныя моманты народнага жыцця, якія і сёння не могуць не ўплываць на грунтоўнасць і паўнату нашага самаўсведамлення. Упэўнены, што лепшыя рэчы паэта важка ўвойдуць у паэтычны набытак нацыянальнага эпасу і выклічуць удзячнасць кожнага, хто цікавіцца роднай гісторыяй у яе непарыўных звязках з сучаснасцю.

МІКОЛА АРОЧКА

ЗМЕСТ







*Петр Иванович Битель*

ПОЭМЫ

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар Л. В. Драньго-Майсюк*
*Мастацкія рэдактары В. П. Жыжэнка, А. М. Малышава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар К. А. Крукоўская*

ІБ № 2068
Здадзена ў набор 22.02.84. Падп. да друку 02.08.84. АТ 06605. Фармат 60×108¹/₁₆. Папера мелаваная. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 20,40. Ум. фарб.-адб. 41,85. Ул.-выд. арк. 17,83. Тыраж 3000 экз. Зак. 179. Цана 3 р. 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.

**Бітэль П.**

Б 66 Паэмы/[Аўт. паслясл. М. Арочка; Маст. А. Кашкурэвіч].— Мн.: Маст. літ., 1984.— 271 с., іл.

У пер.: 3 р. 60 к.

Змест кніг складаецца з трох паэм — «Сказанне пра Апанаса Берасцейскага», «За́мкі і людзі», «Памятны верасень». Першая паэма прысвечана жыццю і дзейнасці выдомага беларускага пісьменніка-публіцыста XVII ст. Апанаса Філіповіча. Другі твор вяртае нас да часоў Вялікага княства Літоўскага. Заключная паэма апавядае пра самы пачатак другой сусветнай вайны.

ББК 84Бел7
Бел2

Б $\frac{4702120200-136}{М 302(05)-84}$ 45—84